Жыцьцё закон нязломны мае:
ніколі праўда не ўмірае.

*Уладзімер Дубоўка.*

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

0.

Учора і заўтра – гэта памяць і праўда.

Сёньня – іхняе злучво.

Розьніца паміж памяцьцю і праўдай – розьніца паміж учарашнім і заўтрашнім адкрыцьцём.

Альбо розьніца паміж лірыкай і матэматыкай.

Альбо розьніца паміж нараджэньнем: стагоддзе таму ў сямейнай радасьці ці дзесяцігоддзе назад – у гонары нацыі.

Альбо розьніца паміж першым крокам: па глінянай падлозе да матчынай рукі ці па сучаснасьці ў вечнасьць.

Альбо розьніца паміж хадой: напрамкі – і па крузе.

Альбо розьніца паміж сьмерцю: сёньняшняй – і заўтрашняй.

Калі да праўды дадаць памяць – атрымаецца ісьціна.

Калі ад праўды адняць памяць – будзе хлусьня.

Калі ад памяці адняць праўду – будзе жыцьцё.

Жыццё ад памяці да праўды і ёсьць сёньняшні шлях ад учора да заўтра.

1.

Хата стаяла большасьцю вокнаў да вуліцы. Зробленая са звонкіх бярвёнаў, яна добра трымала цяпло зімой, а прахалоду – летам. Пакоі ў хаце па-дзялілі ад печы: з тога боку, дзе страшна раскрываўся чорны ад сажы рот, што хаваў цэлыя бярэмі дроў, і чыгуны, і патэльню, – была кухня; аб-шмальцаваныя нагавіцамі й валёнкамі два бакі печы глядзелі на спальню, трэці бок, выбелены больш старанна, атрымала «заля».

Вечарамі, калі на вуліцы пасьвістваў марозны вецер, ён любіў сьцішыцца ў запечку, каля коміна, накласьці на чарэн, каб не было мулка, старых апранах і цікаваць зьверху за тым, што робіць бацька: ці падшывае ў скупым сьвятле газоўкі кажух, ці выразае адной рукой (другая, пашкоджаная, была бяз пальцаў) лыжку… А яшчэ любіў марыць, і мары тыя зазвычай былі летнія – бо зіма моцна надакучвала. Канешне, калі б у яго былі такія валёнкі, як у фельчаравых сыноў, ды ўцеплены вацінай палітон-чык – ён бы не

сумаваў: за агародамі, там, дзе намятала найболей сьнегу, такая горка! Старэйшыя хлопцы аблівалі яе вадой, і па лёдзе, разагнаўшыся, можна было сунуцца ажно да самай рэчкі! Толькі ж дзе на ўсіх іх – чатырох – набрацца тых валёнак ды палітончыкаў…

Як малодшаму, яму даводзілася саступаць «чаргу» на вопратку – і сястры Тасі, і братам. Напачатку, праўда, спрабаваў плакаць, ды маці не сьпяшала са шкадаваньнямі: няма чаго па марозе гарцаць, ляжы на печы – здаравей будзеш. І зімой ён часьцей сяграваў з печкай (так – памяншальна-ласкава – звалі яе ў хаце ўсе дзеці, хоць насамрэч печ была – асабліва для яго – вялікай, і без табурэткі ён ня мог узьлезьці нават да прыпечка. Здаралася, нават падаў. Аднаго разу і моцна «праверыў» падлогу ілбом.

Маці клала на печ то мяшэчак з гарбузікамі, то сушаныя яблыкі, і тады, гледзячы зьверху ў напаўзамерзлае вакно, зімовыя гадзіны цягнуліся ня так марудна.

І ён летуценіў пра цяплынь, калі нарэшце дазволяць плёскацца ў рэчцы, калі застанецца начаваць у дзеда Янкі, будзе «пасьвіць» ягоныя пчолы, за што, канечне ж, атрымае кус мядовых сотаў…

Дзед Янка Гайдуковіч, матчын бацька, жыў у маленькай – на пяць-шэсьць хатак – вёсцы Язы паміж Варанцом і Шабанамі. Затое прасторы было ў той вёсцы яшчэ болей, чым у іхніх Агародніках: хаты месьціліся зводдаль адна ад адной, і дзедава сяліба стаяла нібыта ў асобным засьценку. На ўзгорку – сад, вульлі. Зямлі Язаўцы мелі небагата, затое кожны валодаў «надзелам» возера Доўжа – маглі лавіць там рыбу хоць сеткамі.

Было ў дзеда Янкі, акрамя маці (старэйшай дачкі, якая пакуль адна выйшла замуж), яшчэ чацьвёра дачок. (Адзіны сын, якога на апошнія грошы здолелі вывучыць, захварэў на сухоты і памёр у далёкім Пецярбурзе.) Яны любілі малодшага пляменьніка і хоць на тыдні ахвоціліся пакідаць яго ў сябе. Прышкадоўвала малодшага ўнука і бабця. І Уладзіку было з імі цікава, асабліва калі тыя браліся ткаць або вязаць сеткі. Праўда, не сумаваў у Вязах і з дзедам – калі той браў у лес.

З маладосьці дзед Янка – лясьнік. У яго ёсьць нават стрэльба, толькі – як не хацелася Уладзіку – у лес яе ня браў, – так і вісела ў хаце над ложкам. З сабою дзед зваў Цяву – невялікага сабаку, якога шчанюком выпрасілі ў панскім двары. «Карысьці, праўда, ад цябе ніякай, – усьміхаўся дзед, – Аднак жа весялей». Ні ўкусіць каго Цява ня мог, ні нават гаўкнуць. Адно калі бачыў чужога чалавека – бег да парога і стукацеў лапамі ў дзьверы.

Яшчэ ў дзеда на левай руцэ не было частачкі сярэдняга пальца. Дзе дзелася – пра тое не хацеў гаварыць. І Уладзік прыдумляў сваё: ці мядзьведзь, ці воўк адкусілі. Насамрэч, як потым даведаўся, усё было яшчэ страшней: дзед ішоў лесам, за поясам – сякера; раптам якраз перад ім штось каляровае мільгатнула каля дупла; дзед – руку (левую) у дупло, як штось за палец і цапнула; з перапуду пацягнуў руку – а на пальцы нейкая пачвара вісіць, крыламі лапаціць... Дзед за сякеру, пачвару на пень ды па шыі тому страхоцьцю... Толькі крышку не пацэліў – і на пні частку свайго пальца і пакінуў. А потым, ачуняўшы, распазнаў у тым страхоцьці звычайную жаўну...

Дзед Янка быў добрым і стрыманым чалавекам. Толькі аднаго разу Уладзік бачыў яго ўсхвалявана-злосным. Ужо і паснулі ўсе, як нечакана Цява застукаў у дзьверы. На гэта адразу не зважалі: можа, зьмёрз, у хату просіцца (а якраз бралася на халады, падыходзіла Піліпаўка). Аднак Цява, як яго не акрыквалі, не сунімаўся. І тады дзед вызірнуў у вакно.

– А божа ж мой! – толькі й вымавіў. Скочыў да ложка, усунуў у стрэльбу набой і ўжо ад дзьвярэй: – Дабудзі малога, каб не спалохаўся...

А праз хвілю – стрэліў.

У садзе, у невялікім сьвіране, што быў непадалёк ад хаты, але праз дарогу-вуліцу, стаялі чатыры скрыні (іх звалі кубламі), куды дочкі складвалі свой пасаг. А тае начы злодзеі падагналі да сьвірана дзьве фурманкі і пачалі выносіць кублы. Напалохаліся нечаканага стрэлу, пакідалі і калёсы, і коней...

Цяву запаважалі яшчэ болей.

Любіў Уладзік і свайго другога дзеда Хведара, бацькавага бацьку, які нарадзіўся і жыў у Манькавічах, крыху на поўнач ад Агароднікаў, каля Гарэлага балота. Часта слухаў ягоныя аповеды пра свайго бацьку Якуба – Уладзікавага прадзеда. Прадзед быў хоць і не вучоным, ды ведаў назву кожнай зоркі: Коўш, Сітцо, Алень... Бездакорна вызначаў час, калі што сеяць ці садзіць: «Трэба ўжо кідаць у зямлю (тое і тое), бо на дубе ліст стаў, як заечае вуха»...

Прадзед меў здароўе асілка. Неяк з суседзьмі ехаў з Мядзела, з кірмашу. На паўдарозе – карчма. Зайшлі пагрэцца, па чарцы паспытаць. Якуб сеў за стол, прыхінуўся да сьцяны – а прасьценак і вываліўся. Карчмар узьняў хай:

– Плаці за рамонт!

– І ня думаю... У цябе не карчма, а развалюха, то мне табе новую збудаваць?! Прыедзь да мяне і паспрабуй прасьценак вываліць...

А яшчэ, расказвалі, загразла аднаго разу на балоце ягоная кабыла. Добрыя людзі пачалі цягаць ламачча, жэрдкі. А прадзед спакойна:

– Чакайце-чакайце, дзеткі... – і пад кабылу, узваліў яе пярэднія ногі сабе на плечы – і вывалак на сухадольле...

Прадзед кеміў і ў «архітэктуры»: збудаваў так сваю сядзібу, што... пажар да яе ня мог падступіцца. Суседзі думалі, што ў Якуба ў хаце – цудадзейны абраз, і ў час новага пажару абносілі яго вакол вёскі, аднак агонь не суняўся. Прадзед тады навучыў свайму сакрэту і аднавяскоўцаў: усе надворныя будынкі трэба аддзяляць ад вуліцы садам, і хату таксама ў садзе ставіць – тады агню скрозь яго дабрацца цяжэй...

Якуб пражыў сто тры гады і перад сьмерцю асьлеп. Памыўся ў лазьні, «Не хачу жыць дармаедам, бо працаваць больш не магу», – сказаў зьнiякавеламу сыну-адзінцу Хведару, апрануўся ў чыстае, лёг у ложак – і перастаў і есьці, і піць. Як ня ўкленчвалі перад ім – нават вады ані кроплі ня ўзяў. На трэція суткі памёр. Пахавалі яго на ўскрайку Агароднікаў, пры так званым Пральлі (непадалёк бабы «пралі» бялізну). На Манькаўскіх могілках пахаваць не дазволіў поп, – назваў яго самагубцам. Хведар паставіў над бацькавай магілай высокі дубовы крыж. І застаўся гаспадарыць адзін на валоцы зямлі.

Цяпер, праўда, дзед Хведар таксама стары і нямоглы. Калі Уладзік яшчэ ляжаў у «люльцы», конь выцяў дзеда капытом пад самае сэрца, – і з кожным годам дзед слабеў. Аднак не стамляўся расказваць цікавыя казкі, а таксама ня менш цікавыя, хоць крыху і незразумелыя, аповеды, якія заве нейкімі «георгікамі». (Толькі праз гадоў пяць-сем Уладзя дазнаўся, што гэта дзед ператалумачваў на свой капыл цэлыя разьдзелы з прачытаных у арыгінале «Георгікаў» Вергілія. Дзед добра ведаў латынь, а паспрыяў яму ў тым пан Юстын Палівода, які прагуляў сваё багацьце, разышоўся з жонкай – і якога прытуліў у сваёй хаце прадзед Якуб.)

А яшчэ дзед Хведар умеў гаварыць з бусламі. На старым клёне каля яго сядзібы жыла сям'я бацяноў (так у іхняй мясцовасьці звалі буслоў). Калі раставаў сьнег і сонца ўсур'ёз пачынала налечваць-грэць зямлю, – наставаў для Уладзі вельмі адказны час: пільнаваць прылёт буслоў. І лета пачыналася для яго якраз ад гэтага прылёту.

Зазвычай дзед поркаўся на гумнішчы, старэйшым братам таксама хапала сваіх заняткаў, а ён гадзінамі праглядваў лёгкія вясновыя аблачынкі, і як толькі заўважаў над вёскай белых птахаў – вопцасам нёсься да дзеда:

– Бацяны! Дзеда, бацяны ляцяць!..

Дзед усьміхаўся, кідаў сваю работу і разам з унукам, пасур'ёзнаму ўзьнімаючы свае густыя бровы, ішоў да клёна. Чакаў, пакуль бусьліная пара, павольна-велічна пакружляўшы над сядзібай, нарэшце стане на гняздо, і пачынаў – найперш да гаспадара:

– Дзень добры, боця!

А бусел, нібыта зразумеўшы, у адказ ляскатаў дзюбай:

– Та-та-та-та…

Дзед жа:

– То дзе ж ты лётаў, што бачыў?

Бусел зноў:

– Кла-кла-кла-кла…

– Ну то добра, пажыві і ў нас. Ніхто цябе і тут ня скрыўдзіць.

– Кта-кта-кта-кта…

– Вось чуеш, унучак, боця дзякуе нам за сустрэчу…

І ня толькі пра буслоў марылася на печы Уладзіку. Доўгімі вечарамі ён уяўляў, як крыху падрасьце – і бацька пачне браць яго лавіць рыбу, як і ён будзе цягнуць да берага шырокую сетку, як цёплая вада лагодна казытацьме яго, як залюструюцца на вазёрнай роўнядзі сонцавы ўсьмешкі, як здалёк будуць назіраць за ім маці з сястрой – і шаптацца…

…Ён прачнуўся і вызірнуў з запечка на кухню. Аказалася, гэта і насамрэч ціха, каб не пабудзіць братоў і малодшае немаўля (якое мерна сапела ў падвешанай да столі люльцы), перашэптваліся пра штосьці сястра з маці.

Была нядзеля, бо ў хаце – аніякай стукатні. Маці пякла грэцкія бліны, а сястра дапамагала ёй.

– Мамка! Дай блінка! – узрадаваўся ён.

– Цішэй, рана яшчэ. Хату пабудзіш… Ды й напачатку трэба памыцца, змовіць пацеры, а тады ўжо – за бліны.

– Я ж ня ведаю пацераў…

– А бяз іх нічога ня будзе. Прыдумай.

Матчын голас падаўся яму вельмі сур'ёзным. Ён павольна зьлез з печы, сеў за стол, прыгладзіў чуб (усё астатняе бацька выстрыг), і нечакана для маці загаварыў:

…Ты – наш Бог.
Твая і хата,
твая і печ.
Але ж мама – наша.
Мама ўчыняла бліны,
мама пякла бліны.

То і бліны – нашы...*

– Усё, змовіў, давай бліна, – скончыў ён свае «пацеры», і расчуленая маці паклала перад чатырохгадовым «паэтам» пахкі, змазаны маслам блін – яго першы ганарар.

Ад самага нараджэньня наканоўваўся яму лёс біблейскага Маісея... У першым ліпені стагоддзя пабачыўшы сьвет і паспытаўшы матчынага малака, ён ціхенька ляжаў у калысцы. Лета выдалася сухім, сьпякотным.

«Трэба жыта жаць, – турбавалася маці. – Вазьму Ўладку з сабой у поле, пакладу ў бабку, пад снапы. І прахалода, і ад мяне блізка...» І ўжо ўкруціла малога, і з хаты выйшла, як каля брамкі яе перастрэлі старэйшы сын Ваня, два фельчаравы і тры крамнікавы хлопцы: валаклі вялікія драўляныя начоўкі.

Маці расчулілася:

– Дзякуй, хлопчыкі. Але ж у нас ужо ёсьць балейка, каб купаць Уладзьку...

– Не, у гэтых начоўках мы панясём яго на млын, – прабурчэў Ваня.

– На які млын? Навошта?

– А пусьцім па рэчцы... Каб ня плакаў тут, спаць ноччу не перашкаджаў!

Адпытлявала тады маці сына за дурныя думкі, а сама яшчэ доўга і ўспомніць пра тое баялася: вазьмі тады пакінь на колькі гадзін малога ў хаце (як часта рабіла раней), хлопцы і зьнесьлі б малога на рэчку...

«Выцягнены з вады» – гэта ў перакладзе азначае слова Маісей. Калісь, выконваючы волю егіпецкага фараона, яго пакінулі на рэчцы ў абсмоленым кошыку. Выратавала Маісея фараонава дачка, якая прыйшла да вады мыцца... Фараонаў у іхніх прымядзельскіх краях не было спакон веку, і выратоўваць малога давялося маці...

Сьмерць цікавала за ім яшчэ з малалецтва. Аднаго разу нават апусьціла на яго... сваю сякеру. Маці адтапіла малако і павесіла клінок з тварагам на тапарышча – каб сьцякала ў вядзерца сыроватка (сякера ляжала на лаве і служыла адвесам). Калі маці выйшла з хаты, яму закарцела ўзьлезьці на тую лаву... Клінок з тварагам зваліўся ў вядро, а сякера, падаючы, дзюбнула сваім лязом па ягоным дасьціпным носе.

Плач, кроў! Маці кінулася з малым да вясковага фельчара, балазе той жыў праз вуліцу. Фельчар і прышыў падсечаны нос, аднак яшчэ болей прыстрашыў:

– Гэта нічога, зарасьце. А магла б, ня дай Бог, сякера па ілбе ці воку сekануць...

Рана загаілася хутка, нават рубца не засталося, вось толькі фельчаравы хлопцы пачалі зваць яго Прышываны Нос. Ды тое нічога: ад мянушкі шкоды было менш, чым ад сякеры.

А яшчэ ён помніць іншы сполах – люты, сьмяротны, па ўсёй вёсцы які разыходзіўся.

Завітаў неяк у вёску падарожны: стары, худы, у страшным рызьзі. Абступілі яго дзядзькі: «Што ў сьвеце чуваць?», – пытаюць.

– Кепскае чуваць, – адказвае той. – Скора зьявіцца на небе Боскі анёл і будзе трубіць у трубу, каб паклікаць на суд усіх жывых і нябожчыкаў. Магілы паадкрываюцца, і будзе канец сьвету...

Прачулі пра гэта, канечне ж, і дзеці. І, як на тое, праз некалькі дзён над Агароднікамі – аграмадны шар, пад ім – драўляны кош, а з каша тоўстая вяроўка ажно да зямлі, як хвост, цягнецца, нейкая постаць з каша вызірвае і ў трубу трубіць...

Кінуліся ўсе па хатах, павыносілі абразы. Страхата, крыкі жудасныя. І яму тады здалося, што зямля задрыжэла пад нагамі – вось-вось хату праглыне, а сонца нават сьвяціць слабей пачало...

Памаліліся адчайна вяскоўцы – і нябесная здань адплыла, – за поле, пад Манькавічы, да Гарэлага балота. Там было ўрочышча. Пасьвячы колісь коней, малыя ўпалілі ў тым балоце торф, і зімой і летам дыміла яно, а затым у выгарыну абвалілася і зямля, і дрэвы. Толькі чорныя макаўкі тырчэлі цяпер над Гарэлым балотам.

За адну з іх і зачапілася вяроўчына з паветранага шара. Па ёй зьлезьлі двое «анёлаў» і пашыбавалі назад да Агароднікаў. А там – багамольле.

Адзін з «анёлаў» пачаў так лаяцца, як у вёсцы аніводзін мужчына ня чуў.

Аказалася, што з Ковенскай крэпасьці вайскоўцы пусьцілі паветраны шар – аэрастат. А ў ім нешта папсавалася, і «аэранаўты» – каб уратавацца – пачалі зваць на дапамогу вяскоўцаў. А каб лепей чутно было – у трубу дудзелі. Толькі ж адкуль тым вяскоўцам ведаць было пра тыя аэрастаты...

Біблейскі Маісей пачынаў сваю працу пастухом авечак. Авечак бацькі Уладзі не трымалі, аднак і ён паспытаў пастухоўскага хлеба: пасьля дзедавых пчол пачаў пільнаваць на выгане гусей, а як

споўнілася шэсць гадоў, яму – рösламу і не па часе дужаму – даверылі пасьвіць і статак кароў.

Вясковы выган стаў кепскім, заместа травы ўскоквалі калючкі, і бацька арэндаваў пасеку ля Доўжы. Гаспадары пасекі жылі далекавата ад возера, і «пашу» – траву паміж шыхтамі вульляў – не скарыстоўвалі. Вось і пусьцілі туды іхніх кароў, і плату невялікую запрасілі: калі-нікалі масла ды сыроў.

Ад хаты да пасекі – тры вярсты лесам. Уладзя браў яды на цэлы дзень і вяртаўся з каровамі толькі вечарам. У абед падганяў іх да возера, туды прыходзіла маці з даёнкамі. Адносіць малако дапамагалі старэйшыя браты.

За вёскай шапацела ў чаратах Мядзелка. Яна апаясвала два палеткі. Паплавы па абодва берагі належалі вяскоўцам. За тыя паплавы калісь вялася сапраўдная бойка. Гэта былі добрыя сенажаці, а –да ўсяго – з іх лацьвей дабіраліся вяскоўцы да панскага лесу.

І аднаго разу адміністратар абвесьціў пра тое, што паплавы яшчэ здаўна належалі князю, а таму наўзамен іх адводзіцца зямля Залатухі – багністы дзірван у лесе.

Сабраўшы грошай, вяскоўцы выправілі пасланца да віленскага адваката. Аднак той не пакінуў аніякай надзеі: «Ваш жа князь – у былым царскі міністр...»

Не зважаючы на грозьбы, вяскоўцы зноў пачалі касіць паплавы, сушыць сена. Вазіць жа яго давялося ў гумны княскія – пад прымусам салдатаў.

А як ноччу салдаты паўпіваліся (у князя быў свой бровар), ускочыў на княскія гумны, стайні і пуні чырвоны певень...

Панаехала нараніцу жандараў, але вяскоўцы ў адзін голас аднекваліся-апраўдваліся:

– То ж п’яныя салдаты да пажару давялі...

Панскі лес, дзе і спала балота Залатуха, пачынаўся за рэчкай ад левага поплава. У лес той Уладзя бегаў толькі аднойчы, ды й то з братамі. Лес багаты, гонкі, і маніў ён ня менш, чым рэчка, асабліва калі ўзлазіў на дзедаў клён з бусьлянкай – з вышыні рэчка паказвалася адным сваім бокам, ды і то закрытым трысьцём, а вось лес... Лес уражваў веліччу, прасторам. Нібыта зялёнае лісьцёвае мора зьбіралася вось-вось сьцячы нізкім поплавам у рэчку, заліць і затапіць усё наў-кол...

Яму тады здавалася, што лепш, чым з дзедавага клёна, разглядзець ваколіцу немагчыма. Аднак, як выявілася (праўда, толькі праз пяць гадоў), можна было – і нашмат лепш!

Здарылася тое ў вайну. У Агародніkі заехаў конны нямецкі дазор: з доўгімі пікамі, у зіхоткіх шлемах са сьмешнымі дзюбкамі-пікамі зьверху. Сьпешыліся, пайшлі ў Лідчыкаву хату – стаяла скрай вёскі, на ўзвышку. А адзін, маладзейшы, сьцярожка палез на страху і пачаў у бінокль азіраць манькаўскую дарогу, Калееўскае поле, лес. І якраз Уладзя з малодшым братам Язэпам сунуліся чагось паўз тую хату – і заглядзеліся на немца.

– Лезьце сюды, – запрасіў той па-нямецку.

– Нямецкую Уладзя тады пачаў ужо вывучаць і крыху разумеў, ды і скласьці тое-сёе мог.

– А што вам трэба? – насьцярожыўся.

– О, вундэркінд! – усьміхнуўся немец. – Лезь, ня бойся!

Пэўна ж, Уладзю карцела ўзьлезьці на страху, але і немца пабойваўся, ды і самога Лідчыка – можа і вушы за тое нацягаць... Аднак цікавасьць перамагла, ды і не па сваёй жа волі... Заве вунь...

Адвёў ён Язэпа за плот, а сам паволі па вянках бярвёнаў і ўзьлез на страху.

Немец бліжэй падзывае – і бінокль, не зьнімаючы раменьчыка з шыі, прапаноўвае...

Душа Уладзева так і зайграла, калі зірнуў у зіхоткія лінзы... Адразу перад вачыма – як рукой працягнуць – выскачылі арэшыны, якімі пачынаўся лес. Кожны лісьцік відзён!

«Так і з печы грыбы зьбіраць можна», – падумалася. Адвёў бінокль – рэчка і млын на ёй, пад узгоркам – таямніча-страшнае, але й прыгожа-дзіўнае Рудакоўскае возера, за млынам – Доўжа люструецца, а за ім іншыя вазёры выблісквалі: Глодава, якое злучалася з Доўжай пратокай, Задзеўскае (гэта ж ужо амаль пад Паставы), а недзе там, далей па Мядзелцы, губляліся Кавалькі, Думбля, Ксяндзоўскае, Мажэйскае, – цэлая вязанка вазёраў...

«А чаму ў нас столькі вазёраў, а недзе, пішуць, іх зусім няма?», – спытаў ён неяк у бацькі. Той зірнуў сур'ёзна, пачухаў патыліцу:

«Пэўна, Бог больш нашу зямлю любіць. Бо возера – гэта ж ня толькі прыгажосьць, але і багацьце».

«А вазёры і да нас былі?»

«Былі... Яшчэ і тады, калі на гэтай зямлі і людзі не жылі».

«То навошта ж іх Бог так рана даваў? А раптам людзі не знайшлі б іх у нашых лясах?»

І тады дапамагала маці:

«Бачыш, якое неба над намі чыстае? Вазёры яшчэ і дзеля таго, каб неба ў іх ранкам магло памыцца...»

...Ён доўга б тады разглядваў у бінокль ваколіцу, калі б не прынесла ліха глухога Нямакалі (так празвалі ў вёсцы старога Укашчыка, – дзе трэба і дзе ня трэба ўсоўваў ён сваё «няма калі»). Прыклэпаў ён да Лідчыкавага суседа-ўдаўца казака. Раз паклікаў з вуліцы, другі. Той не адзываецца. І тады яшчэ мацней:

– Казак! Ка-за-а-а-к, ці чуеш?! Няма калі мне тут чакаць...

А немца як варам аблілі. Выхапіў бінокль – і кумільгом са страхі.

– Казакен... Казакен! – ускочыў у Лідчыкаву хату. А праз хвілю, скочыўшы на коней, дазор – думаючы, што да вёскі падступаюць казакі – зьнік.

Назаўтра праз Агароднікі і насамрэч прайшоў эскадрон данскіх казакоў, аднак такіх біноkляў у іх ужо не было...

2.

Ён адчуўся дарослым, калі аднойчы з бацькам заводзілі брэдзень-трай-нік – ціха, каб не палохаць рыбу, якая, як думалася, у той час ужо спала (а лавілі зьвечара і ледзь не да ночы), расстаўлялі трайніковы «крылы» і, сунучы да затончыка, паволі злучалі іх... А на плячах цяжэлі і цяжэлі торбы – з лінямі, язямі, акунямі...

Ці, можа, «падрос» ён той раніцай, калі дзед Хведар асадзіў адмыслова для яго коску-шасьцёрку – і дазволіў прайсьці пракос. Якой цяжкай не здавалася тады каса – не скараўся, не паказваў сваёй стомленасьці, забег і ў другі пракос, а калі ўжо моцна пачаў грывіць, дзед прапанаваў адпачыць, пахваліў і ўшпіліў сваё: «І баран бы касіў, калі б хто касу насіў»...

Аднак сталеньне ягонае пачалося ня з тых рыбарства ды касарства, а з першай закаханасьці...

У тое лета лёс намераў яму восем гадоў. Міленка была прыгожай і добрай. Вучылася ажно ў Вільні, у епархіяльным вучылішчы, а на вакацыях была дома і сябравала з ягонай сястрой Тасяй. Калі ён вечарам гнаў з пасекі кароў – заўсёды заўважала, клікала да сябе ў сад «лётаць на гігантах». І ён ахвотна згаджаўся, заліхвацка раскручваў за ляйчыну (з су-працьлеглага боку сядзела Міленка) прымацаванае да высокага слупа кола, падскокваў – і яны абодва на якую хвілю ўзьляталі ледзь не да самых яблыневых шатаў, радасна пішчалі; вецер абцягваў яе тонкую сукенку, раскрываў незагарэлыя каленкі; яна сьмяялася, гарэзіла, шчокі прыгожа ружавелі, а па сьціснутых вейках кружлялі яскаркі вечаровага сонца...

Міленка прывозіла з Вільні цікавыя кніжкі, з малюнкамі, у каляровых скураных вокладках, і яны часта падоўгу любілі гартаць іх цьвёрдыя старонкі.

У яго і самога было ажно тры кнігі: апавяданьні Льва Талстога, казка пра Баву Каралевіча (выданьні ценькія, танныя) і... «Каталог кніг Віленскай публічнай бібліятэкі» ў скураным пераплёце. Першыя дасталіся яму «ў спадчыну» ад старэйшых братоў, апошнюю ж ён набыў сам. Калі памёр вясковы поп – айцец Міхаіл Міркавіч, ягоныя дзеці наладзілі аўкцыён, на якім прадавалі бацькаву маёмасьць. Ён дачуўся, што там зьбіраюцца прадаваць і кнігі з паповай бібліятэкі. Выпрасіў у маці восем капеек – і на распродаж. Аднак кнігі – псалтыры, «Жыція» – ацэньваліся ня менш, чым у паўрубля. За «Каталог...» жа ніхто столькі не даваў. Вось кнігу і «ўступілі» яму за пятак...

Такія ж выданьні, якія паказвала яму Міленка, ён бачыў толькі ў княскай бібліятэцы.

Наогул, і зямля, і палац нябожчыка-князя здаваліся ім, вясковым хлапчукам, таемным іншасьветам, велічным і зманлівым. Колькі разоў яны ўпрошвалі старога добрага садоўніка і наведвалі князеву аранжарэю – аграмадную зашклёную пабудову, дзе зелянелі ў тры чалавечыя росты невядомыя ў іх краях пальмы і пярцовыя дрэвы. А кветак – розных колераў, формаў, пахаў, – цэлае мноства!

А аднойчы падпіты княгінін кухар Кароль, падкручваючы свае сівыя бакенбарды, расказаў пра багатыя палацы, у якіх ён «працуе». Тады і дайшла да іх вушэй чутка пра кабінет-бібліятэку, дзе нібыта ўсе сьцены застаўлены шафамі, а ў шафах тых – кнігі, і папера іх – як тонкая скура, вокладкі ў золаце і срэбры. А кніг ніхто ў рукі не бярэ, адно глухая па-каёўка Марцэля зрэдку пыл з шафаў сьцірае.

Вось і захацелася ім – двум старэйшым братам, сыну крамніка Моўшы і яму – наведацца ў тую бібліятэку... Падчакалі, калі старая княгіня прылегла ў абед адпачыць (а тады нікому з прыслугі не дазвалялася хадзіць па пакоях), – цішком узьлезьлі, як малыя кацяняты, на балкон-тэрасу (балазе той моцна ад самай зямлі ўплятаў дзікі вінаград) і праз вялізную залу з белымі фігурамі-бюстамі распранутых мужчын і жанчын зіхоткім ад пчалінага воску паркетам, які – як люстэрка – адбіваў іхнія крыху скошаныя постаці, выйшлі ў доўгі калідор ці не з дзясяткам дзьвярэй. Яны па чарзе, каб не працінуць бібліятэку, расчынялі іх, пакуль урэшце не натрапілі на безьліч кніг. Здалося, што з іх былі складзены сьцены пакоя: ад падлогі да столі, між вокнамі – кнігі, кнігі, кнігі...

Яны гарталі іх па чарзе, асьцярожна, п’янеючы ад нязьведанага, ад багацьця і хараства, увекавечанага ў чорна-белых і каляровых малюнках.... і нават не заўважылі, як у прачыненых дзьвярах зьявілася пакаёўка Марцэля. Яго старэйшы брат Ваня сядзеў у

князевым крэсьле-каталцы (перад сьмерцю князь ня мог хадзіць) – сьпіной да дзьвярэй, і глухая падсьлепаватая Марцэля, прыняўшы яго, пэўна ж, за нябожчыка-гаспадара, нема крыкнула і самлела.

Хлопцы кінуліся ратавацца – а зьнізу ўжо чуліся чыесь галасы, тупат. Выратавала доўгая вінтавая лесьвіца на гарышча, дзе яны і прасядзелі да ночы, чакаючы, калі ўсе ў палацы паснуць і можна будзе незаўважна спусьціцца на грэшную зямлю…

3.

Зямлянку зрабілі за токам на самай мяжы агарода і выгана – ля старой грушы, але не пад самім дрэвам: каб не пашкодзіць каранёў. Капалі ён з бацькам ад самае раніцы. Зямля глеістая, балазе нядаўна праходзілі дажджы. Цяжка было напачатку – ён не хацеў адставаць ад бацькі і шворгаў наверх па цэлай рыдлёўцы; адале, пэўна, прытаміўся і бацька – і капаць пачалі павольней.

Пад абед высьмелілася раньневосеньскае сонца, разагнала па выгане золкія цені – ажно пад Кухтаву гару. Учора на той гары зьявіўся стары лось: павольна выйшаў з парадзелага лесу, паўзіраўся на ваколіцы, крутнуў разлапістымі рагамі – і прысьпешыў з гары да пушчы, на ўсход. Пасьля гэтага бацька і сказаў:

– Нават зьвер пайшоў ад вайны ратавацца. То й мы мусім…

І з раніцы падаліся рабіць сховішча. Палуднаваць у хату не хадзілі – маці перакус прынесла да ямы. Яму і есьці не хацелася. Сеў папіць квасу-раўгені, як з лагчыны даплыло глухое траскатаньне, стрэлы: значыць, бой грымеў ужо дзесь за Туяніхай – тры-чатыры кіламетры ад ягоных Агароднікаў.

І яны зноў прысьпешылі. Скончылі амаль перад самым заходам сонца. Паверх ямы, якая атрымалася вялікай (метраў два на чатыры), наклалі сухіх дыляў, накрылі саломай, паверх – зямлёй. Уваход невялікі, нябачны…

Спаць палеглі ў хаце, а калі, не дачакаўшыся сьвітанку, на полі пачалі рвацца снарады, сьпешка перабраліся ў зямлянку, перанесьлі ікону, коўд-ры, такі-сякі посуд, муку, два вядры з вадой, газоўку.

Маці доўга малілася, а яму яшчэ ўсё здавалася нейкай дзіўнай забавай, непаразуменьнем. Яшчэ з тыдзень таму, як загаворвалі, што немец заняў Гародню, а ў вёсцы не засталося аніякай улады – і поп, і ўраднік зьехалі, ён нават зарадаваўся, зарадаваўся таму, што даўно жадаў пазбыцца гэтага праныры-ўрадніка. На яго ўжо з паўгода зьбіраў злосьць, якраз з тога дня, калі ўраднік зьявіўся да іх у хату – пасьля чаго бацька і перастаў вы-пісваць для сына «Нашу Ніву»…

– На твой адрес, Николай, приходит крамольная газета. Надо это дело приостановить…

– Якая ж яна крамольная, калі пошта яе носіць? – не зразумеў тады бацька ўраднікавы словы.

– Я тебе даю хороший совет: останови это дело!

І вось з паўгода праз тога ўрадніка Уладзя ня бачыў «Нашай Нівы». Вайною не выбіраўся па тавары ў Вільню і сусед Бэрка – якога даўмеліся былі прасіць прывозіць газету. Уладзя перачытваў старыя нумары – артыкулы, апавяданьні, вершы – і наноў вяртаўся ў тое неапісальнае сьвята: то ж і яны ёсьць, і мова – пявучая, іхняя, і кнігі…

Адно ня ведаў ён тады, што вайна ня толькі выгнала з вёскі вірлавокага ўрадніка, але і разагнала па сьвеце некаторых супрацоўнікаў «Нашай Нівы». Як ня ведаў, што вайна, якая так хутка дакацілася і да гэтых вазёрных мясьцін і нахабна выпхнула яго сям'ю са сваёй хаты ў гэту зямлянку, забярэ жыцьцё глухога Укашчыка-Нямакалі (снарад адшчэпіць палову ягонай хаты, праб'е печ і пахавае ў друзе нябогу), – і яшчэ з тыдзень пратрымае іх у тым схове-падзем'і, і ім абрыдне страшная боўтанка з вады і мукі – страва апошніх дзён, і хата пасьля доўгага тыдня ўявіцца ім ня горай княскага палаца. Як ня ведаў і аб тым, што ажно да самай Масквы давядзе тая вайна і ягоных бацькоў, і яго самога.

А як не хацецьмецца яму ехаць у незнаёмы Невель, куды – з Новай Вілейкі – перабярэцца ягоная настаўніцкая семінарыя! Ды настоіць бацька:

– Нельга, сыне, перарываць навуку… Ды і спакайней так будзе.

І ён, калі бацька пачне запрагаць каня, каб адвезьці сына на далёкую станцыю Парафіянава (усе бліжэйшыя занялі немцы), ледзь ня пусьціць сьлязу, а калі, разьвітаўшыся, яны рушаць, – як жывую стане шкада і хату, якая, убачыць, нашмат пастарэла за апошнія гады – як і маці.

Штось незваротна-болеснае не пакідала яго і тады, калі ён – з горам папалам улаштаваўшыся на платформу спаленага цягніка – ехаў да Полацка (каб не зваліўся, ня трапіў пад колы, бацька прывязаў сына вяроўкай да жалезнай стойкі – паказаўшы, як можна лёгка расшморгнуць вузел), – і ў завываньнях ветру, які – як на тое – пачаў даносіць блізкія подыхі сьнежнай халепы, і ў цяжкім ляскатаньні-скрыпе рэек яму адкрывалася непапраўна-наканаванае: расстаньне гэтае – надоўга…

4.

Цягнік спыніўся і, пыхкаючы парай, ціха прасіпеў – нібы папярэджваючы горад аб сваім прыезьдзе. Вясна аддальвалася, нечакана падскочыў мароз, і большасьць пасажыраў торапка ўзьдзявалі на сябе хто стары кажух, хто – шыкоўнае футра. Ён жа сядзеў каля вакна, ад якога дзьмула злосным сіверам, а таму й ня скідваў свайго семінарскага шыняля-палітончыка з навязаным на каўнер башлыком – і цяпер, сьцягнуўшы з паліцы свой баульчык, дайшоў да выхада першым. Саскочыў з вагоннай падножкі на яшчэ пусты перон – а тут і бацька. Абняў, «Ну, нарэшце!» – выдыхнуў (цягнік спазьніўся на некалькі гадзін).

Яны перацыбалі рэйкі, праціснуліся паміж двума таварнякамі і апынуліся на «панадворках» Курскага вакзала. Так і пачалося ягонае знаёмства з Масквой.

– Вунь там маё дэпо, Аляксандраўскі пост, – паказаў бацька на аграмадную, як стадола, цэментную будыніну і пачаў распытваць пра здароўе, вучобу. Правільней, пра яе заканчэньне, бо сын ужо меў у сваім баульчыку атэстат вясковага настаўніка, а семінарскія гады (ён, сын, адчуў гэта яскрава вось зараз) заставаліся ў мінулым, хоць і блізкім, але незваротным… І, па-праўдзе, у гэты лютаўскі дзень 1918 года хацеў апынуцца не на гэтым халодным маскоўскім вакзале, а ў сваёй хаце ў Агародніках, і каб там яго сустракаў і бацька, і маці з меншымі братамі.

– Узмужнеў, але й пахудзеў… – падрахаваў бацька, а ён зьдзівіўся: наадварот жа, здавалася, раздабрэў, асабліва пасьля таго, як у Невелі пачаў кватараваць у бязьдзетнай жонкі пазалотніка – гаспадыня ахвотна згадзі-лася гатаваць і абед, і вячэру…

– Вылюднеў, кавалерам стаў… – гэта зноў бацька.

А ён на тое адно ўсьміхнуўся. «Як жа, кавалер, – падумаў, – памялом нават частаваны…»

Гэта было ўжо з паўгода таму, пасьля семінарскага вечара. Чыталі вершы, сьпявалі, танцавалі. Дырэктар запрасіў і гімназістак, а па заканчэньні – цёмным восеньскім вечарам – наказаў вучням правесьці дзяўчат дамоў.

Ягоную спадабанку звалі Ленай. Хударлявы, але з румянцам твар, тонкі носік… А прозьвішча якое мела! Багдановіч! Пазнаёміўся яшчэ на пачатку вечара, разам і таньчылі, а пазьней дапамог ёй апрануць паліто – і па дарозе (васьміхвілінны шлях адолелі толькі праз паўгадзіны) гаварылі пра ўсё: пра настаўнікаў і сяброў, вучобу, нават пра каханьне. Узышоўшы на ганак, ён ужо высьпеў быў да пацалунка… як на яго, «кавалера», і апусьцілася тое памяло…

– Ах вы саплівікі, абдымацца?!

Гэта была Леніна маці, якую ня ўлітасьцівілі нават ягоныя тлумачэньні пра дырэктараў наказ.

– Дам і твайму дырэктару, – сказала гнеўна, але, як ён пасьпеў заўважыць, усьміхнулася.

З Ленай ён сустракаўся і потым, пасябраваў і з ейнай маці. Учора зранку нават бегаў да іх разьвітацца – у невялікую хату непадалёк ад вакзала, з якога ён у Маскву і прыехаў.

…– Ну як вы тут? – спытаў Уладзімер. Бацька як не весяліўся, выглядаў хмурым.

– Ды нічога… Месяц брыгадай стараліся, а ледзь на трыста рублёў зрабілі. Месяц назад чатырыста атрымалі. На майстра штось найшло: дае рамантаваць горшыя вагоны, лепшыя, пэўна, знаёмым падводзіць… Аднак не паскардзішся: табе работу абяцаў. А сёньня адгул папрасіў… – бацька ўздыхнуў і ўсё ж ня вытрымаў: – Вось так. Улада, як запэўніваюць, працоўных, ды рабочым ані на каліва не лягчэй. Былі батракамі і засталіся, як раней рабавалі, так і цяпер дзяруць… Ды што ж рабіць: немец, кажуць, Менск заняў.

І вось – іхняя маскоўская кватэра. На адзін вялікі пакой, трыма вокнамі – у ціхі дворык. Няроўнымі вагоннымі дошкамі бацька адгарадзіў «кухню». Самаробную сьценку абклеілі газетамі. Каля вакна – «буржуйка» (бацька зрабіў яе з жалезнай бочкі). Цяпер такая печка грэла жытло. На яе паставілі разаграваць кашу.

– Вось так, Уладка, і жывём. Адно, дзякаваць Богу, не хварэем. І далей не паехаць: вайна за вайною… – наболены голас маці.

– А дорага кватэру наймаць? – пацікавіўся сын.

Адказаў бацька:

– Ды не, наша ў сорак рублёў абыходзіцца, адно сорамна гаспадыні ў вочы глядзець… Раней жа ёй плацілі, а цяпер – у гэтае казначэйства…

Дэкрэтам народных камісараў яшчэ ў сьнежні 1917-га была «адменена» прыватная ўласнасьць. Уся маёмасьць, якая пераўзыходзіла 25 000 рублёў, абвяшчалася народнай, і кватэранаймальнікі мусілі плаціць не гаспадарам, а дзяржаве. За невыкананьне ж дэкрэта пагражалі тры месяцы турмы ці штраф ажно на 3 000 рублёў.

– Даражэй крыху, чым некаторыя плоцяць, затое ж прасторная, без клапоў.

Пакуль гаварылі, маці выставіла на стол кансервы, хлеб, масла – прызапасіла, каб пачаставаць сына.

Прачнуўся ён яшчэ перад раньнем – ад холаду. Распаліў «буржуйку», адагрэўся. З кватэры выйшаў разам з бацькам: бацька – на працу, ён – пазнаёміцца з горадам. Пехам – да Сухаравай вежы. Агледзеў невялікі кірмаш. Затым сеў на трамвай і вывучаў Маскву праз намерзлае шкло: Тэатральная плошча, гарадская Дума, гатэль «Метраполь», каменныя дамы, шэрыя сьцены з паадбіванай атынкоўкай: месцы ад куль, сьведкі пра барацьбу з чорнай сотняй і контррэвалюцыяй. Дахі дамоў, тратуары – у маладым сьнезе…

Так і праехаў за восемдзесят капеек усю Маскву – у два бакі.

Некалькі месяцаў ён працаваў з бацькам. Разам абсталёўвалі звычайныя цягнікі пад вайсковыя. Работа доўжылася з васьмі раніцы да чатырох дня. Абедалі ў дэпоўскай сталоўцы. За рубель трыццаць капеек – капуста і грэчневая каша бяз хлеба.

Адвячоркам жа сядаў за кнігі – рыхтаваўся паступаць у Маскоўскі універсітэт. Ажно правучыцца там ня лёсіла: праз два месяцы ад матэрыяльнай нястачы (страшэнна ўсё падарожала: за пуд мукі трэба было плаціць дзьвесьце пяцьдзесят рублёў) мусіў кінуць свой гісторыка-філалагічны факультэт і па прапанове тульскага школьнага інсьпектара паехаў настаўнічаць у Навасільскі павет.

У Маскве ж на пачатку лета (яшчэ пасьпеў пабачыць) распачыналіся мітынгі і хваляваньні. Рабочыя выказвалі незадаволенасьць савецкай уладай – з нагоды дарагоўлі. Некалькі цэхаў Аляксандраўскага паста нават не працавалі.

– На вёсцы прасьцей, – падахвочваў бацька. – А там, можа, і мы б да цябе перабраліся…

Уладкаваўся ён у вясковую школку, вызначыўся з планамі і задачамі – і да пачатку вучобы зноў прыехаў да бацькоў. Прывёз бульбы, мукі.

11 жніўня па ўсёй Маскве быў абвешчаны «ваенна-навучальны дзень». Усім рабочым горада належала зьявіцца на чырвоную плошчу а чацьвёртай дня. І ён напрасіўся з бацькам.

Пасьля маршу вайскоўцаў быў мітынг. Выступалі Ленін і Троцкі. Пра што – расчуць здалёк было цяжка. А да ўсяго ўшчаўся дождж…

Леніна давялося яму пабачыць двойчы. Пасьля Чырвонай плошчы – у Аляксандраўскім народным доме а сёмай вечара 23 жніўня таго ж, 1918-га, года. Нагаварыў схадзіць туды сусед па маскоўскай кватэры, крыху старэйшы за яго рабочы Конак, шчыры, сяброўскі, вельмі набожны.

Не зважаючы на картавасьць, Ленін аказаўся выдатным аратарам: адчуваў аўдыторыю, гаварыў экспрэсіўна, апантана, і

ўадначас – проста, зразумела: пра складанае ваеннае становішча – унутранае і зьнешняе. Пераконваў у перамозе. некалькі разоў прамоўцу перапынялі апладысменты...

Па дарозе дадому Конак усхвалявана тараторыў пра бальшавікоў, пра Леніна.

– Слухай, ты ж верыш у Бога? – нечакана спыніў знаёмцу Дубоўка.

– Веру... А што? – зьніякавеў той.

– А тое, што бальшавікі – злосныя бязбожнікі, яны ж не прызнаюць Хрыста.

Конак нічога не адказаў, а на другі дзень і зусім перастаў нават вітацца...

Па-праўдзе, як ставіцца да бальшавікоў і іхняга правадыра Дубоўка пакуль яшчэ і сам ня вызначыўся. Тады, слухаючы Леніна, і яму здавалася ўсё правільным і слушным. Але... Але ці правільна Леніну з Троцкім было купляць мір за кошт ягонай Беларусі?! І ці апраўдваліся паманлівай сьветлай будучыняй учарашнія, сёньняшнія сьмерці і сялян, і рабочых, і, урэшце, інтэлігентаў – у распаленых грамадзянскіх войнах?

Беглі месяцы, і на пачатку 1920 года прыйшла позва ў Чырвонае войска...

Ад Дубоўкі ў Маскву сьпяшаліся лісты.

Мама, тата, браты й Тася!

Добрага дня і здароўя зычу вам, мае дарагія. Вось ужо скончыліся шэсьць месяцаў маёй службы... Часта ўзгадваю ўсіх вас, узгадваю нашы Агароднікі. Там ужо, пэўна, высьпела жыта. І ня верыцца, што жыта ўжо тое – ня наша, не беларускае1 ...

А надоечы прысьніўся мне Іван.

– Здароў, братка! – кажу яму, а ён сумна неяк зірнуў – і як не сваім голасам:

– Вось і ты сувязістам стаў...

Ён жа падчас вайны, як і я зараз, сувязістам быў, у Коўне. А потым я як на свае вочы бачыў: яго, хворага халерай... і як паляць у 1918-м ягонае цела ў тым Гур’еве... Перакажы, тата, маме2 , каб схадзіла паставіць у яго памяць сьвечку.

Мая служба нічым асаблівым не вызначаецца. Дзе цягаю катушку з дротам, дзе стаўляем слупы і нацягваем той дрот на ізалятары. Гэта ўсё падалёк ад першай лініі фронту. А то тыдзень адбудоўвалі драўляны мост.

Вось і ўсе мае клопаты. То не хвалюйцеся па мне.

Ваш Уладзімер, салдат Асобай тэлеграфна-будаўнічай роты [назва тлус-та закрэсьленая палкавым цэнзарам] Рэўваенсавета Рэспублікі.

Жнівень 1920 г.

5.

Як дабрацца да Ліхабораў, яму падказалі сябры-студэнты: цягніком да станцыі Пятроўска-Разумоўскае, а там – хвілінаў з дзесяць пешшу. А як выйшаў з цягніка, зразумеў, што ўсяго ня выпытаў: ад платформы ва ўсе бакі разьбягаліся сьцежкі, а якая з іх да тых Ліхабораў? Заўважыў юнака ў простым, крыху камечаным пінжаку, з добрым тварам.

– Ці не падкажаш, кудой на Ліхаборы выйсьці?

Той усьміхнуўся:

– Я якраз туды. Разам пойдам, – узьняў бровы, уважліва агледзеў яго – як падалося, крыху насьцярожыўся вайсковай формы. – Выпадкам не на маёўку?

– На маёўку...

Яны спусьціліся з дарожнага насыпу ў сьвежасакавітую зяленіву прысадаў. Сонца прадапошняга дня вясны яшчэ не дабралася туды праз густыя шапкі арэшніку, і іх абдало настоенай на дзікай траве прахалодай, хмельным водарам вільготнай кары, “конскага шчаўя”, крапівы і малiньніку.

– Мяне Ўладзімерам завуць, Дубоўкам...

– Гарэцкі Гаўрыла, – падаў руку і спадарожнік.

– Ня родзіч Максіму?

– Брат.

– Ого, значыць, з Магілёўшчыны, беларус?..

– А ты дэмабілізаваўся ці яшчэ служыш?

– Крыху яшчэ засталося. У адпачынку. Бацькі мае ў Маскве цяпер...

Вёска, здалося, патанала ў сонцы – мяккім, бадзёрым. На ўскрайку, дзе невялікі ўзвышак прыцiскаў да хатаў яшчэ засьнежаны пахкімі пялёсткамі сад (вясна прыпазьнілася), ужо віднеліся некалькі дзясяткаў постацяў – большасьцю студэнты Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі. У ёй вучыўся і сёньняшні Дубоўкаў спадарожнік. У Маскве ж адведваў сястру, таксама студэнтку (вёска ж Ліхаборы была непадалёк ад акадэміі).

Маёўка прымяркоўвалася чацьвёртым угодкам з дня сьмерці Максіма Багдановіча. Разам з маскоўскім студэнцтвам (беларусамі,

украінцамі) запрашаліся супрацоўнікі прадстаўніцтва Беларусі ў РСФСР. З двума маскоўскімі службоўцамі на легкавіку прыехаў Сьцяпан Булат, сакратар ЦК КП(б)Б.

Гаўрыла Гарэцкі прачытаў на сустрэчы даклад аб жыцьці і творчасьці Багдановіча – хваляваўся, гаварыў больш пра журботнае, сумнае. Дубоўку ж Максімава паэзія бачылася радаснай, жыццесьцьвярджальнай, узьнёслай, а таму і не стрымаўся, папрасіў слова.

– Беларусь яшчэ доўга будзе вывучаць свайго паэта, паэта жалобнага лёсу, але аптымістычнай, сьветлай песьні... Ён быў пэвен у вялікай будучыні беларускага народа, у росквіце ягонай гаспадаркі і культуры. Як прыклад – гучыць яго верш «Летапісец», – і пачаў чытаць верш на памяць – голасна, кранальна. Затым зрабіў паўзу, перахапіў уважлівы позірк Булата, крыху зьбянтэжыўся, дастаў з кішэні гімнасьцёркі акуратна складзеную газету – і зноў абудзіўся: – Так, Максім Багдановіч верыў у сонечны лёс сваёй Бацькаўшчыны, як верыць павінны ўсе яе сыны і дочкі... Напрыканцы дазвольце прачытаць свой верш, напісаны з тымі ж настроямі, – «Сонца Беларусі», – і дэкламаваў ужо цішэй... Гэта быў ягоны паэтычны дэбют: верш за два дні да маёўкі – 28 траўня 1921 года – надрукавала газета «Савецкая Беларусь».

За Дубоўкам прамаўляў Сьцяпан Булат – пра перамогу рэвалюцыі і пачатак велічнай адбудовы краіны, пра ўдзел у гэтым будаўніцтве беларускай інтэлігенцыі і пра тое, што яе шэрагі павінны папоўніць і беларусы – выпускнікі Пятроўскай акадэміі.

Калі пачалі разыходзіцца і Дубоўка, абмяняўшыся адрасамі з Гаўрылам Гарэцкім, сабраўся назад – на станцыю, яго нечакана спыніў Сьцяпан Булат.

– То, значыць, такі ты, Бладысь Дубоўка?! (Так у «Савецкай Беларусі» быў падпісаны ягоны верш.) Бачу, да чыгункі йдзеш... Ці не ў сталіцу?

– Туды.

– У нас якраз адно месца вольнае. Можам падвезьці...

Па дарозе Булат распытваў пра службу, бацькоў, чым думае займацца пасьля войска. Расказаў, што год назад сам узначальваў рэдакцыю «Савецкай Беларусі». А пры разьвітаньні паабяцаў, моцна ціснучы руку, паспрыяць у далейшай вучобе, абнечаканіў:

– Табе ў інстытут трэба, а не ў казарму. Прыйдзі заўтра, я тут яшчэ затрымаюся, то зраблю хадайніцтва, – і прыязна ўсьміхнуўся.

– Дзякуй...

Пасьля той сустрэчы Дубоўка праслужыў толькі да паловы лета – і дэмабілізаваўся. З лістом ад Булата без перашкодаў уладкаваўся інсьпектарам беларускіх школ Народнага камісарыята асьветы РСФСР і – праз некалькі тыдняў – паступіў у Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя Брусава. А перад тым пачуў страшную навіну: 24 ліпеня Сьцяпан Булат – на пяць гадоў старэйшы ад яго – памёр (як казалі, ад сухотаў)…

6.

Па навуку зьявіўся ў сталіцу
чырвонаармеец-салдат.
*Уладзімер Дубоўка.*

Гэта быў для яго новы сьвет: таямнічы, вабны, чаканы яшчэ з маленства – ад ласкавых матчыных песьняў і хмельных дзедавых легендаў. І сьвет той, здавалася, паўставаў бязьмежным, багата-чароўным – аж да немарасьці…

У літаратурна-мастацкім інстытуце пад старшынствам Брусава адкрыўся «кабінет паэтыкі», і ягоным навуковым сакратаром абралі Дубоўку, пра якога ўжо ведалі як пра паэта-пачаткоўца.

Яны імкнуліся ператварыць «кабінет паэтыкі», па сутнасьці – паэтычны семінар, у навукова-дасьледчы асяродак. Кожны са студэнтаў распрацоўваў сваю тэму, рабіў паведамленьні ці даклады, вяліся абмеркаваньні-спрэчкі, якія дыпламатычна і аўтарытэтна падрахоўваў сам Валерый Якаўлевіч.

Вялікую адказнасьць адчуваў і ён, навуковы сакратар. І яшчэ большай была прага выведаць, вывучыць і адкрыць усе таямніцы гэтага новага сьвету, паэтычнага сьвету. За ноч ён праштудыяваў працу Брусава «Наука о стихе», зачытваўся яго таленавітымі стылёвымі перайманьнямі паэзій старажытнага Егіпту:

Я был, как лев, рождённый в пустыне,
около оаза Хибиса, в зарослях,
Я стоял на колеснице позлащённой,
как статуя бога на подножии своём…;
персідскіх газэляў:

В ту ночь нам птицы пели, как серебром звеня,
С тобой мы были рядом, и ты любил меня…;

японскіх танка:

В синеве пруда
Белый аист отражён;
Миг – и нет следа.
Твой же образ заключён
В бедном сердце навсегда;

італьянскіх санэтаў, французскіх віланэляў, англійскіх балад, латвійскіх народных песьняў…

Зачытваўся – і адчуваў, што павінен увекавечыць сваё: беларускае, вазёрнае. Спрабаваў – і рваў пачынаньні, супакойваўся, пісаў наноў – і зноў пакуты.

Зьмены настрояў у ім адразу ж заўважыў Брусаў. Размаўляючы, супакоіў:

– Гэта правільна. Горш было б, калі цябе б скарыў спакой. Не адчайвайся. Яно прыйдзе, калі і сам не чакацьмеш… – і пачаў распытваць пра бацькоў, пра далёкую беларускую вёску, вазёры… І пацэліў у самае жывое, балючае, і расчуліў, і ўзбухторыў…

– Ведаеце, якая там зараз прыгажосьць?! Бярозы сокам наліліся, а вазёры блакітам фарбуюцца, пад лета – як неба стануць. Хочацца зноў статак да рэчкі падагнаць, сьцішыцца і слухаць хвалі… Ці як перашэптваюцца з ветрам нашы васількі… – залетуценіў Дубоўка, а затым нечакана падагульніў: – Цяпер усе алілую сьпяваюць бальшавікам. А што сьпяваць мне, у каго тыя бальшавікі адабралі Бацькаўшчыну – і вазёры яшчэ прадзедавы, і васількі, і вецер над імі. Адрэзалі нашу поўнач Літве, у саміх беларусаў не спытаўшыся, а захад Беларусі падарылі Польшчы… Дык што мне застаецца – Радзіма-сусьвет?! Дык дзе ж яна?

– Ну… Гэта часова, пакуль рэвалюцыя ў сілу ўбярэцца, – парыраваў Брусаў.

– Як жа… Калі ўбярэцца… Заўтра, 25 сакавіка, будзе чатыры гады, як беларусы на зьезьдзе абвесьцілі сваю Народную рэспубліку, а бальшавікі той зьезд разагналі, арыштавалі нацыянальных дзеячоў. А вы кажаце, калі ў сілу… Вось тут я напісаў, пра што мне балела, – і перадаў Брусаву ўжо аддрукаваны на машынцы верш «Малітва ўцекача» – балючае апісаньне сваёй панішчанай Радзімы, дзе ладзяць «зьлёт груганы», гімн-сірвенту, замову-літанію.

Нічога тады, прачытаўшы верш, не адказаў яму Брусаў, папрасіў толькі патлумачыць сэнс слова «груганы», кіўнуў галавой, прыгладзіў і без таго акуратна-сьнежную бародку – і маўчаў. А праз хвілю хтось яго паклікаў з кабінету…

Пра тое, што думалася тады Брусаву, Дубоўка даведаецца пазьней, – прачытаўшы яго верш «Над картой Европы», напісаны праз два дні пасьля іхняй сустрэчы:

Встарь исчерченная карта
Блещет в красках новизны…
Где мечты? Везде пределы,
Каждый с каждым снова враг;
Голубь мира поседелый
Брошен был весной в овраг…

І – як прычына тога нечаканага маўчаньня:

Это – Крон седобородый
Говорит веками нам:
Суждено спаять народы
Только красным знаменам.

Прыкладна ў той жа час, пасьля іхняй гутаркі, Брусаў згадаў у сваім вершы і ягоныя васількі, як, пэўна ж, і яго самога!

Любы глазу родные привычки, –
Он просторы вдыхал не всегда ль!
И так хочется взять в ковычки
«Нивы», «небо» и «даль».

У реки замлелое стадо,
Василёк на крутой борозде…
Какая пустая бутада,
Говорить, что отчизна везде!

Пой, семья мировая,
Победительный гимн труда!
Но каждый, незабудку срывая,
Не забудет родного пруда!..

…А ў яго аніяк не атрымліваліся насьледаваньні з далёкіх персідскіх ці японскіх песьнясьпеваў: складалася тужлівае, журботнае сваё, ад чаго не было адхланьня, паратунку, забыцьця…

Хоць і пачыналася вясна, але вясна чужая, далёкая – выказаная ім у вершы «Вясна на чужыне»; а да ўсяго трызьнілася-летуценілася

штосьці містычнае, акрытае павалокай злоснай казачнасьці і ў змрочных подумках урэальненае – як у вершы «Здані» («Вецер косы ночы расплёў...»), як у вершы «Ноч наплакалі бярозы...», як у «Імжы»:

Імжа, і склізота, і прыкрая золь
За скрогатам ветру – навалай.
У чмарнасьць убралася сьветлая столь,
Блакіт ад зямлі адарвала...

Радавалі толькі сустрэчы з сябрамі-землякамі. У Маскве склалася цэлае згуртаваньне студэнтаў-беларусаў. Яны адкрылі свой «Беларускі Клуб», дзе чыталі лекцыі, ладзілі вечарыны.

2 красавіка 1922 года ўрачыста адзначылі ўгодкі з дня сьмерці Алеся Гаруна, апантанага змагара за незалежную будучыню Беларусі і таленавітага паэта. Адмыслова да той сустрэчы Дубоўка напісаў верш, у якім – зноў жа – абудзіліся згадкі пра родныя гоні, і прачытаў яго з прысьвячэньнем: «На сьвята Алеся Гаруна – у Маскве...»:

Ад крывіцкіх балотаў да тундраў Сыбіру,
Ад аковаў душы да цяжкіх ланцугоў, –
Ты пяяў няупынна, званіў сваёй лірай,
Заклікаў нас на родныя гоні, дамоў...

7.

Вясну зьмяніла восень. Прамежкавага – лета, здалося, і не было. На першай верасьнёўскай лекцыі 1922 года ў Пятроўска-Разумоўскай акадэміі арыштавалі ягонага сябра Гаўрылу Гарэцкага. Па фальшывым даносе маскоўскае ГПУ абвінаваціла яго ў пяцігадовай контррэвалюцыйнай дзейнасьці. Як толькі Дубоўка дачуўся пра гэта, паспрабаваў адведаць Гаўрылу, аднак начальства Бутыркі дазволу на тое не дало.

Прайшоў доўгі тыдзень. Думалася, што спакваля ва ўсім разьбяруцца, вызваляць сябра. Ажно – новая жахлівая навіна: трагічна загінула родная сястра Гаўрылы Ганна, студэнтка Заатэхнічнага інстытута. 15 верасьня, ужо каторы раз не дамогшыся сустрэчы з братам, расчуленая і зьніякавелая, чакала трамвая – і якісь нягоднік выпхнуў яе пад колы вагона. Ганна моцна паранілася і праз тры дні, не пражыўшы на сьвеце і дваццаці гадоў, памерла ў маскоўскім шпіталі.

Яе пахавалі ў Галавінскім манастыры пры царкве (вывезьці цела на Радзіму бальшавіцкія ўлады не дазволілі). За труной ішлі дзясяткі землякоў-студэнтаў, таварышаў, а яму, наструнена-нацятаму –

памятаў – тады ўпершыню захацелася ўзарвацца страшнымі праклёнамі тым, хто зьвёў іх у гэтым чужым горадзе, хто зрабіў вязьнем ягонага сябра і на кім крывавіла віна ў сьмерці гэтае беларускае дзяўчыны…

Калі напрыканцы верасьня ў Беларускім прадстаўніцтве на Малой Мікіцкай ён сустрэў Гаўрылу, адразу зьдзівіўся, а ўжо толькі як выйшлі разам на вуліцу, засталіся адны – абрадаваўся напоўніцу: значыць, і насамрэч вызвалілі…

Ён запрасіў Гаўрылу да сябе, пазнаёміў з бацькамі, – думаў, скруха ў сябравых вачах растане. А той адмовіўся нават паабедаць, крыху пасядзеў і пачаў разьвітвацца.

– Хачу яшчэ на Ганульчыну магілку зьезьдзіць, – патлумачыў.

– То і я з табой, – вызваўся Уладзімер, – пачакай… – дастаў з шафы ўкладзеныя ў газету аркушы. – Пачытай вось дарогай…

За чырвонымі манастырскімі сьценамі, пад голымі ліпамі яны доўга моўчкі ўзіраліся на жоўты грудок пад драўляным крыжам.

– Гэта я вінаваты ў яе сьмерці… – прашаптаў Гаўрыла.

– Не кажы так, ты ж добра ведаеш, праз каго так сталася.

Зноў маўчалі, пакуль Гаўрыла не разгарнуў укладзеныя ў газету аркушы. «СТРОМА. Сьветлае памяці Ганулі Гарэцкай, як вяночак на магілу ў чужыне, прысьвячаю. Аўтар», – было надрукавана на першай старонцы.

– Гэта твой зборнік? – расчуліўся Гаўрыла, і ў ягоных вачах бліснулі сьлёзы.

– Так.

– Дзякуй. Дзякуй і за яе… – абняў Дубоўку, горычна прызнаўся: – Ведаеш, я ўжо і не спадзяваўся назад вярнуцца. Мяне да высылкі рыхтавалі. А затым на допыт да Мянжынскага павялі – і вызвалілі. Пэўна, прачулі пра няшчасьце. Сваёй сьмерцю яна мяне выратавала…

Чакаючы рамізьніка, ён прачытаў увесь машынапіс Дубоўкавага зборніка – сямнаццаць вершаў, падзеленых на тры нізкі: “На чужыне”, “Летуценьні” і “Адраджэнцам” – і ўздыхнуў:

– Толькі ж як такое зараз выдаць?.. Бальшавікі ж гэтую для нас чужыну хочуць нам бацькаўшчынай зрабіць, а адраджэнцы нашы ім як костка ў горле…

– Выдадзім. Я ўжо ведаю, як, – запэўніў сябра Дубоўка.

Зімовы дзень у горадзе прачынаецца позна – і рана адыходзіць на спачын. Увесь сьветлы час Дубоўка праседжваў над кнігамі.

Трашчаў за вокнамі інстытуцкай бібліятэкі мароз, а ён, накінуўшы на плечы паліто, грэючы рукі кубкам непадсалоджанай гарбаты, штудыяваў працы Берка, Канта, леціўся паэзіяй французскіх парнасцаў: Гацье, Бадлера, Банвіля, Ліля. Большасьць кніг прыносіў яму Брусаў – і на кожную даваў сваю арыгінальную анатацыю.

Уладзімера палохала беднасьць і ўласных вершаў, і ўсёй маладой беларускай паэзіі: і ў тэмах, і ў вобразна-фармальным насычэньні. Не было і сваіх крытычных прац агульнаэстэтычнага плану: большасьць зводзілася да звычайных пераказаў, расшыфроўваньня мастацкіх тэкстаў ці расповедаў пра жыццёвы і творчы шлях пісьменьніка.

Паланяла, прызнацца, ідэя, якая не стасавалася з думкамі аб «пралетарскай» культуры і па сутнасьці сваёй утылітарнымі ў адносінах да мастацтва высновамі бальшавіцкіх правадыроў – Троцкага і Леніна. Аднаго разу ён нават арганізаваў наконт усяго гэтага дыскусію, цытаваў і рамантыкаў Шлегеля («Паэзію можна крытыкаваць толькі з дапамогай паэзіі»), Арніма («Усё, што адбываецца ў сьвеце, адбываецца дзеля паэзіі»), Шэлі («Паэты – непрызнаныя заканадаўцы сьвету»), – імкнучыся вывесьці ўсёчасную формулу паэзіі, знайсьці яе «aqua vitu» – «жывую ваду». Сапраўдны паэт – вышэй аднадзённых часавых зрухаў, – па-максімалісцку спрабаваў даводзіць ён, – а таму і паэзія, якая хоча пераджыць сёньняшні дзень, мусіць узвысіцца над ілюстрацыйнасьцю, мусіць перастаць быць адно агітатаркай палітыкі і дзяржавы.

Большасьць сяброў «кабінета паэтыкі» яго і не зразумела, і не падтрымала. І тады ён агучыў свой апошні козыр – верш самога Брусава з цыкла «Мы»:

В мире широком, в море шумящем,
Мы – гребень встающей волны,
Странно и сладко жить настоящим,
Предчувствием песни полны.
Радуйтесь, братья, верным победам!
Смотрите на даль с вышины!
Нам чуждо сомненье, нам трепет неведом, –
Мы – гребень встающей волны.

«Спасьцігаць далячынь можна толькі з узвышша, сімвалічную далячынь – з сімвалічнага узвышша», – гаварыў ён, аднак у той вечар адзінадушша так і не было выяўлена, без агаворак не падтрымаў яго і сам Брусаў. Брусаў, які з дваццаць гадоў таму, яшчэ гімназістам, зачытваўся тымі ж французскімі парнасцамі, перакладаў Верлена,

Бадлера, Малармэ, Рэмбо, складаў і выдаваў іхнія вершаваныя нізкі як «хрэстаматыі паэтычных узораў».

Назаўтра Брусаў прынёс яму кнігу Пляханава і параіў прачытаць артыкул «Мастацтва і грамадскае жыццё» – якраз на тэму іхняй дыскусіі.

Эстэтычныя рознагалосьсі ў мастацтве Пляханаў тлумачыў класавай барацьбой, што – на Дубоўкаў неўтаймоўны розум – аніяк не магло раскрыць уласна-мастацкіх таямніцаў. Ён бачыў, вывучаючы працу рэвалюцыйнага марксіста, пэўную аднабаковасьць, зацыкленасьць. Неадназначна ўспрымаў высновы – кшталту: «Склонность художников ... к искусству для искусства возникает на почве безнадёжного разлада их с окружающей их общественной средой». Цалкам падтрымаў толькі адно: «...всякая данная политическая власть всегда предпочитает утилитарный взгляд на искусство... Да оно и понятно: в её интересах направить все идеологии на служение тому делу, которому она сама служит».

Пляханаву ён быў удзячны за іншае – за мноства цытатаў, недасяжных яму (бо ня мог свабодна чытаць па-французску ці па-нямецку). А тут, у цытатах, амаль рэзюмэ тога недасяжнага. З Тэафіля Гацье, які аспрэчваў абаронцаў утылітарных поглядаў на мастацтва: «Нет, глупцы, нет, зобастые кретины, из книги нельзя приготовить желатиновый суп, из романа – пару сапог без швов... Нет и двести тысяч раз нет...», з Лекона дэ Ліля, Тэадора дэ Банвіля, Лапрада...

Ня мог ён зразумець і логікі марксістаў ад мастацтва, якія крытыкавалі «буржуа», узвышалі пралетарыяў – а самі, як той жа Пляханаў, ці Горкі, жылі ў сонечных сан-Рэмо ці Капры і былі, па сутнасьці, тымі ж «буржуа». А таму высновы бацькі-чыгуначніка былі яму больш блізкімі, карыснымі. Да ўсяго з цяжкасьцю ўспрымаў ён і стыль пляханаўскай працы – стыль хутчэй эканаміста, фінансіста, а ня знаўцы мастацтва. Куды больш арганічным бачыўся Дубоўку стыль артыкулаў Бялінскага – эсэістычны, узьвеўны: «...терпи гонения злых, ешь хлеб, смоченный слезами, и не своди задумчивого взора с прекрасного, родного тебе неба»...

...А лекавалі ўсьнежаныя вулкі старой Масквы, абклееены сьлюдзяніста-цукровым ільдом парк за інстытуцкім будынкам, згадкі пра сонныя цяпер родныя вазёры – і прадчуваньні новай вясны, пра якую яму першымі паведамяць маладыя салаўі ў пухматых бэзавых прысадах на Малой Грузінскай.

Вясна прынесла, да ўсяго, і новыя знаёмствы, новыя сустрэчы. У сакавіку ён атрымаў з ужо далёкай Вільні дзесяць экзэмпляраў свайго першага зборніка «Строма» (дапамаглі ў выданьні супрацоўнікі

тамтэйшай газеты «Наша Будучыня»; машынапіс «Стромы» праз савецка-польскую мяжу быў перавезены нелегальна). Падпісаў некалькі кніг сябрам, Брусаву, асобнік падараваў інстытуцкай бібліятэцы.

Пра яго загаварылі і ў Вільні, і ў Менску: яшчэ 14 лютага 1923 года «Наша Будучыня» надрукавала водгук на «Строму» Навіны-Луцкевіча, а здвоены сшытак «Полымя» за сакавік-красавік – рэцэнзію Цішкі Гартнага. Маладога паэта пачалі заўважаць і тут, у Маскве.

Аднак тое, што дагэтуль напісалася ім, яму падавалася няроўным, расхрыстаным. Ён быў маладым, непахісным, непаддайным – і свае радкі хацеў бачыць такімі ж. А да ўсяго – вобразнымі, акрыленымі, узьнёслымі…

Пачалося з-пад хмар вандроўных,
калі сонца закрылася змрокам.
Вечар, плашч свой узьняўшы чароўны,
атуліў ім прастор шырокі…
Паляцелі вятры па-над нівай,
вышывалі расою сцяжынкі.
Выхадзілі, істужкай цьвятлівай,
маладзіцы, дзяўчыны з дажынкаў…

8.

1 сьнежня 1923 года ў інстытуце адзначалі пяцідзесяцігоддзе рэктара. Брусаў намагаўся выглядаць упэўненым, вясёлым. Імправізаваў, разглядаючы прысьвечаны яму спецвыпуск студэнцкай насьценгазеты, напрыканцы выступіў з адмысловай лекцыяй – і гаварыў узьнёсла, натхнёна. Дубоўку нават падалося, што ў сваёй прамове Брусаў і спавядаўся:

– У паэзіі, мастацтве на першым месцы – асоба творцы! Яна сутнасьць. Усё іншае – форма. І сюжэт, і ідэя – форма. Усялякае мастацтва ёсьць лірыка, усялякая асалода мастацтвам – гутарка з душой мастака…

Да такога з цяжкасьцю пасавалі казённыя выступы прадстаўнікоў наркамата прасьветы і партыйцаў пра будучнасьць новай пралетарскай літаратуры.

З інстытута з дзясятак гасьцей – некалькі выкладчыкаў, хтосьці з мас-коўскага камісарыята, дыпламат і гісторык Платон Кержанцаў і два студэнты Клім Старшнёў і сакратар брусаўскага кабінета паэтыкі

Ўла-дзімер Дубоўка – накіраваліся па вечаровай засьнежанай вуліцы да кватэры Брусава, дзе ўжо чакаў накрыты юбілейны стол.

Кватэра – палова двухпавярховага дома з выхадам у ціхі дворык – уразіла Дубоўку. Вялікая гасьцёўня, утульны, абстаўлены пад «стары» лад кабінет з кніжнымі стэлажамі на цэлую сьцяну, старымі карцінамі, – акурат як у колішняга агародніцкага князя.

– Што, і самому захацелася такі штаб мець? – усьміхнуўся, заўважыўшы Дубоўкаў сподзіў, гаспадар, – і ў адказ Дубоўка расказаў пра свае першыя «ўлазіны» ў падобны кабінет яшчэ босым хлапчуком – і вынік таго.

За сталом гасьцей было не пазнаць: куды падзеліся напускная дзела-вітасьць, важнасьць? Брусаў піў віно і больш слухаў. Да яды амаль не дакрануўся, і Дубоўка ня мог не адзначыць здрадлівых ямінак на ягоных схуднелых шчоках – перад імі адступала нават далікатная бародка. Гаспадар неяк зьніякавела выслухаў тост за сваё здароўе, манерна пагладжваў блішчастыя вусы і – як не весяліўся – зноў хмурнеў.

І раптам – бесцырымонны стук у дзьверы. Напачатку ўвайшлі двое мужчын у даўгіх саматужных кажухах – прывіталіся, унесьлі драўляную бочку, дыхнулі марозам, стынью – і зьніклі. Затым у дзьверы вызірнула кучаравая галава Ясеніна. Скінуўшы лёгкі палітончык і блытаючыся ў доўгім вязаным шаліку, ён з грукатам падкаціў бочку да Брусава:

– Гэта – падарунак. Роўна пяцьдзесят літраў разанскай вішнёўкі. Па літру за год. Настоеная выдатна – сам выбіраў. То будзь здароў, Яклевіч! – і ўжо нібыта апраўдваючыся: – Я заблытаўся ў стылях: першага ці трынаццатага, думаў, віншаваць ісьці. Ажно не памыліўся…

Калі меркаваць па Ясеніну, вішнёўка і насамрэч абяцала быць выдатнай: чырванашчокі і ад марозу, і ад прадэгуставанага, ён сеў побач з Дубоўкам – дзе было вольнае месца, аднак ніхто, акром яго, ня мог адкаркаваць бочку, і Ясенін мусіў зноў вяртацца да юбіляра.

Сустрэча-віншаваньне расьцягнулася да ночы. Кержанцаў, таварышы з камісарыята і Старшнёў з паўгадзіны таму разышліся. Дубоўку ж трэба было ісьці пехам некалькі гадзін, і калі Брусаў прапанаваў застацца, ветліва пагадзіўся (бацькоў загадзя папярэдзіў, што затрымаецца).

Застаўся і Ясенін. Хоць і бачыў Дубоўку ўпяршынь, трымаўся як з даўнім знаёмцам. Падліваў у келіх, распытваў пра інстытут – а ўхмялеўшы мацней, загаварыў сам:

– Паважаю Яклевіча... Гэта ж нас яшчэ на сьвеце не было[1], а ён такое пісаў! – І, бліскаючы блакітнымі зрэнкамі, неяк урачыста і падзіцячы расьцяжна задэкламаваў:

Она в густой траве запряталась ничком,
Ещё полна любви, уже полна стыдом...

А затым перакінуўся на іншае:

– Слухай, а навошта табе гэты інстытут, вучоба? Ты што, думаеш, паэзіі можна навучыцца?! – І ўважліва зірнуў на Дубоўку.

– Ды не... Я вучуся, каб чытаць. У інстытуце добрая бібліятэка.

– А-а-а... – Ясенін задаволена ўсьміхнуўся. – А якія яшчэ ў вас беларускія паэты? Акрамя Купалы.

– Ёсьць многа добрых... Першы з іх, думаю, Язэп Пушча.

– О! Якое выдатнае паэтычнае прозьвішча! – Ясенін ажно крутнуўся на стуле.

– Гэта псеўданім...

– Усё роўна! Пачытай што-небудзь ягонае...

Дубоўка ведаў на памяць толькі адзін верш Пушчы «Раніца рыкае», і прадэкламаваў яго.

– Ого... –- Ясенін задумаўся, прыцмокнуў: – Гучыць! І як удала... які вобраз ёмісты – раніца рыкае! Малайцом... Паэт! Ды і мова ваша нейкая мяккая, далікатная. Не такая, як украінская... – ён зноў выпіў, соладка прыцмокнуў, пстрыкнуў пальцамі і гарэзна падагульніў: – Эх, ты голь еси... Выпил – закуси!..

Затым лёгка стукнуў Дубоўку па сьпіне, падміргнуў яму:

– Ты, гэта... Купалу скажы, што я на яго не крыўдую! – і, пабачыўшы Дубоўкава неўразуменьне, блытана патлумачыў прычыну сваёй магчымай «крыўды»: у 1913 годзе ў Піцеры ён займаўся ў народным універсітэце імя Шаняўскага. Тады ўжо пасьпеў падрыхтаваць першы зборнік «Радуница». Знайшоўся фундатар – доктар Аляксандр Ярэміч, дырэктар Елісееўскай бальніцы. На фінансаваньне яму прапанавалі дзьве кнігі: «Радуницу» і «Шляхам жыцьця» Янкі Купалы. Доктар-фундатар аддаў перавагу Купалавай. А «Радуница» зьявілася праз тры гады.

...Яны паснулі на канапе ў кабінеце. Раніцай, папрасіўшы ў Іаанны Мацьвееўны, гаспадыні кватэры, прабачэньня за клопат, Ясенін выпіў малінавай гарбаты і, цесна абкруціўшыся паверх каўняра шалікам, зьнік.

Сьледам за ім разьвітваўся і Дубоўка...

Ад марозьлівага прасторнага ранку ў яго закружылася галава. Па сьвежых гурбах ледзь даклыпаў да прыпынку, з цяжкасьцю ўвапхнуўся ў вагон трамвая, чакаючы якога пасьпеў заледзянець. На пісклівых шыбках мароз навыводзіў безьліч карцін: карункавых зорак, паўлінавых пёраў, пухмяных пялёсткаў.

Ён разглядаў гэтыя ўзоры і ўзгадваў сваю агароднікаўскую хату: у такія часы і яе вокны пакрываліся ледзянымі карункамі – і іх заўсёды было шкада праціраць-выхукваць, каб паглядзець на вуліцу... І раптам адчуў, што ў кішэні ягонага паліто – чужая рука.

Крутнуўшыся, ён схапіў некага за плячук і пацiснуў да сябе... Васпаватая галава ў выцертай аблавушцы, спалоханыя вочы, кароткае, не па росьце, паліто на худым целе.

Рабаўніку было гадоў сямнаццаць, ня болей.

– Чаго хапаеш?! Пусьці!! – рабаўнік паспрабаваў абурыцца, аднак на яго голас з пісклінкай не зважалі. Толькі паўнаватая цётка, укручаная, як матрошка, паверх футра цёплай хусткай, прыціснула да шырокіх грудзей сваю сумку і прабасіла:

– Здайце гэтага галадранца ў міліцыю. Колькі ж можна ў чужыя кішэні заглядаць!

Як не супраціўляўся «галадранец», Дубоўка выцягнуў яго з вагона. Яны апынуліся на Мікіцкай, акурат метраў з трыста – міліцэйскі пастарунак. мікіцкая плошча – надзвычай шматлюдны раён: крамы, кабак «Пінкертон», вось і вырашылі адну з кватэр дома абсталяваць пад міліцэйскі аддзел...

Рабаўнік адразу абмяк, здалося, нават паменшаў. Лёс, па ўсім відно, не асабліва шкадаваў яго: перабітая губа, шнар-рубец на шчацэ...

– Як завуць? – знарок злосна спытаў Дубоўка.

– Леў. – Той скорана шмыгнуў носам.

Дубоўку як апякло – скрушным, горычным. Так звалі яго малодшага брата, іх першы страшны і невылечны боль. Летась Леў памёр – у дзень здачы апошняга школьнага экзамену...

– Еў даўно? – спытаў у хлопца, а той залыпаў упалымі вачыма – як не дачуўшы.

...У «Пінкертоне» Леў зьеў запар тры селядцы і з паўбохана хлеба – і толькі тады, смакуючы з куфля халоднае піва, пачаў адказваць на Дубоўкавы роспыты.

Бацьку й маці Леў страціў яшчэ падчас рэвалюцый. Падаўся да дзядзькі ў Смаленск, адтуль – у Маскву. Сам жа – трэба ж так надарыцца! – зямляк, з Віцебшчыны.

Леў хутка пачаў хмялець. Успомніў, як аднаго разу тут, на Мікіцкай, яму ледзь ня выразалі вока, прызнаўся, што лазіць па чужых кішэнях рэдка – толькі калі доўгі часне перападае іншай работы.

– А наогул я «латочнік», прадаю папяросы. – спавядаўся Леў. – Хачу назьбіраць грошай і падацца ў Нью-Ёрк. – І праз паўзу продуму: – Ці ў Сан-Францыска.

– У цябе што – і там родзічы? – усьміхнуўся Дубоўка.

Аднак Леў уздыхнуў сур'ёзна:

– Каб жа... Я з газетаў пра тыя гарады знаю... Нічаво, жывы будзем – не памром!

А затым быў пачатак вясны.

Па маскоўскіх вулках пабеглі нясьмелыя ручайкі.

Сьнег пад нагамі шархацеў як мокрая вата.

Сонца ўблакіціла і ўзвысіла гарадское неба.

У парку на Прэсьні ўсчалі гармідар вераб'і.

Вось-вось, здавалася, пырснуць сокам аблагоджаныя бярозы.

І Дубоўка ня ўцерпеў: адпрасіўся з вучобы і шпаркай чыгункай падаўся ў свой Нью-Ёрк, свой Сан-Францыска, які таксама яшчэ ніводнага разу ня бачыў, – Менск.

9.

Вясна 1924 года прыходзіла рана. Яшчэ на схоне лютага высьмелілася сонца, апоўз у лагчыны сьнег, а на пачатку сакавіка і наогул зьнік з менскіх вулак – з цяжкасьцю яго ўвабрала Сьвіслач, наструнілася, абудзіўшыся пасьля халадоў, мацней зашаргацела-завадападзіла пад невысокай плацінай, пакрытай бетонным мастком (на якім яны – тры маладыя паэты Язэп Пушча, Андрэй Александровіч і ён, Дубоўка – зараз стаялі), і, як здавалася, не давала зноў унурыцца ў сон паркавым ліпам. Адно тры ніцыя вербіны не чакалі гэтых папярэджаньняў – і самі сьмела падстаўлялі сонцу свае гнуткія галіны, і на іх пасьпелі ўжо выскачыць маленькія вехаці бірузова-туманных лісткоў.

Сваю вандроўку па горадзе хлопцы пачалі ад Старажоўкі: каля старажоўскіх могілак стаяла хата Александровічавага айчыма, дзе яны ўтрох сёньня і начавалі. Нясьпешна агледзелі царкву Марыі Магдалены – невялікую на прасохлым узвышку, прыгожую, пад пераліўнымі ў ранішнім сонцы залатымі купалкамі і зялёнымі званіцамі, перасыпеў якіх далёка плыў па навакольлі.

– Тут малым я прыслужваў на пахаваньнях, – расказваў андрэй, карэнны мянчук.

Невысокі, не ўганараваны волатаўскім здароўем, Александровіч выглядаў вечным гімназістам: заношаны пінжак з караткаватымі рукавамі, што рабіў ягоную паставу крыху хлапечай і нехлямяжай, хударлявы прадаўгаваты твар, наіўныя, з іскрынкамі апантанасьці карычневыя зрэнкі, сінякі пад вачыма, – зноў жа, не ад харошага жыцьця…

У царкве на Старажоўцы псаломшчыкам быў калісь Уладзімір Тэраўскі, сёньняшні вядомы кампазітар. У царкоўным хоры сьпявала сястра Александровіча Алеся. Яна заахвоціла да сьпеваў і брата. Андрэй, было, дапамагаў і ў службе… Падчас рэвалюцый у Менску пачалі ўзьнікаць розныя рэлігійныя секты. Ад уплыву адной з іх не абараніўся і Александровіч. На курсах беларусазнаўства неяк агучыў прывітую сектантамі думку аб непатрэбнасьці беларускай мовы. Тое пачуў Язэп Лёсік, выкладчык курсаў. Нахмурыўшыся, падышоў да дзьвярэй, прачыніў іх.

– Мы вас, малады чалавек, – сказаў рашуча, – сюды не прасілі. Вось вам Бог, а вось і парог, – і выгнаў з аўдыторыі.

Родныя ж хацелі, каб Александровіч вучыўся – і ўпрасілі Тэраўскага, каб «улагодзіў» Лёсіка.

У той час Александровіч пачаў пісаць. Рыфмаваньне давалася яму лёгка і безадказна. Зблізіўся з першымі камсамольцамі – і праз колькі тыдняў разьвітаўся з імі, пачаў наведвацца ў «Беларускую хатку». «У камсамоле тым няма нічога нашага, беларускага, – гаварыў ён упэўнена. – Чытаюць Маякоўскага ды Дзям’яна Беднага, песьні сьпяваюць усе расейскія. Да маіх беларускіх вершаў паставіліся адмоўна…»

Чатыры гады Александровіч адвучыўся ў педтэхнікуме, а зараз ён – студэнт літаратурнага аддзяленьня БДУ.

У БДУ, толькі на педфаку, вучыўся і Язэп Пушча. Чалавек вясковай, як і Дубоўка, «закваскі» (нарадзіўся ў недалёкіх ад Менску Каралішча-вічах), летуценны, сарамяжы прыгажун з далікатнымі рысамі твару, даверлівым блакітам вачэй…

Ад старажоўкі яны пайшлі па беразе Сьвіслачы – да Траецкага прадмесьця і «старога» горада – Сьвятадухаўскай царквы і касьцёла на Пляцы Волі. Напалохалі чародку галубоў на Ратушы, гарэзна сьвіснулі ім усьлед – і зноў спусьціліся да ракі. І вось – у абуджаным гарадскім садзе, на бетонным мастку. За іх сьпінамі фіялетава-зялёная рэчка нібыта застывае, разважаючы, ці варта ціснуцца праз цьвёрдую загароду. Там рэчышча шырэйшае. вада падмывае

карэньні пастарэлых бяроз і каштанаў. Далей ад рэчкі па садзе разьбягаліся роўныя алейкі з яшчэ «царскімі» лаўкамі. Перад вачыма гуркаціць і пеніцца, спадаючы з плаціны, віруе вада (здаецца, кіпіць) і мкнецца наперад – туды, дзе заканчваецца сад і цягнецца ўверх вуліца Карла Маркса.

Перад самай вуліцай – гэта ім добра відно з мастка – Сьвіслач віхляе ўлева, нібыта спалохаўшыся ўзгорка (вуліца Карла Маркса, былая Падгорная, ад рэчкі рэзка ўзыходзіла ўверх – да гарадскога тэатра), і губляецца за кустоўем.

– Сьвіслач – як і паэзія: усё ўбірае, і пену, і бруд, і крыніцы, – раптам сказаў Пушча, і яго дапоўніў Дубоўка:

– Аднак рэчка ніколі не цячэ ўверх. Бачыце – перад узгоркам здаецца, мкне ў абход. Паэзія ж – наадварот, мусіць уздымацца з бруду на пакручастыя ўзвышкі…

– Годзе філасофстваваць, – перапыніў іх Александровіч. – Пойдам далей, я вам пакажу дом, дзе ў 1918-ым зьбіралася Рада БНР і працаваў Народны сакратарыят. Дзе я на курсах беларусазнаўства вучыўся. А потым – да «Беларускай хаткі»…

Цэлыя суткі вёз іх пыхлівы цягнік да Харкава, куды беларуская дэлегацыя (большасьцю – «маладнякоўцы»: Дубоўка, Александровіч, Аж-гірэй) была запрошана на шаўчэнкаўскае сьвята паэзіі.

Украінскаму культурніцкаму размаху можна было адно пазайздросьціць: мноства кніг, перыёдыка, народныя гурты, сьпевы, танцы, музеі, тэатральныя пастаноўкі. І паўсюль беларус – сябар, таварыш, паўсюдна – усьмешкі, спагада.

Харкаў жа адкрыўся нібыта братам іхняга Менску: налечаны красавіцкім сонцам, горад нібыта высільваўся скалануцца, расправіць свае плечы-вуліцы, абуджаўся зяленівам лістоты і травы ў парках, а пад павышэлым блакітам вясновага неба – тая ж няўтульнасьць, вузкія нязграбна забудаваныя вуліцы, дзе побач з высокімі мураванкамі ціснуцца драўляныя халупкі – і ці не такая ж, нібыта надарваная за доўгія стагоддзі, рэчка – Данец.

Аднак на пачатку была Паэзія, былі хмельныя сустрэчы і шчырыя споведзі. Ён пасябраваў са сваім цёзкам – украінскім паэтам Сасюрам, і ў свабодны адвячорак яны ўдвох падаліся агледзець гмах-новабудоўлю – Дом прамысловасьці. Трамвай доўга поўз да вакзала, а затым і зусім зьнядужаў: лезучы на ўзвышша, пачаў стомна – як стогнучы – пішчаць жалезнымі коламі. Новабуд яго ўразіў, і Сасюра загаварыў, нібыта апраўдваючыся:

– Тут, калі прыкласьці да зямлі вуха, чуцён будзе стогн… Столькі паўсюд і крыві, і сьлёз зямля ўвабрала. А пачнеш гаварыць пра гэта – у вочы пальцамі торкаюць: новая ж, маўляў, эпоха, новы сьвет! і ў вас, пэўна, тое ж…

– Тое ж… – уздыхнуў Дубоўка. – Я наогул так думаю: украінец з беларусам стагоддзямі адну долю на двох дзялілі…

Сасюра завёў яго на сустрэчу са студэнтамі-філолагамі. на стале ў інтэрнацкім пакоі ў адну хвілю зьявілася абрыкосаўка, вясковыя прысмакі. Былі доўгія сьпевы – і ўкраінскія, і беларускія, былі і танцы пад гармонік.

Увяселены маладым імпэтам і мяккай абрыкосаўкай, Дубоўка нагаварыў цэлую паэму кампліментаў чарнавокай студэнтцы з паляшуцкім узьлётам броваў, а калі праз колькі гадзінаў тая (яе звалі Наталя) зазьбіралася дамоў (выявілася, што жыла непадалёк інтэрнату і прыходзіла да сябровак абмяняцца кнігамі) – узрадаваўся й першым вызваўся праводзіць. Без «аглабельнай» іх адпусьціць адмовіліся, і ён скарыўся, на разьвітаньне нават прадэкламаваў тост – як уражаньне ад наведваньня старога Харкава:

Прылажы да долу вуха:
аж зямля дрыжыць і стогне.
Скогат, скарга, скелзы скрухі
дасталіся на сягоньня…

Дык няхай бражджыць навала,
троп-у-троп, пакуль ня згасьнем.
Нас бяда пасынкавала,
гадавала перагаса.

Жыць аднойчы давялося:
налівай атруты корап!
«Калупаць ня трэба ў носе»,
бо у вочы пальцам пораць.

Разьвіталіся пад апладысьменты – як даўнія знаёмцы.

– Толькі ж не забудзь, што заўтра ранкам ад'язджаць да старога Кодака! – падкузьміў Сасюра. – Зрэшты, і Наталі нагадай, і яна ж з намі выпраўляецца…

Так, і заўтра Наталя будзе побач. Ад Старога Кодака пачыналася іхняя вандроўка па легендарных парогах Дняпра, і Наталіна

прозьвішча – як паэтэсы-пачаткоўца – таксама было ў агульным экскурсанцкім сьпісе.

На вуліцы дашчэнту ўхмяліла вясновая сваволя. Яны яшчэ доўга хадзілі начнымі вулкамі, а затым, разьвітаўшыся, ён да самага ранку, блукаючы па незнаёмым горадзе, шукаў сваю гасьцініцу – і не пасьпеў прыдрамаць нават на хвілю. Зрэшты, спаць ня змог і па дарозе ў Стары Кодак: побач зноў была Наталя-Наля….

…Першы дуб – вялікая хваёвая лодка – ідзе на сярэдзіну Дняпра, паварочваецца і, падхоплены плыньню, выпрамляецца. Грабцы (ён, сасюра і два суправаджатых) узьнімаюць вёслы і напружваюцца, як перад бойкай. Наля са сваёй сяброўкай-студэнткай сядзела на карме і затоена ўзіралася наперад, дзе яшчэ не было відаць, але ўжо можна чуць кодаўскі парог. Ён – як недалёкі вадаспад – шуміць і грукоча на ўсю ваколіцу.

Сыра, холадна зранку. Высокія гранітныя берагі саступаюцца бліжэй, плынь мацнее; збоку, пад пасмамі туману, мільгаюць руіны замку, адзі-нокія таполі – і яму падаецца, што гэта яны (берагі, замак, дрэвы) адбягаюць ад страшнага ў сваім дзікім нораве парога, а лодка – зачапілася за штось і стаіць.

І раптам вада нібы ўзьвірыла ўверх, закіпела. Дуб ускочыў у самую бушу, шмаргануў дном аб парогавую закіп, задрыжэў. Пырскі гохкаюць у барты і заліваюць ногі. Яшчэ хвіля – і ўсё зьнікае. Парог гудзе ўжо за сьпіной, а яны – на аціхлай мутна-зялёнай роўнядзі.

Другі парог злаваўся збоку: калі берагі пачалі зноў звужацца і плынь паскорылася, яны павярнулі да абкладзенай гранітнымі глыбамі адводнай канавы. перад самым вялікім парогам – Ненасытцам – было дамоўлена зрабіць прыпынак.

Чакаючы астатнія дубы, яны расклалі агонь – і каб абсохнуць, і каб нагрэць вады.

– Хай тут дзяўчаты пагаспадараць, а мы давай разьведку Ненасытца правядзём, – прапанаваў Сасюра.

Да парога яны ішлі хвілін з дзесяць. З узвышша ім адкрылася велічная і страшная панарама: на сярэдзіне Дняпра, як аграмадныя клыкі, высіліся дзьве скалы. Вакол іх, набягаючы з ліхаманкавай хуткасьцю, віравала вада, бурштынілася на сонцы мільёнамі буйных пырскаў. Хвалі з загрыўкамі сьнежнай пены шалёна кідаліся ўніз, стагналі і біліся ў вясёлкава-туманную пыльцу.

– Пра гэтыя дзьве скалы ходзіць паданьне, – грукат вады быў настолькі моцным, што Сасюру даводзілася крычаць. – Сышліся на гэтым месцы на бойку два асілкі, казак і татарын. І кінулі адзін у

аднаго гэтыя каменныя аграмадзіны. Казак быў дужэйшым – яго аскабалак даляцеў амаль да самага берага…

Яны спусьціліся з узвышку да каменнай грэблі і назьбіралі на беразе, пад пашчаманымі бярвёнамі, вядро аглушанай рыбы. Нізка над галовамі кружлялі злосныя чайкі.

– А адкуль тут столькі лесу? – Дубоўка паказаў на пашчаманыя бярвёны.

– З вашых краёў. На гэтым парозе разьбіваецца шмат плытоў, ня толькі рыба…

Калі дзяўчаты чысьцілі рыбу, Наля парэзала руку. Знайшлі бінт, туга абвязалі рану – і ўпраўляцца з рыбай пачалі хлопцы. І калі з берагу заўважылі другі дуб, акурат зварылася юшка.

…Ноччу, напрасіўшыся на начлег у ціхую прыдняпроўскую вёску, ён, успамінаючы мінулы дзень, і сам не заўважыць, як тыя згадкі пачнуць складацца ў верш – спавядальны, адкрыты:

Ты руку сваю забінтавала,
маладая… як цябе і клікаць?
Маё сэрца рвецца на кавалкі
і сьціскаецца тугой вялікай.
Вусны пацалую шчыра, моцна,
прытуліся… Хай гавораць людзі:
словы іх, як палыновы воцат,
зьвінавацяць і мяне у блудзе.

Ці ж я буду скардзіцца на крыўду:
у душы паэта – чорт зламае карак.
Плач душою, а часіны прыйдуць,
сьлёзы завіюцца у каралі…

Ён выйдзе да Дняпра – і зусім нечакана сустрэнецца з Наляй!

Разам яны прагуляюцца неспакойным берагам, зьвернуць у нізіну, дзе толькі-толькі пасьпела адшаргацець касавіца, сьцішацца на мяккім стажку, які – як тынам – абгароджвала шэрая пад поўняй сьцяна вясковага саду.

Ён абдыме яе за плечыкі і павольна прытуліць да сябе. Наля памкнецца прыўзьняцца, але ён схіліць яе голаў і прыпадзе да кунежных вуснаў. І адчуе, як зьлёгку ўздрыгне ейны станік, адчуе бурлівую віхуру ў сваіх скронях. І ўбачыць, як вышэй і вышэй узьнімацьмуцца з Наліных зрэнак нясьмелыя жаданьні.

І загойдаецца ўсё навокал, замітусяцца іскрынкі зорак над імі. І абваліцца тын саду, і ўсё нябеснае мора хлыне на іх. Усё бязьмежжа – на іх! А затым цёплыя сузор'і – як зіхоткія касякі рыб – выплывуць з-пад стога і памкнуцца ўдалеч, да зманлівых бяскрайяў – на волю…

Калі ж раніца абмые нябеснае зрэб'е і на Уладзімеравым пераносьсі стануць відны рассыпаныя – як на цецеруковым яйку – кропелькі рабаціньня, яна пацалуе яго ў лоб і ўпэўнена скажа:

– Пайду будзіць нашых. Дняпро ня любіць соняў.

11.

Хоць з аднаго боку прывідным шыхтом паўставалі горы, а з друго-га – ад мора – раньнімі зялёнымі шатамі ганарыліся гонкія кіпарысы й карункавыя акацыі, – сонца прабівалася і на гэты шэрхлы грудок зямлі пад выцьвілым крыжам. Скраю – друз ламанага каменьня, далей, наў-круг, такія ж непрыглядныя магілкі, такая ж нясьмелая трава на сухім дыване леташняга пырніку.

Колькі яны стаялі моўчкі над магілай – і самі ня ведалі. Час, здалося, застыг, перастаў існаваць-валадарыць. Здрадліва падбіралася ўсьведамленьне марнасьці ўсяго зямнога, інакш чаму нават самым акрыленым і апантаным – такі скон: згарэць зьнічкай і застацца на гэтай неспачувальнай зямлі адно такім забытым размытым грудком… Ды і ці дакладна сваім? Гаспадыня «белага дома ля сіняй бухты» апісала гэтае месца вельмі падрабязна, аднак…

Зрэшты, ці мае тое якое-кольвек значэньне для сапраўднай вечнасьці? Песьня ж застаецца па-над усім гэтым – як чыньканьне крымскіх цыкадаў, як посьпеў марскога ветру ў блізкіх горніх лабірынтах.

Так і Максімавы песьні, думалася яму, застаюцца па-над зямнымі мітусьнёю-мітрэнгамі, і засталіся яны ля беларускіх васільковых ніў, а сюды, уліўшыся ў сонечную вясну, даляталі паглядзець, як варушыліся пад пяшчотным ветрам зялёныя сьвечкі кіпарысаў…

Фурман, які прывёз іх на гэтыя могілкі, не прысьпешваў, нібыта адчуўшы патаемную балеснасьць гэтых беларускіх юнакоў, – хоць, пэўна ж, меў яшчэ шмат клопатаў.

Да мора спусьціцца было немагчыма: за могілкамі пачыналіся паколатыя скалы, і хвалі стомлена біліся недзе зьнізу, нібыта пад зямлёй.

– Трэба будзе ў Менску паклапаціцца, каб паставіць на магіле годны помнік, – першым абудзіўся Александровіч. Яму штось адказаў Ажгірэй, а Дубоўка – як і ня чуў сяброў: задуменна ўзварушваў свой

кароткі «вожык» (падстрыгся яшчэ ў Харкаве), хмурыў сакратаўскі – з аграмадную даланю – лоб і ўзіраўся ў ледзь бачную роўнядзь мора, чамусь ня сінюю, як уяўлялася дагэтуль, а шэрую. Пад скалістай стромай біліся аб камяні хвалі, і яму здавалася, што пачаў адчуваць тое рытмічнае гохканьне сваім целам. А яшчэ падумалася, ці не надакучае гэты хвалябой Максіму, ці ня будзіць ягоны зямны спакой?..

Маўчаў ён і ўсю гадзінную дарогу ў цэнтр Ялты. Трэба было неяк зноў дабірацца да чыгункі, каб вяртацца ў Менск. Іхняя сябрына, пэўна, ужо даехала з Харкава дамоў. Ён жа захацеў затрымацца ў вандроўцы яшчэ на які тыдзень: каб пабачыць мора, горы, крымскае сонца – і пакланіцца Максімавай магіле. Прапанаваў Александровічу, і той ахвотна згадзіўся, а ў вандроўную кампанію з’агітаваў яшчэ і Ажгірэя.

У Менск разам з узьнёслымі згадкамі, гаркавымі пачуцьцямі й камянём-талісманам з Максімавай магілы прывёз яшчэ адзін верш – «На магіле Максіма Багдановіча»:

Нават мора зьмяніла свой колер:
стала ня сінім, шэрым.
Пырскі салёныя носіць наўкольле,
з іх жалоба снуе свой вэлюм…

<…>

Плач жа, сэрца, сьціскайцеся, грудзі,
не зязюля – цыкады сьвіргочуць.
Над табою – сьцюдзёнае груддзе,
хараства больш ня бачаць вочы…

Тая паездка ў Ялту праз гады пачала ўяўляцца яму рамантычным паломніцтвам у паэтычную Меку. Над магілай Багдановіча, свайго першага і непераўзыдзенага куміра, ён раптоўна адчуў, што пасталеў. Пасталеў і ў жыцьці, і ў літаратуры. Час вучнёўства выбраны ім дарэшты. Наперадзе – час Паэзіі…

Праз некалькі дзён выявілася, што з Ялты ён прывёз і тое нябачнае, невыказальнае, неацэннае: упэўненасьць і натхнёнасьць паэта. Ён нібыта прычасьціўся ўзьнёслым, узвышаным – пад крымскім вясновым сонцам, ля Багдановічавай магілы, нібыта пераняў страчанае там Максімам, адшукаў і ажывіў.

Пачалі пісацца вершы – густа, лёгка. За тыдзень склалася паэма, назва якой прыйшла яшчэ перад горнымі ўзвышшамі: «Там, дзе кіпарысы». Сама сабою, без вымогаў і штучнага пазёрства, яго асьвяціла мастакоўская вера, мацнейшая, як думалася, за ўвесь гэты няпэўна-непрадказальны сьвет, вера, законы-скрыжалі якой яму б хацелася ўпісваць кожным радком сваіх вершаў, кожным словам: толькі калі зямны чалавек гаворыць з небам – ён Чалавек; некалі на сьвеце жылі адны паэты, яны не гаварылі, а сьпявалі свае думкі й пачуцьці вершамі; Адам прамаўляў да Евы чатырохстопным ямбам – самым узьвеўным і лёгкім паэтычным памерам; спакваля людзі адышлі ад паэзіі, спусьціліся з неба – і загаварылі загрувашчанай, цяжкай, хмурай прозай; гармонія зьнікла, асела лёгкай аблачынкай на ўзвышшах міфічнага сёньня Парнаса. Толькі сімвалы, толькі вобразы, толькі песьні могуць выказаць і самае патаемнае, і самае сутнаснае, толькі паэзія...

Дык ці ж не настаў час усё пачаць наноў?..

У тым жа 1924 годзе ён скончыў Літаратурны інстытут і – атрымаўшы дыплом са сьпецыяльнасьцю «мастак слова» – пачаў працаваць адказным сакратаром прадстаўніцтва БССР пры ўрадзе СССР. Рэдагаваў беларускі тэкст «Весьніка ЦВК, СНК і СПА СССР». Працаваў у Крамлі – у Саўнаркаме.

Туды 9 кастрычніка і прыйшла нечаканая жалобная вестка – памёр Брусаў.

Пахаваньне зрабілі ўрачыстым. Над труною прамаўлялі дзяржаўныя службоўцы, чытаў верш Ясенін.

Кідаючы ў магілу тры жмені вільготнага жвіру, Дубоўку зноў прытрызьніўся размыты грудок на Ялцінскіх могілках, апякло падвойнае адчуваньне горычы і здрадлівай вінаватасьці, а яшчэ – абавязку, падзякі, далучанасьці... Нібыта і з Багдановічам у той дзень разьвітаўся ён, і – са сваім інстытуцкім настаўнікам, і – са сваім пачаткоўствам...

12.

О сьветлы багаслаўлёны час, калі вочы глядзяць на ўсё даверліва і шчасьліва, калі сэрца поўніцца прадчуваньнем сустрэчы з невядомым і ўадначас зманлівым, калі ты на ўзьлёце і яшчэ поўнішся радасьцю неспазнанага, калі няма тэле-радыёд'ябэлкаў, а іх салодкія спакусы замяняе ўзьнёслая кніга і жывая песьня, калі ты ў дарозе з новым сябрам, а ў вагоннае вакно ўбягаюць вясковыя сады ў

белапеннай квецені, зазіраюць фарсістыя дубы й задуменныя хвоі, калі напрыканцы шляху цябе чакаюць...

О сьветлы час, калі навокал вясна, а табе – дваццаць пяць...

У дарозе – Дубоўка і Кандрат Крапіва. Апошні (высокі хударлявы хлопец з шэра-зялёнымі вачыма, што хаваюцца пад заўсёдна хмурымі брывамі, прадаўгаватым тварам з крыху надзьмутымі вуснамі, негаваркі і заўсёдна нацята-засяроджаны, – так што ніколі й не падумаеш, што ў гэтым чалавеку хаваецца адчайны сатырык і гумарыст) з тыдзень таму зьявіўся ў Менску – пасьля настаўніцтва на Узьдзеншчыне шукаць у сталіцы прытулак і заробак.

Стваралася Усебеларускае аб'яднаньне паэтаў і празаікаў «Маладняк», ініцыятыўнай групе, у якую ўваходзіў і Дубоўка, працы хапала, вось ён пры сустрэчы і прапанаваў:

— А давай мы цябе ў маладнякоўскае бюро прапануем. Зараз еду аргані-зоўваць Магілёўскую філію. Хочаш са мной? Камандзіровачныя будуць.

І Крапіва, нават ня думаючы, згадзіўся.

І вось – сустрэча, гасьцініца, сход новай філіі. Прамаўляючы на ім, Дубоўка заўважыў, што з яго ня зводзіць вачэй адна чарнявокая дзяўчына, – модная стрыжка «карэ», малады і далікатны тварык: задуменны лоб, нос старажытнай вакханкі, узьнятыя вусны...

Ён нават на хвілю спыніўся, пачаў блытана гаварыць пра іншае, – а ў вачах тыя вусны, нібыта спыненыя на паўслове, нібыта вішняй насьпеленыя...

Пасьля сходу яна падышла да яго:

– А як вы думаеце, што зьявілася першым: слова ці тое, што за ім разумеецца? – і, вывучаючы, зірнула напаўсур'ёзна, напаўтарэзь-ліва.

А яму ўпершыню як мову адняло. Канешне, мог бы нагаварыць ёй хоць цэлыя вушы філасофскай усялякшчыны, аднак, – у свой чарод таксама ўважліва разглядаючы незнаёмку, – зразумеў: ад таго, што ён скажа, можа залежаць многае, многае ў ягоных адносінах з гэтай прыгажуняй, а ейнае запытаньне – як код, як пароль, нават – выпрабоўка.

–Гледзячы на вас, упэўнены: напачатку зьявілася прыгажосьць, пра-вільней – правільней прыгажуня. А затым толькі Адам даведаўся ейнае імя...

Яна задумалася, адвяла вочы, нібы стрымліваючы ўсьмешку, а калі зноў узьняла на яго вейкі – зрэнкі пачалі зіхцець малахітам.

– Думаю, вашае імя – Ева, – працягваў Дубоўка.

І яна ўжо годна ўсьміхнулася, удакладніла:

– Можа, і Ева, але ўсе тут завуць Настай, Анастасіяй.

І ім уадначас здалося, што ведаюць адно аднаго – ад самага нара-джэньня. А Дубоўка нават спалохаўся: ці ня выдумаў ён гэтае дзяўчо? Гэты твар славянскай Клеапатры, гэтае стрункае цела пад фіялетавай у белыя пасы сукенкай, гэты разрэз у форме сэрца-чырвы на зманліва прыадкрытых яблычках грудзей, гэты п’янкі кармазын прыраскрытых вуснаў… І вось – тая выдумка з ягонага красавіцкага верша ажывае перад ім:

Ведаеш добра: ты вельмі прыгожая,
вусны твае кармазынам асмужаны.
Вочы нянацкім жыццё устрывожылі
і агарнулі сукрытасьцю кужалю!..

– А можна, я буду называць вас Наляй? – спытаў Дубоўка і толькі тады заўважыў, што ў сонечнай аўдыторыі педтэхнікуму – яны адны, усе ўжо выйшлі на вуліцу.

– Наляй?!. Як скарочанае ад Насты?

– Не, як… – ледзь не сказаў: «скарочанае ад Наталі», яго любімага дзявочага імя, і пасьпяшыў выкруціцца: –…як налітае прыгажосьцю.

– Вы мне робіце камплімент?

– Канстатую факт.

– Пачытаеце мне свае вершы?

– Ахвотна. Толькі дзе?

– А дзясятай вечара, у чыгуначным парку, на лаве пад старой вярбой…

О сьветлы час, калі табе прызначаюць спатканьне такія прыгажуні!..

Яны цалаваліся, аж пакуль высокая поўня не прабілася праз шаты надломленай івы, цалаваліся і захоўвалі звароты на «вы».

А зноў сустрэцца змаглі толькі на першым зьезьдзе «Маладняка». Наля Маркава была дэлегавана ў сталіцу як сакратар ад абласной філіі.

Ён падараваў ёй свой зборнік «Трысьцё», які толькі прывезьлі з друкарні і які яшчэ неяк афіцыйна пахнуў машыннымі фарбамі. Седзячы ў зале і неахвотна слухаючы прамовы-заклікі, Наля марудна, але не чытаючы, перагартала ўсе старонкі, затым прыціснула кнігу далонькамі, паднесла да вуснаў.

– А ты пра мяне ўспамінаў? – спытала шэптам.

– Так.

А потым, пасьля ягонага даклада, калі яны пайшлі прагуляцца па старым Менску, Наля сказала крыху дакорліва, капрызна:

– Чаму ты не пісаў мне лістоў?

– Як не пісаў?! Я пасылаў табе свае думкі на кляновых лістах – па рэчках, жаданьні й жарсьці на ліповых – з ветрам…

– Я не атрымлівала. Пачытай што-небудзь з пасланага так.

Дубоўка ўзяў яе за руку, прыхінуў бліжэй, абняў – і загаварыў знарок пафасна, нібыта жартуючы-гарэзячы:

Цягнік сьпяшаўся, сакатаў маркотна,
цягнік сумленна мераў кіламетры.
На ўзгорку, бачылі усе праз вокны,
каліна дагарала белым цьветам…

…І скардзіцца няма каму, ды дзе там:
цягнік імкнуўся ў небасхіл, у далі,
каліна водарыла белым цьветам,
каліну звалі тую: Наля… Наля…

– Уладзь, мне зноў здалося, што твае валасы пахнуць дымам, чыгункай… Як тады, калі я цябе праводзіла…

Ён сядзеў з Адамам Бабарэкам у рэстарацыі непадалёк ад Пляцу Волі і, як і сябар, марудна адпіваў някепскі армянскі каньяк і праз тоўстае шкло вакна глядзеў на вуліцу.

Яны разам атрымлівалі ганарар за сёмы нумар «Маладняка» і разам вырашылі адзначыць свае публікацыі. Дубоўку спадабаўся артыкул Бабарэкі «Вясну радзіла восень (Да пытаньня аб кірунках у сучаснай беларускай літаратуры)».

– А вось я пасьля прачытаньня тваёй рэцэнзіі на Александровіча раздвойваюся. – Бабарэка адставіў келішак і прыхінуўся да сьпінкі стула. Крыху сутулаваты, шырокія плечы, чорная копка кучаравых валасоў, блізарукія вочы з каштанавымі зрэнкамі… – Перахвальваеш Андрэя! А гэтыя твае думкі пра літаратурнае ўзвышша вельмі хораша леглі. Калі ня супраць, я хачу іх пашырыць, разьвіць. Усё ж сапраўднае, створанае па законах эстэтыкі, а не барабаннай агітацыі, мастацтва – узьнёслае, узвышанае. Сьведчаньнем гэтага мне бачацца найперш Коласаў «Сымон-музыка», тваё «Трысьцё». А таксама вершы Пушчы. Толькі не Александровічава брукаценьне…

Дубоўка маўчаў і пра штось думаў.

– Ці новае напісалася табе тут? – спытаў Бабарэка.
– Ёсьць трохі.
– Пачытай.
Дубоўка дапіў каньяк і пачаў марудна, задуменна:

…І гінулі яны за косы Клеапатры,
за вочы тыя, што ня сьняцца нават.
Да ног яе нясьлі,
нясьлі упарта
жыцьцё, свой лёс і славу…

…І гінулі яны у хваляваньні лавы,
якую слаў, радзіў Везуві.
Апошні раз на мармуровых лавах
лавілі вуснаў лоскат, цень надзеі.
Затым з Пампеяй казкаю заснулі…
…І гінулі яны штодзённа і штогодна,
за ласкі шчырыя, хвілінныя, за ласкі…
Дарма, што з блудніцай нягоднай,
дарма, што мнагакраць, ня першы.
І так ад Рыму да Аляскі…

– Так… Так, – паківаў галавой Бабарэка. – І Клеапатра тая для нас – Беларусь. А мы – як матылі на ейнае сьвятло… – і ўжо сам укінуўся ў задуменнасьць.

Каньяку ў той вечар яны больш не замаўлялі…

13.

Новы год ён сустракаў у Маскве. Колішні сьнег пасьпеў растаць, затым зноў замарозіла, на горад наваліўся туман, і, ідучы паўз Крамлёўскія прысады, усе дзівіліся нечаканай прыгажосьці: елкі былі як з крышталю – у каралавай шэрані, казачна далікатнай на фоне чырвона-карычневых сьцен.

Аднак ня меншае зьдзіўленьне чакала яго ў бібліятэцы ЦВК – газета «Савецкая Беларусь» ад 6 студзеня з нататкай «У Маладняку», якая перадавала «думкі» Александровіча, Барашкі, Дудара, а перш за ўсё Каплана пра новы Дубоўкаў зборнік «Credo».

Дубоўка ад злосьці стукнуў кулаком па стале – і напалохаў малодзенькую бібліятэкарку. Абурэньню ж ягонаму не было мяжы: кніга яшчэ ня выйшла, а тут узьнялі такі заказны вэрхал пра яго контррэвалюцыйнасьць ды ідэалагічную хваравітасьць…

Стрываць, прамаўчаць на такое ён ня мог – напісаў гнеўны ліст Міхасю Чароту, галоўнаму рэдактару «Савецкай…». Напісаў і Бабарэку.

З адказам ад апошняга атрымаў некалькі сьвежых асобнікаў «Credo» і – лютаўскі нумар «Маладняка».

«Плюй і не зважай на лямант гэтай гайні! – пісаў Бабарэка. – Твой зборнік – наймацнейшае, што зьявілася за гэтыя гады ў нашай паэзіі…»

Толькі ж як не зважаць, калі і ў дасланым «Маладняку» – пасквіль на «Credo» нейкага Я.Ч. (хтось нават пабаяўся назвацца!):

«Вершы Дубоўкі – мастацкія, але ня трэба захапляцца іх зьместам. Трэба сачыць, каб яны не прасягалі ў школьныя падручнікі, бо там яны могуць прынесьці вялікую і цяжка выправімую шкоду…».

Ні больш, ні менш! А яшчэ «роўнадушша да лёсу свайго і лёсу грамады і кісьленькае інтэлігенцкае хныканьне». Найбольш дасталося ягонаму вершу «Далёкае мы любім надта». Нават самому захацелася перачытаць той верш у кнізе:

Далёкае мы любім надта,
чужыншчыне паклоны ўдол.
А хто успомніць нашы хаты
за нізьзю ціхіх кволых слоў?

Паэты гімны ўсім складаюць,
а беларусам – пушча, гай.
Мая краіна дарагая,
ты прабачала – выбачай.
Такі наш лёс, такая доля,
галовы хілім нізка… Ой!
Даволі рабства ўжо, даволі,
таварыш любы, браце мой!

Хай будзе ў кожнага з нас сілы
ісьці, змагацца – сьмерць адна. –
…Ці пад ярмом, як у магіле,
ці у магіле без ярма…

Але «пад ярмом» ён пачувацца не хацеў. Значыць, трэба даваць адлуп, каб і з іншых не пачыналі рабіць падобных злачынцаў і ворагаў.

Аднак пасьля яго пачалі беспардонную лаянку Пушчы, і зноў ананімна. Не пасьпеў парадавацца за выдатны зборнік сябра «Vita», не пасьпеў як сьлед прывітаць яго, а тут А.Д. (ці не Алесь Дудар, літаратурны сакратар Цэнтральнага бюро «Маладняка») без тлумачэньняў і аргументацый у новым нумары часопіса амбоніў:

«Вершы Пушчы, зьмешчаныя ў зборніку “Vita”, можна назваць літаратурнымі прысмакамі. Паэзія, ізаляваная ад жыцьця, робіцца прыгожаю дрындушкаю...».

Тое стала апошняй кропляй. Дубоўка паслаў у ЦБ «Маладняка» пратэст супраць вульгарызатарскіх ацэнак свайго зборніка «Credo», які заканчваўся ультыматыўна: «Калі Цэнтральнае бюро таксама салідарызуецца з памянёнымі поглядамі, прашу тады прыняць пад увагу маю просьбу аб выхадзе са складу ЦБ і арганізацыі «Маладняк» наогул, і з ліку супрацоўнікаў часопісі...».

Гэты ліст ён не паслаў, а сам павёз у Менск.

Сабраліся на кватэры ў Бабарэкі: Дубоўка, Пушча і гаспадар, – пасьпеў ужо ажаніцца і гадаваў дачку-немаўля Элеанорку, з якой цяпер у суседнім пакойчыку-куханьцы забаўлялася жонка, разумніца і прыгажуня. Працаваў жа Бабарэка ва універсітэце.

За суседнім домам на Гарбарнай заходзіла сонца. Яго касыя, вішняватага колеру промні адчайна, здалося, чапляліся за камінкі, падстрэшша – нібыта стараючыся яшчэ на некаторы час утрымаць сьвяціла.

– Дык жа зусім – мелюць, што хочуць: і нацыяналісты мы, якіх перавыхоўваць трэба, – абураўся, седзячы на канапе, Пушча. Бабарэка – за круглым сталом. Дубоўка – на стуле, каля вакна; памаўчаў – і ўжо як пра вырашанае:

– Думаю, нам трэба выходзіць з «Маладняку». І засноўваць сваё згуртаваньне. Сваё, каб разам бараніцца ад літшакальчыкаў розных рангаў і ўзростаў. Інакш жыцьця нам ня будзе. Скрышаць па аднаму.

– А хто ж на тое згуртаваньне дазвол дасьць? – выказаў недавер Пушча. – ГПУ ж за ўсім стаіць.

– Ну гэта ўжо ад нашай настойлівасьці залежыць. Складзём статут, камунікат. А тут якраз восеньню запланавана навуковая канферэнцыя па рэформе правапісу, шмат гасьцей з замежжа чакаецца. Будуць хваліцца перад імі, агітаваць. І якраз гэта і выкарыстаем – калі не дазволяць нам рэгістрацыю, гэта значыць свабодны мастацкі выбар, – на ўвесь сьвет почут пойдзе. Трэба падумаць, хто да нас можа далучыцца.

Зайшла Бабарэкава жонка, Аня. Чымсьці падобная з твару на мужа; пачала ставіць на стол прысмакі.

– А то вы са сваёй літаратурай хутка і пра зямное забудзеце, – далікатна пакрытыкавала хлопцаў. – Язэп, Уладзь, давайце бліжэй да стала!

– Здаецца, далучыцца да нас Кузьма Чорны, Крапіва. А яшчэ – Глебка можа, Лужанін. І пішуць адметна. Пагаварыць з імі трэба. – Бабарэка як і не заўважаў жончын клопат.

– Адаме! Зноў за сваё… Ты госьцям паесьці, выпіць дай, а потым ужо і размовамі кармі.

І госьці засядзеліся да ночы, і спаць у Бабарэкаў палеглі. А раніцу Дубоўка зноў пачаў з тога ж:

– Трэба яшчэ і з Купалам параіцца, яму, як старэйшыну, прапанаваць да нас далучыцца.

– Ну гэта ты сам зробіш – на правах Купалавага любімца. – Пушча працёр сонныя вочы. – Ён цябе па ўсім Менску беларускім Пушкіным называе. Я перад ім – толькі Жукоўскі, гаворыць, – Пушча, усьміхнуўшыся, паспрабаваў нават падрабіць Купалаў голас.

14.

Устаноўчы сход новага літаратурна-мастацкага згуртаваньня сабралі 20 жніўня. Назву абгаварылі яшчэ раней – «Узвышша». Да ўстаноўцаў далучылася яшчэ тройка: Зьмітрок Бядуля, Сяргей Дарожны і Васіль Шашалевіч.

Зацьвердзілі статут, прынялі «Тэзісы да пытаньня аб утварэньні «Узвышша», сярод якіх: аваладваньне бездакорнай культурай беларускай мовы, выпрацоўка жыццёвай сімволікі, дасягненьне кантрастнай вобразнасьці і кампазіцыйнай дынамічнасьці, нацыянальная жанравасьць, разнастайныя фармальныя рэальнасьці.

А вось гэты тэзіс пісаўся Дубоўкам, Бабарэкам і Пушчам яшчэ тады – пры сустрэчы на Гарбарнай, калі ранішняе сонца зноў пачало гарэзна ўсьміхацца ў вокнах суседняга дома:

«Узвышша беларускае мастацкае літаратуры творыцца ня колькасьцю паэтаў і празаікаў, якія б асьмеліліся абвесьціць сябе каманднымі высотамі, а якасьцю тэй літаратурна-мастацкай прадукцыі, якая прыносіцца ў скарбніцу літаратуры з глыбінь сучаснасьці, узброенай ведамі, воляю, шчырым жаданьнем і энтузіязмам вялікай творчасьці. Толькі так утворыцца тое ўзвышэнства беларускае літаратуры, якое ўгледзяць вякі і народы».

– І хай яны хоць да пасіненьня дундычаць сваё «Трактар едзе: дыр-дыр-дыр. Мы змагаемся за мір!», – бадзёра пакпіў тады Пушча.

А ў адказ – на іх толькі ўзмоцнілі ціск, найбольш актыўнічалі тыя, хто вышэй тога «дыр-дыр-дыр» не маглі ўзьняцца. Дый ня ўмелі…

14 лістапада 1926 года ў Менску распачалася Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу. Былі даклады, была гаворка – і пра мову, і пра літаратуру. І літаратура загаварыла – і пра сябе, і пра жыцьцё. Сярод дэлегатаў распаўсюджваўся машынапіс незвычайнага вершу; менчукі, прачытаўшы, насьцярожана маўчалі, замежныя ж госьці з цікавасьцю прасілі перапісаць…

Вечарам у гатэльным нумары кіраўнік беларускага таварыства ў Латвіі Езавітаў даў Ластоўскаму прачытаць той верш, які меў назву «На ўшанаваньне новага падзелу беларускай зямлі»:

За ўсе краі, за ўсе народы сьвету,
І што былі, і прыйдуць што пасьля,
Аздобленае горкім, цьмяным цьветам
Зазнаць нам гора лёс благі паслаў.
<…>
Прыціх наш край: ад гутарак аскома...
Прыціх наш край: маўчаць, усе маўчаць.
Свабодай карыстаюцца сачкомы,
Каб тых, хто мысьліць, у вастрог саджаць.
<…>
На нашым карку торг спраўляе сьмела
Масква з Варшавай, з Рыгай і Літвой,
І наша змучанае катам цела
Штогодна новай кроіцца мяжой.
<…>

Пад вершам стаяла дата – 29 верасьня 1926 году – і псеўданім: Янка Крывічанін.

Ластоўскі перачытаў уважліва – і спытаў крыху зьніякавела:

– Дзе ўзяў?

– Меў нечаканыя запросіны на абед ад Гартнага. Там і далі перапісаць... Кажуць, ужо з тыдзень па Менску гэты верш ходзіць.

Ластоўскі сеў на ложак, склаў рукі – далонямі адна да адной, памаўчаў, затым ціха сказаў:

– Гэты верш і я ўжо чытаў, яшчэ раніцай. Верш – як стогн, выбалены... Гэта не падробка, і мне падаецца, я ведаю яго аўтара.

– То скажы, каму пацiснуць руку?

– Гэтымі днямі яго штось не відно было…

У прадапошні дзень працы канферэнцыі, 20 лістапада, пасьля агучваньня рэзалюцыі абвесьцілі перапынак. Тады яны і сустрэліся – дужы высачун з каротка падстрыжанымі валасамі, блакітнымі вачыма й строгімі брывамі і колішні прэм'ер-міністр Беларускай Народнай Рэспублікі, пісьменьнік і выдавец Вацлаў Ластоўскі, які пра тога высачуна ўжо шмат чуў і рэцэнзаваў у друку ягоныя кнігі.

– Дык вось ты які, Дуб-Дубоўка?! – ці спытаў, ці падзівіўся ён.

Парукаліся, і Ластоўскі ўважліва агледзеў Дубоўку: галава крыху набок (нібыта саромеўся свайго росту), погляд адкрыты, але з адбіткам якойсьці таямніцы...

Яны выйшлі на вуліцу, і там Ластоўскі прызнаўся, што завочна ўжо даўно ведае Уладзімера – яшчэ па віленскім часопісе «Маладое Жыцьцё». Распытаў пра клопаты ў Маскве, памаўчаў – і нарэшце прызнаўся:

– Мяне ўразіў некалі твой верш «Малітва ўцекача»... А тут, у Менску, далі прачытаць «На ўшанаваньне новага падзелу...» Янкі Крывічаніна... І хачу я... – Ластоўскі зноў сьціх, уважліва зазірнуў Дубоўку ў вочы. – Хачу, як рэдактар «Крывічаніна» і «Крывіча»... як няштатны пасланец Крывіі пацiснуць Янку Крывічаніну руку, – і бадзёра працягнуў суразмоўцу сваю пяцярню.

Дубоўка таксама ўважліва ўгледзеўся ў Ластоўскага, затым абодва ўсьміхнуліся, і старэйшы абняў малодшага... (А верш, назваўшы па першым радку – «За ўсе краі, за ўсе народы сьвету...», перадрукаваў Езавітаў – у першым нумары віленскай «Беларускай Культуры» за 1927 год – са сваім допісам: «...гэты верш адбівае праўдзівыя настроі і думкі беларускага народу, у нетрах якога накіпае пратэст проціў камісарскіх гвалтаў...».)

А калі Дубоўка з Пушчам пасьля канферэнцыі сядзелі ў рэстарацыі – за вішнёвай аксамітнай шырмай – і ўжо дапівалі моцную каву, зусім побач, за сьпіной, пачуўся знаёмы гарэзны сьмех.

Дубоўка вызірнуў у шчыліну паміж сьцяной і шырмай – Наля какетнічае ў вясёлай кампаніі: хтось у касьцюме з тройкай, пэўна, камсамольскі ці партыйны службовец (іх ён пазнаваў беспамылкова), праваруч ад яе – Алесь Дудар, якому даўно па-мужчынску хацелася набіць морду, і Александровіч – эх, Андрюша-Вырви глаз, налетай, рабочий класс!..

– Ого! – Дубоўка ажно скалануўся. Заклаў за вуха цыгарэту – і да суседняй кампаніі. Імпэтна падсеў на нібыта адмыслова для яго пакінуты стул, па-заліхвацку закінуў нагу на нагу, прывітаўся. – Мне гэта... Не дае, шаноўныя таварышы, спакою адно пытаньне... – Гарэзьліва падпаліў цыгарэту, пусьціў на стол доўгі струмень дыму. –

Што ўсё ж зьявілася першым: слова ці тое, што за ім разумеецца? – Заўважыў, як усе зьнерухомелі, чакаючы працягу. – Вось… Так і знаў, што ня ведаеце. А пачытаеш такіх шчанюкоў, – і кіўнуў на Дудара, затым – на Александровіча, – падумаеш, што напачатку і ня слова, а гаўканьне было. – І ўстаў, як нічога ня здарылася, ступіў колькі крокаў да шырмы, затым рэзка крутнуўся: – Ах, во… Забыў. Калі на дуэль захочаце запрасіць, я да вашых паслуг. У Менску буду яшчэ з тыдзень.

Адразу ж яны з Пушчам і пайшлі да выхаду. Каля дзьвярэй яго дагнала Наля.

– Уладзя, ты што гэта…

Але ён ня даў ёй дагаварыць, спыніў халодным:

– Ідзіце, Анастасія Паўлаўна, за свой столік. Не пакідайце такой пашанотнай кампаніі…

15.

Найважнейшай задачай для іх было заснаваньне свайго часопіса. Правільней – атрыманьне дазволу на яго выданьне, што ў гэпэушнай дзяржаве дамагчыся было не прасьцей, чым у царскай.

Колькі лістоў складзена!

Колькі дзьвярэй адчынена!

І вось нарэшце свайго дамагліся. Сам Чарвякоў з асабістага фонду выдаткаваў на выданьне іхняга «Узвышша» невялікую субсідыю, і яны паверылі: часопіс зьявіцца.

І зьявіўся – у студзені 1927-га. І жыцьцё пайшло новымі кругамі: падбор матэрыялаў, рэдагаваньне, вычытка, друкарня (у Менску ня бралі, давялося пасылаць у Гомель), распаўсюд…

Рабілі бяз платы, нават ад ганарараў за свае публікацыі, каб зэканоміць болей, ня бралі.

Цешыла тое, што часопіс атрымаўся, што яго чыталі, яго шукалі, – і да лета 1927 года наклад стаў большым, чым у «Маладняка», перарос дзьве тысячы, а гэта значыць – «Узвышша» хутка зробіцца самаакупным, стане фінансава незалежным!

А ў адказ яшчэ больш люцелі іхнія апаненты. Цішка Гартны адмо-віўся друкаваць новую Дубоўкаву кнігу «Наля», сказаў адкрыта, без дыпламатыі:

–Пакуль я кіраўнік Цэнтральнага выдавецтва, кнігі Дубоўкі ў Беларусі выходзіць ня будуць!

І што на такое можна адказаць? Чым? Хіба толькі зноў – новымі творамі…

Дубоўка мусіў друкаваць «Налю» ў Маскве – у выдавецтве народаў СССР. Выдавецтва ледзь ліпела, і аздоба кніжкі выйшла вельмі сьціплай.

Травеньскі нумар «Узвышша» зьмяшчаў яго паэму «Кругі», прысьвечаную Бабарэку. «За натхненьне табе прысьвяціў Гэты твор пераходны, ламаны. У жыцьці давялося ісьці Да яснот праз імжу і туманы», – былі там адкрытыя радкі да сябра. І задумвалася новая паэма, якой ужо і назва была – «І пурпуровых ветразяў узьвівы», і прадбачваўся новы раман, імя якому – Марыя…

16.

Цягнік фыркнуў, паднапяўся – і, набіраючы хуткасьць, зьнік.

І раптам так спакойна ім стала, як бывае адно ў дзіцячых снах – перад раніцай.

А быў дзень, і лета ў самай хмарнай вышыні, і густахмельныя ўзьлескі, якія палахліва спыняліся перад чыгуначным насыпам.

І зязюліна «ку-ку» за сьпіной.

І сьпешная сьцежка да недалёкай вёскі – летняга спачыну, дзе іх – Дубоўку з маладой жонкай – чакалі сем'і Бабарэкаў і Крапівы.

І лясная вёска з ласкавай назвай – Да-ра-га-на-ва.

І дзьве гонкія ліпы з бадзёрымі пчоламі перад хатай.

І рэчка за падворкам.

І сонца над усім…

Дзьверы расчынены насьцеж. Вялікі букет кветак на стале. Белыя фіранкі на вокнах варушыць скразьняк. Напалоханы чмель б'ецца ў шыбу.

І больш – нікога.

Выйшлі на падворак. Скошаная трава пасьпела адрасьці і мякка казытала босыя ногі.

Дубоўка лёг на копку пахкага сена, тварам да неба, да зманлівай недасяжнасьці. Марыя прысела побач.

Цішыня й цяплынь.

Цяплынь – і цішыня.

І зноў задуменнае «ку-ку», недзе зусім блізка, як за сьпіной, недзе зусім шчыра, як ад сэрца…

Яны пазнаёміліся восеньню 1927 года. У Беларускім клубе на Арбаце пачаліся курсы беларускай мовы, якімі кіраваў Дубоўка. Марыя – маладая настаўніца, за сьпіной у яе – Гомельская гімназія, Акадэмія камуністычнага выхаваньня, праца па разьмеркаваньні ў Кузбасе, два гады – у Сібіры. І вось – курсы роднай мовы…

Ён некалькі дзён прыглядваўся да гэтай сур'ёзнай дзяўчыны, якая са-дзілася на заднюю парту, але слухала ўважліва.

Напачатку зьдзівілі яе вочы – глыбокія карычневыя зрэнкі нібыта хавалі важную таямніцу, праменілі спакоем і мудрасьцю. Роўны нос пад-крэсьліваў яе цьвёрды характар, тонкія вусны – адказнасьць, надзейнасьць.

Аднаго разу пасьля заняткаў ён правёў Марыю да яе кватэры – ад Арбату да Старой Сіманаўкі. Затым праводзіны перарасьлі ў доўгія шпацыры па вячэрняй Маскве, наведваньне тэатраў і канцэртаў.

Марыя падкупляла сваёй шчырасьцю, спагадай, дабрынёй, – і самастойнасьцю. Даўно страціла сувязі з сям'ёй, аднак не згубілася, яе закаляла мужнасьць шляхецкага характару, яна шукала сябе ў гэтым няпростым жыцьці…

…– О-О! У нас госьці! – голас Бабарэкі. Ідзе радасны, на плячах малая дачка. За ім разорай, на якую зьвісаюць кветкі маку і зялёныя сьцяблiны кропу, ідуць Ганна, жонка, і жонка Крапівы Лена. Даўгавязая постаць Крапівы завяршае купальную брыгаду.

Усе бадзёрыя, расчырванелыя, мокрыя, з рушнікамі – як сьцягамі.

– Дазвольце, таварышы кулакі й падкулачніцы, пазнаёміць вас і з маёй паловай… – Дубоўка ўзьняўся насустрач і прымружыў правае вока. – А ці знойдуцца ў гэтым маёнтку і нам апартаменты?

Летнія «апартаменты» – асобны пакой з вакном на рэчку – іх чакалі ўжо некалькі дзён.

У вяскоўцаў прыкупілі малака, яек, сала, гародніны, хмельнай «сьлязіны». Днём, калі нагаварыліся, гулялі ў гарадкі. Выйгравалі часьцей Крапіва з Крапівіхай, як гарэзна пачаў называць Лену Дубоўка. Вечарам на беразе рэчкі бліз вогнішча адзначылі сустрэчу.

А раніцай Дубоўку разбудзіла новае «ку-ку». Зязюля то заціхала, нібыта задумваючыся, то зноў працягвала свае падлікі.

Ён ціха пайшоў да рэчкі і пасьпеў пакупацца – перш як у ёй адлюструецца сонца. А на беразе ўжо чакала Марыя.

– Ты ж можаш так застудзіцца, – пачала ўшчуваць. – Яшчэ ж дзень наперадзе!

– Так, Марылька, і дзень, і новае лета наперадзе! – Дубоўка скочыў на строміcты ўзгорак і працягнуў ёй руку. А Марыя нечакана войкнула і прыціснула да жывата руку.

– Што?! – насьцярожыўся Дубоўка, а Марыя ўсьміхнулася ў адказ і прыгладзіла яго мокрыя валасы:

– Ну як што? Я ж цяжарная…

* * *

3.X.1928, Масква

Бабарэку Адаму.

Братка Адам!

Атрымаў часопісь. Страшэнна многа памылак. Мабыць, трэба разьвітацца з Гомелем і даць друкаваць у Менску. Абмяркуйце гэта пытаньне... Трэба выдрукаваць невялічкую ўклейку з заўважанымі памылкамі...

Пішы, што добрага і дзе.

Вітаю нашых. Цалую цябе.

УЛАДЗІК, каторы ДУБОЎКА.

* * *

26.XI.1928, Масква

Браце Адам!

Паслаў вось табе вершы, а зараз і шкадую: ня трэба было пасылаць. Добра, што папрасіў быў цябе не чытаць нікому – бо дрэнна з мастацкага боку. Зараз прагледзіў іх яшчэ і прашу цябе не друкаваць іх зусім. Чаму? – Напісаны яны, выключаючы двух, даўно і аб'яднаны выпадкова пад назвай "Пярэсты букет". Ці зьяўляюцца яны ўзорнымі для мяне? – Не. Адно – толькі могуць быць скарыстаны супроць нас: "вось як пішуць! Кусі яго!". Дзеля гэтага, лепш не друкуй. Тым лепш, што я ў шосты № прышлю добры артыкул...

Наогул, адносна вершаў – справа дрэнь. Не таму, што "выпісаўся" я – гэта глупства, бо якраз наадварот – пішу і чытаю шмат. Але нешта іншае, больш глыбокае. Бардак, у які пачынаюць ператвараць справу беларускае культуры, немагчымасьць змаганьня з шкоднікамі на культурным фронце, вялікія перашкоды, якія ставяць увесь час перад намі – робяць сваю справу. Я пачынаю глядзець на гэта як на нейкае паганае балота, ад якога хочацца быць далей. Мэліяраваць можна і варта толькі такія плошчы, якія знаходзяцца вышэй узроўня вады... Такім чынам, справа наша прападае марна: няма як мэліяраваць... Вось такія думкі пакуль ад-біваюць ахвоту ад вершаў. Сапраўды, што пісаць і як пісаць? – Лірыку "голую", каб нехта ў тваё інтымнае пляваў і смаркаўся? Грамадскія матывы? А хто яго зараз ведае, я цяпер ні з кім не гавару нават, ня тое што пісаць пра грамадскія матывы: члены ЦК аказваюцца вінаватымі ў розных ухілах, што ж казаць пра нас, грэшных? Пра што ж пісаць? Браць тэмы далёкія? Вось як капанешся ў далёкія тэмы, дык там і нацыяналізмы і містыка. Такім парадкам, я зусім лагічна прыйшоў да

вываду: вершы зараз нікому не патрэбны, бо – тым больш на Беларусі – яны наогул скампраметаваны…

Пасылаю табе зборнік юнацкіх вершаў А. Блока і часопіс “Новые Пропилеи” – як узор выданьняў. Глядзі на часопіс – набор такога фармату, як у нас, а папера большая і выглядае лепш. Такжа і вокладка… Бяда, што ў краіне папяровы голад…

Пішы, што добрага наогул. Як гадуецца Аня з дзеткамі, як Кандрат наш Крапіва з Ленай?

Вітай Гарэцкага Гурыка ды і Максіма такжа, калі бачыш іх. Зусім я адарваны ад вас, ад вашых навін.

УЛАДЗІК.

17.

На пачатку 1929-га часопіс «Узвышша» апублікаваў яго новую паэму «І пурпуровых ветразяў узьвівы». Дубоўку здавалася, што ён уклаў у яе ўсе свае думкі, усе трывогі, усе прадчуваньні і засьцярогі, што з месяца ў месяц не давалі спакою ні яму, ні ўсяму згуртаваньню.

Развага і пачуцьцё, Матэматык і Лірык сышліся на старонках ягонае паэмы – як сышліся ў жыцьці новае і спрадвечнае. Усё, што адбывалася ў імклівай рэальнасьці, перадавалася вершавана-афарыстычна.

Матэматык крытыкуе Лірыка:

Ты не шукаеш вобразаў рэальных,
даступных і карысных у змаганьні…
У нашы дні руін і будаўніцтва
паэт на фроньце антырэлігійным
павінен быць,
а не бадзяцца недзе
па балотах палескіх і выгарах.

А Лірык глядзіць далей:

У нашы дні радасьці і гора
патрэбны дойліды й дзеньдзівары;
аднолькава іх права на паветра,
ды і на сонца такжа.

Для ілюстрацыі сваіх думак Лірык расказвае некалькі казак, у адной з якіх паўстаюць начныя здані – партрэты літаратурных ліхвяроў, далакопаў «Узвышша». Найбольш пазнавальным з іх атрымаўся Гартны:

Вось ідзе адкрыты чэрап,
ён мазгі нясе ў партфелі,
свае іклы злосна шчэрыць,
каб яму асанну пелі.

Паэма ўзарвала літаратурны Менск. З шалёнай і пагромнай крытыкай накінулася на аўтара Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменьнікаў, створаная з парэшткаў «Маладняка». З даўжэзным ваяўнічым артыкулам дэбютаваў у «Савецкай Беларусі» Бэндэ – будучы крытык-далакоп нацыянальнай літаратуры. А за ім – ледзь ня хорам: Гародня, Барашка, Мурашка, Канакоцін, а затым стрэліла і «Зьвязда», афіцыйны орган ЦК КП(б)Б. У Матэматыку пазналі бальшавіка, якога перамагае Лірык – узвышавец, а Дубоўка, маўляў, прапануе чытачу выбар: «пайсьці з гэтымі дурнымі бальшавікамі ці з намі»…

Пагромную буру Дубоўка паспрабаваў суняць лістом у «Зьвязду»: мая паэма вытлумачваецца няправільна варожымі крытыканамі. Аднак гэта абудзіла яшчэ мацнейшы супраціў. Яго апафеоз – асобная дыскусія ў будынку Беларускага дзяржаўнага тэатру. Прыйшло шмат народу, многім не хапіла месца. Як па спектаклі – спланаваныя выступы з асуджэньнем. Ні аўтару, ні ягоным сябрам не далі слова, што абурыла некаторых прысутных, – і сустрэча затым ледзь не перарасла ў мітынг.

Гаворка перакінулася ў студэнцкія аўдыторыі, перайшла і на Украіну, у Расію.

Аднойчы Дубоўку выклікалі ў ЦК Усерасійскай кампартыі. Сустрэў, усьміхаючыся ў невялікія вусы, загадчык аддзела друку Платон Кержанцаў:

– Ведаеш, да нас дайшоў почут пра тваё творства… Я дасканала вывучыў усю справу, параіўся з многімі. Здаецца, у цябе ёсьць усе задаткі генія… – і зірнуў з-падільба, сур'ёзна. – Я прапаную табе сваю падтрымку. Падтрымку і апеку. Адна ўмова: кідай сваю правінцыю. Пішы па-руску. І станеш у нас адным з першых…

І на тое ўсьміхнуўся ўжо Дубоўка.

– Ведаеце, – сказаў, – я ўдзячны вам за ўвагу… Аднак мову, як і маці, не выбіраюць. І зьмяніць яе без душэўных стратаў немагчыма…

* * *

29.XII.1929, Масква

Браток Адам!

…Справа не ў прызнаньні неіснуючых у нас памылак на агульнай лініі. У тым уся бяда наша, што мы вялі вытрыманую, чоткую лінію ў літаратуры, а прадстаўнікі ЦК балталіся як барановы муды між ног Цішак Гартных ды інш. У тым і ўся бяда наша: “трэба было ўмазацца”. А мы не захацелі мазацца, а мы змагаліся супроць рознай пошкудзі, якая цалкам збанкрутавала. Больш: няёмка нас зачыніць за ўсё гэта. Дык вось нам прапануюць: прызнайце, што ваша лінія памылковая. Як толькі мы прызнаем гэта, нам адразу, не чакаючы ні хвіліны, які Функ перадавіцу напіша: “Даўно трэба было зачыніць гэту публіку”… Вы-ключна для гэтага і патрабуюць ад нас “прызнаньня” “памылак”…

Не папушчайцеся ні на ёту! Няхай лепш зачыняюць…

Ваш УЛАДЗІК ДУБОЎКА.

* * *

30.XII.1929, Масква

Браце Адам!

Пытаньне яснае і бясспрэчнае…

Трэба распусьціць арганізацыю, ня трэба чакаць, пакуль нас па адным будуць кампраметаваць і дыскрэдытаваць раз’южаныя Цішкі.

Справа не ў прызнаньні неіснуючых памылак. Справа ў той “сделке”, якую заключылі з Цішкам Гартным і яму падобнымі і якая павінна быць захавана ад нас “дымавой завесай”. З Масквы гэта відно лепей.

Выдрукуйце – № 9-10, каб выканаць абавязак перад чытачамі, разашліце назад сёлетнюю падпіску – і годзе.

Сумна, але нічога ня зробіш. Дарэмна траціць час на хваляваньні, на сходы. Толькі абавязкова схадзеце ў ГПУ. Трэба высьсьніць пытаньне менавіта з ім.

Вітаю цябе. Цалую.

УЛАДЗІК.

Аднак ГПУ ня спала – і само «запрашала» ўзвышаўцаў на размовы. І сачыла. І ахвотна “вучыла”. Не пасьпелі Дубоўкавы лісты прыйсьці ў Менск, як ён сам атрымаў дзіўнаватую тэлеграму: «УЛАДЗЯ Л і К ЗА-БРАЛІ ТУДЫ ПРЫЯЗДЖАЙ РАТАВАЦЬ СТАНОВІШЧА АДАМ».

У той жа дзень Дубоўка сьпешна выбраўся ў Менск. Калі прыехаў, «Л» і «К» – Лужанін і Крапіва – былі ўжо на свабодзе.

– Нічога страшнага, пагаварылі ды адпусьцілі, – холадна адказаў на сяброўскія роспыты Крапіва. Больш шчодрым на каментары быў Лужанін.

– Ды праз дзевак усё... – тлумачыў зьбянтэжана, хоць і ўсьміхаўся. – У педтэхнікуме неяк я прачытаў Крапівоўскую эпіграму... Пра ўхілы. Памятаеце:

– У твае, браток, кабылы
заўважаюцца ухілы:
хвост направа служыць крыва,
а налева зьвісла грыва.

– Што ты, дзядзя, што ты, мілы,
то ж ня гора – благадаць:
каб ня гэтыя ухілы,
дык і цэнтру б не відаць!

А Надзька, мая колішняя сімпатыя, праз дурную рэўнасьць выставіла нас з Кандратам перад адпаведнай грамадскасьцю як прапагандыстаў контр-рэвалюцыйных паклёпніцкіх пашквіляў. Вось і пазвалі на высьвятленьне... А пасьля размоў выпусьцілі, даравалі...

На гэтым і разышліся. А калі Дубоўка і Бабарэка засталіся ўдвох, апошні падрахаваў:

– Не падабаюцца мне гэтыя “высьвятленьні”... Сёньня раніцай Бядуля адкрыўся, што й яго ў ГПУ выклікалі... Прапанавалі стаць сакрэтным агентам. Казаў, што адмовіўся...

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Быў ён выдатны майстар-мастак,
толькі ўзяў на сябе непасільны цяжар:
вызваліць хараство з-пад грубай абалонкі. І надарваўся...

*Уладзімер Дубоўка.*

1.

Пачынала сутонець. Агародам ён выйшаў да поля, босым – шэрхлаю разорай. Трапяткое едкае полымя ля рэчкі вымалёўвала ў паўзмроку казачны сілуэт-постаць старога млына. Цяплынь, парнасьць. Падаўся да вогнішча паслухаць памольшчыкаў: назьязджаліся з вакольных вёсак і, чакаючы сваёй чаргі, любілі

пачасаць языкі. У тых гаворках патрапляліся і цікавыя жыцьцёвыя гісторыі, і прыдуманыя доўгія паданьні…

Аднак, заўважыўшы яго, усе сьціхлі. Паглядзелі сумна, спачувальна. З чаго б гэта?

З поля вярталіся са жніва жанкі, сярод іх маці, чамусь у чорнай – у такую сьпёку! – хустцы… Стомлена, журботна сьпявалі:

А пара дамоў, пара-а-а…

Ужо ўзышла вячэрняя зара-а-а.

…Прачнуўся, расплюшчыў вочы: у вакно ўліваецца сонечны ліпеньскі дзень. Вызірнуў на вуліцу: каля ганку корпаецца ў кветніку жонка, паўтарагадовы сын Альгерд у сьмешным брыльку па-гаспадарску абходжвае панадворак, не дае спакою стомленаму матыльку-капусьніку. Толькі той сьцішыцца на лісьце трыпутніку ці травіне – Альгерд тупаціць да яго, намагаецца хапіць-дакрануцца…

Дубоўка мякка пацягнуўся, адганяючы рэшткі позьняга сну (меў звычку заседжвацца над кнігамі ці рукапісамі ледзь не да ранку, і жонка, песьцячы яго, не турбавала да самага апоўдня – адна гуляла з малым Альгердам і ўпраўлялася па небагатай гаспадарцы лецішча). Калі бацька выйшаў мыцца, Альгерд зашчабятаў штосьць неўразумелае і пацягнуў да яго рукі.

– Што, у неба просішся? – усьміхнуўся Дубоўка і, падхапіўшы сына, пашастаў, дурэючы, яму жывот, пасадзіў на плечы, крыкнуў «Но!» і пры-скорыў затравянелай разорай – да плоту і назад. Затым прысеў на ганку лецішча – звычайнай хаты, падобнай да іхняй агароднікаўскай (праз гэтае падабенства і заманулася на лета «наймаць» гэты куточак у падмаскоўнай Пярлоўцы, балазе блізка і да гораду).

– Нё! Нё! – стукаў ножкамі Альгерд, патрабуючы працягу язды…

На працу Дубоўка выбіраўся пасьля апоўдня. Паабедалі разам. Пакуль апрануўся ў свой новы белы касьцюм, сын прынёс сандалі.

– Дзякуй, сыне! Бачыш, маці, вось і я памочніка дачакаўся. – Усьміхнуўся, узварушыў сынаў чуб. – То давай парукаемся…

Сын, ужо навучаны, высока ўзьняў руку і з усяе сілы пляснуў сваёй далонькай па вялікай бацькавай далоні…

Доўгі ліпеньскі дзень зьмяніў адвячорак, а яго ўсё яшчэ не было. Ужо калі Пярлоўку ахінаў паўзмрок, прыехала яго маці.

– Марыйка, Уладзя ня тут? – спытала спалоханым шэптам і асела на ложак. – Відаць, яго арыштавалі. Учора на кватэру прыязджалі, і сёньня пад абед пыталіся…

…19 ліпеня 1930 году намесьнік старшыні АДПУ СССР Гірш Ягода падпісаў ордэр на ягоны арышт. У той жа дзень «варанок» прывёз да дому № 34 на Малой Грузінскай супрацоўніка аператыўнага аддзела Салаўёва з двума памагатымі. У кватэры № 13, дзе была прапісана ўся сям'я Дубоўкаў, паэта не было. «Аператыўнікі» правялі вобыск і зьехалі.

Назаўтра яны ж бяз стуку ўвайшлі ў яго рабочы кабінет, кальнулі злоснымі поглядамі.

– Дубовко Владимир Николаевич? – жалезна спытаў Салаўёў.

– Я… – адказаў спакойна, хоць адразу ж у грудзях варухнулася штось няпэўнае, страшнае. Ён, ужо некалькі гадоў працуючы ў Крамлі сакратаром прадстаўніцтва БССР пры ўрадзе СССР, звыкся і да гэтай формы, што выклікала ў большасьці гараджан спалох, і да розных нечаканак. Аднак халодныя вочы «гэпэушнікаў», гэты жалезны тон…

Прызнацца, ён чакаў іх – чакаў ад таго дня, калі перадрукоўваў на крамлёўскай машынцы тэкст свайго верша «На ўшанаваньне новага па-дзелу беларускае зямлі», чакаў, калі дачуўся пра арышты ў Менску Пушчы і Бабарэкі, чакаў з кожным тыднем больш балюча, востра. Бачыў сябе абложаным ваўком, пачуваўся ў аграмаднай пастцы – і ня бачыў выйсьця. Адно высільваўся не надламацца, не паказаць тое страшнае жонцы і маці.

І вось яно, тое…

– Вы арестованы! – абвясьціў Салаўёў і кіўнуў падначаленым.

2.

Камера «амерыканкі», або Валадаркі – менскай турмы ДПУ, куды яго прывезьлі праз два тыдні з Масквы, – амаль нічым не адрозьнівалася ад бутырскай адзіночкі: тыя ж шэрыя плясьнівыя сьцены два на тры метры па перыметры, закратаванае жалезам і павутой высокае – ледзь дастаць рукой – вакно, умураваны ў сьцяну жалезны ложак, іржавае вядро-параша. Стаяла невыносная сьпёка, часта рабілася млосна, і ён – усьведамляючы сябе выкінутай з вады рыбінай – намагаўся дыхаць глыбей, прыціскаўся спацелай сьпіной да прахалоднай сьцяны, хацеў назаўсёдна забыцца-ўрасьці ў яе, а калі й гэта не ратавала – лекаваўся ўспамінамі, але й яны навальваліся змрочныя, скрушныя. Згадаў адзін з апошніх лютаўскіх лістоў ад Бабарэкі, свайго першага сябра і на сёньня такога ж зэка. «Будзе яшчэ горш, – пісаў-прарочыў сябар. – Установка такая: забіць групу "Полымя" і наколькі магчыма зьнясільнічаць нашае "Ўзвышша". Бадай што й дасягнулі… Згінем усе…»

Бразнулі дзьверы камеры, і яго выклікалі на першы допыт. Хударлявы белагаловы ўпаўнаважаны, пыхкаючы папяросай, падаў Дубоўку прыкамечаны аркуш і затуплены аловак:

– Падпішы.

Дубоўка прабег вачыма па радках турэмнай пастановы: «1930 года ав-гус-та 2 дня. Я, уполномоченный ПП ОГПУ БВО <...> рассмотрев дело №13221 и принимая во внимание, что <...> гр-н Дубовко Владимир Николаевич в достаточной степени изобличается в том, что принадлежал к нелегальной а/с организации <...> постановляю: Дубовко В. Н. допросить в качестве обвиняемого по сему делу, предъявив обвинение в принадлежности к нелегальной организации <...> о чем объявить под расписку сем же и послать копию сего постановления для сведения прокурору.

Ст. уполномоченный Сикорский».

– Я ў аніякай нелегальнай арганізацыі ня быў – і падпісваць гэтую ахінею ня буду, – спакойна адказаў Дубоўка. Непадпісанымі вярнуў і прад'яўленую яму пастанову аб заключэньні пад варту і абвінаваўчае за-ключэньне.

Упаўнаважаны задуменна хмыкнуў, падпаліў новую папяросу, доўга зьдзіўлена аглядаў ягоны белы касьцюм – а затым націснуў на чырвоную кнопку пад сталом. Ціха ўвайшлі яшчэ двое службоўцаў...

У той дзень Дубоўку ўпершыню зьбілі – люта, па-жывёльнаму. Дужы малады арганізм доўга стрымліваў зьдзекі, аднак забыцьцё было таксама доўгім і немарасьцевым.

Апрытомнеў ён на каменнай падлозе ў сваёй камеры. Захацеў прыўзьняцца – з рота хлынула кроў, у вушах балюча загуло, і ён зноў праваліў-ся ў цёмны морак...

На некалькі дзён пра яго забылі: нават «вочка» ў дзьвярах ні разу ня шкрабнула. Калі адышоў боль, нахлынула новая пакута – смага. Губы распухлі, у роце пякло, жывот пераварочвалі спазмы, а затым у вушах пачало гудзець.

Паспрабаваў лізаць вільготную сьцяну – язык адмовіўся варушыцца. А на плясьніва-шэрхлым бетоне зьбіраліся халодныя кроплі – і здаваліся самым дарагім ласункам...

Яму зблажэла. Страта прытомнасьці млосна перарастала ў сон, мрою, трызьненьне... З Лідчыкавай хаты ён глядзіць у бінокль на манькаўскую дарогу, на калееўскае поле, на лес, а ўсё тое знаёмае раптам пачынае зьнікаць, зьмяняцца чужым, сполашным, а затым і зусім накрываецца белым туманам... І недзе зьверху – голас прадзеда Якуба: «Не хачу жыць... працаваць не магу...» І галавой – у ваду, у

сьцюдзёную вазёрную бездань... І словы з незнаёмым хрыпам: «Не подох там ещё?»

Гэта на ягоную галаву вядро вады лінуў хтось хрыпаты. І сілы – як у сна пазычаныя – вярнуліся.

– Я і вас яшчэ пераживу...

– О! И голосок прорезался! Давай на выход!

А ўстаў – каменныя сьцены, пачырванелыя ўраз, уваччу паплылі. Так і йшоў, за сьцены трымаючыся. Ледзь адолеў доўгія зашмальцаваныя прыступкі.

Той жа белагаловы «ўпаўнаважаны»:

– Не одумался ещё?

І на яго як штось найшло: выпрастаўся, зболенымі вачыма апёк...

Белагаловы расьціснуў папяросу – і зьніякавеў, перахапіўшы позірк падсьледнага. Наструніўся, уздрыгануў плячыма – і асеў.

– Увести арестованного! – загадаў і пацягнуўся да новай папяросы.

Што ўбачыў ён у скатаваных вачах? Усплёск хваль Доўжы? Цень звонкай мядзельскай дубровы? Глыбіню Чортавага вока – балота прыагародніцкага лесу? Глыбіню ўжо нечалавечую, адбітак чагосьці іншага, незалежнага, няскорнага? Адчуў, што гэты – ня зломіцца перад ім, у анічым ня скарыцца?..

...У камеру прынесьлі ежу: місу баланды і лусту хлеба. Еў скрозь сілу, адкашліваючыся крывёю і нейкай кіслай сьлізьзю. А затым зноў права-ліўся ў сон – на вогкай бетоннай падлозе.

Была ноч, калі пачуў рэзкі дзіцячы плач – пад сабой, зьнізу, – як з пекла. Сьціхне – і зноў, больш выразны і пякельны.

Прымроілася, падумаў. А праз дзень, калі пачалі выводзіць у дворык, стары наглядчык шэптам торапка распавёў, што на першым паверсе, пад ягонай «адзіночкай», адна жанчына, настаўніца, нарадзіла сына... Нара-дзіла... Тут...

А далей ён зблытаў выклікі наверх: раніцай, увечары, ноччу. Больш ноччу. Людзі ў форме мяняліся, амаль усе курылі. Паказвалі розныя паперы – даносы на яго.

Усьміхаліся і білі. Зноў усьміхаліся. Зламалі палец на правай руцэ. І зноў тыя паперы – з рыпучай шуфляды – на стол:

– Читай, с-сука!

І ён чытаў, чытаў і, каб ня боль ад пальца да локця, згодны б быў думаць, што зноў сьпіць і трызьніць немагчымае: былыя сябры-

знаёмцы запэўнівалі ледзь не аднымі і тымі ж словамі: ён вораг, нацдэм, якога трэба тэрмінова пакараць, асудзіць… год таму пры сустрэчы казаў тое і тое… А ў той паэме дапісаўся да такога… а чытаючы ў Менску перад студэнтамі вершы, дагаварыўся да… А в его стихах чувствуется злостное хихиканье классового врага, который высмеивает и советскую действительность, и культурное строительство… А яшчэ ж два гады таму гэты «падпісант» кляўся ў сяброўстве, геніем, выпіўшы, называў, прасіў паспрыяць сваёй публікацыі…

І зноў подпісы… Знаёмыя подпісы – і па «Маладняку», і па «Узвышшы». І… брат… Родны брат Язэп – у адзін голас з імі! Запэўнівае, што не паўторыць ягоных памылак, больш таго – сам пачне пісаць, каб сваімі народнымі творамі перакрыць-адчысьціць братаву контррэвалюцыйнасьць…

Вось тады перад ім зноў пайшлі ўкруга сьцены. У галаве пачаў хтось сьмяяцца, гаварыць штось разрывіста… І часткай сваёй незацемненай сьвядомасьці ён пачаў разумець, што – вар'яцее, і сілаў ня мае супраціўляцца, нават думаць ужо ня мае сілаў…

…І звар'яцеў бы, калі б ня гэты стук жалезных дзьвярэй – непадобны да ранейшага, – спакойны, стоены.

На падлогу ўпаў скрутак у палатнянай сумцы.

– Передача от жены.

Знаёмая сумка. У ёй – адзежа і кніга… Цёплая бялізна, швэдар, шкарпэткі, чаравікі. Томік Байрана ў цьвёрдай зялёнай вокладцы, адзін са збору твораў.

Расклаў, як не сваё, на кант жалезнага ложку (апускаць дазвалялі толькі ноччу), а ў галаве з кожным стукам сэрца: «…от жены… от жены… от жены…».

На другі дзень пасьля арышту Марыя пачала шукаць мужа па маскоўскіх турмах. «Такога няма», – быў аднолькавым адказ. Адзін стары, які некалькі разоў сядзеў «за рэвалюцыю» яшчэ пры цары, параіў ёй: «Не пытайся, ці ёсьць, а прасі перадачу пакінуць».

Так і рабіла. У Бутырцы адказалі: «Перадачы яму забароненыя». Значыць, тут.

Праз два дні прыйшла туды ж, і перадача – тая ж. Адказам агаломшылі: «Такога ў нас няма і не было ніколі». Ледзь не самлела, адразу ж пра горшае прымярэсьцілася…

Вечарам пайшла да Адамовіча, адрас знала яшчэ з таго часу, калі была з мужам, з мужам аднаго разу і гасьціла ў Адамовіча – колішняга старшыні Саўнаркому Беларусі.

Той адразу ж зразумеў, нават не даслухаў:

– Паспрабуйце пашукаць мужа ў Менску.

Назаўтра з прадуктамі і адзеньнем цягнікам падалася ў Беларусь. У сталічным ДПУ – тое ж: «Ён тут, але перадачы забароненыя».

І тады яна ўжо не змагла стрымаць сьлёз.

– Ідзіце, грамадзянка, раней трэба было плакаць…

У ЦК дастаялася да самога сакратара Васілевіча. Размова адбылася кароткая, нярвовая.

– Ці тут Дубоўка?

– Тут.

– Я ўжо ня веру словам. І ў Маскве казалі «тут», а назаўтра: «Няма і ніколі не было»…

– Што ж вы хочаце?

– Хачу калі не пабачыць яго, дык хоць што-небудзь ім перададзенае. Мне трэба атрымаць ад яго даверанасьці на грошы. Вось расьпіска і засьведчыць… А яшчэ трэ’… (Яна хацела высіліць слова «перадачу», аднак не змагла, – не прывыкла яшчэ да такой крымінальнай казёншчыны.) трэба рэчы яму перадаць, цёплую вопратку… Яго ж у летнім касьцюме забралі, у сандалях.

Гледзячы ў ледзяныя вочы Васілевіча, на яго твар, які, здалося, усё разумеў і ніводным мускулікам не запярэчыў, адчула: тое надоўга, калі ня супраць цёплага…

Штосьць зразумеў і сакратар ЦК:

– Ведаеце, бываюць жа меры ня толькі фізічнага ўзьдзеяньня…

І тады яе ўздрыганула:

– Ах, вось як! Значыць, тое – мера ўзьдзеяньня: адарваць ад сям’і, пакінуць сям’ю без кармільца, а таму – прызнацца ў тым, чаго не рабіў! – Яна добра ведала ўжо – і ад мужа, і ад знаёмых – пра тыя меры, і фізічныя, і ня толькі, ведала і многіх, каго жонкі і па сёньня шукаюць; хацела выгаварыцца, але замоўкла, – каму гаварыць? Яе бровы напяліся, вузкія вусны сьціснуліся, вось-вось зьявіцца здрадлівая сьлязіна, – а каштанавыя зрэнкі яшчэ зіхцяць упэўненасьцю, праўдай зіхцяць…

Сакратар уздыхнуў, зьняў тэлефонную трубку:

– Таварыша Рапапорта… Таварыш Рапапорт, тут прыехала жонка Дубоўкі. Трэба прыняць ад яе перадачу і выдаць даверанасьць… Так, усё…

«Значыць, усе пра ўсё ведаюць… Усё ведаюць. І – як так і належыць быць!..», – думала яна, калі з перадачай ішла да Валадаркі…

«...от жены... от жены... от жены...». Ён пагладзіў кнігу (да вопраткі пакуль не дакрануўся – пасьля праверкі турэмнікі паленаваліся яе нават скласьці: так, скамечаную, і запіхнулі), устаў, падышоў да закратаванага вакна.

Чамусьці падумалася, што з яго зможа ўбачыць Марыю, а можа – і сына... Што стаяць яны і шукаюць яго ў тых вокнах...

Але вакно высока. Не дабрацца...

Прамільгнула выказанае сьледчаму: «Я яшчэ вас перажыву». Яно так і павінна быць, – падумаў, – дзеля жонкі, сына, дзеля сябе... Павінна...

Разгарнуў Байрана, прачытаў запойна некалькі старонак – і як ачуняў, нібыта зноў у сілу ранейшую ўвабраўся! Чытаў «Шыльлёнскага вязьня» ў перакладзе Жукоўскага – і мацнеў, мацнеў злосьцю і мужнасьцю.

Бессмертный Дух свободного Ума,
Святая Вольность! В камерах зловонных
Твой свет не может погасить тюрьма,
Убить тебя в сердцах, тобой пленённых...

Взгляните на меня: я сед,
Но не от хилости и лет;
Не страх внезапный в ночь одну
До срока дал мне седину.
Я сгорблен, лоб наморщен мой,
Но не труды, не хлад, не зной –
Тюрьма разрушила меня.
Лишённый сладостного дня,
Дыша без воздуха, в цепях,
Я медленно дряхлел и чах...

Ён раней чытаў гэта, але чытаў – як разумеў цяпер – «звонку». Цяпер жа ўчытваўся не ў радкі, а ў тое, што было пад імі...

І нечакана з-пад гэтых радкоў, як з карэньня – пракаветнага, байранаўскага, – пачалі ўзыходзіць і прарастаць уваччу і ягоныя, ім перастворанья. І з кожнай рыфмай, з кожным вобразам ён аддаляўся, свабаднеў, забываўся...

Спрадвечны дух, аковам непадданы,
ты, воля, найяскраўшая ў вязьніцы!
У сэрцы там пасад твой і сьвятліца,

і сэрца – у цябе адну ўкахана...

Сьсівеў я ўвесь не праз гады,
ня ў ноч адну ўзяў сівізну,
як хто з раптоўнае жуды.
Ня з працы выгнула мяне –
ў бязьдзейнасьці ганебнай быў,
бязьдзейнасьцю сябе скрышыў.
Здабычай дадзены турме, –
пакуту цяжкую пранёс.
Я лёсам меў тых людцаў лёс,
якім зьняволены былі
акрасы неба і зямлі...

Запісваць нахлынутае не было на чым, не было і чым. Зноў задумаўся аб тым, як калісь, гадоў ужо з шэсьць, прачытаў гэтую паэму Байрана. Адгарнуў «Прыпісы», з тлумачэньняў даведаўся, што «Шыльлёнскі вязень» пісаўся ў Швейцарыі. Разам са сваім сябрам – ангiйскім паэтам Шэлі («Персі Бішы Шэлі... улюбёны паэт Жылкі...», – адарваўшыся, пачалося думацца не пра паэтычнае: «Сябра-гаротнік Уладзя Жылка... Дзе цяпер? Мо тут жа, у такой адзіночцы, мо нат за сьценкай... – і толькі праз вялікі высілак змог зноў вярнуцца да «Прыпісаў»...) ...са сваім сябрам – ангiйскім паэтам Шэлі – Байран 26 чэрвеня 1816 году агледзеў Шыльлёнскі замак на беразе Жэнеўскага возера... даведаўся пра вязьняў яго змрочных склепаў... У паэме Байран расказвае пра гістарычную асобу Франсуа Баніварды (1496–1570), які браў актыўны ўдзел у барацьбе жыхароў Жэневы супраць савойскага герцага Карла III... За гэта быў кінуты ў падземны каземат Шыльлёнскага замку, дзе, прывязаны да сырой сьцяны, пакутаваў каля сямі гадоў...»

Каля сямі гадоў...

Каля сямі...

Ён закрыў кнігу, а ў памяці абудзілася трапяткое: «Спрадвечны дух, аковам непадданы», – і слова ў слова з яго перакладу.

Аголеная, зморaная памяць стала яму найлепшай паперай – і ён зноў пачаў апантана перакладаць, нават спрачацца з Жукоўскім, – і за Байрана, і за такіх, як ён – беларускіх Баніварaў...

Кніжныя радкі казалі:

Была услада нам в одном:
Друг другу голос подавать...

<…>
Но скоро…
Наш голос страшно одичал,
Он хриплым отголоском стал…

А ім казалася:

Для нас зьняволены былі
акрасы неба і зямлі…
Ды вораг мову ўзяць ня мог,
яна лунала праз вастрог,
нясла уцеху, песьню, сказ,
надзеі кволіла для нас…

Інтуітыўна разумеў, што адыходзіць ня толькі ад рускага перакладу-падрадкоўніка, але і ад самога тэксту, – але не ад ісь-ці-ны…

У кнізе было:

Смерть человека… Я видал,
Как ратник в битве погибал;
Я видел, как пловец тонул
С доской, к которой он прильнул…

А ім казалася:

Я бачыў, як гібеў народ
у багне акіянскіх вод,
калі да хмар іх ускідаў
разьюшаны, імпэтны шквал…

Жукоўскі пераказваў пачатак XI часткі:

Вдруг новое в судьбе моей:
К душе тюремных сторожей
Как будто жалость путь нашла;
Дотоле их душа была
Бесчувственной желез моих;
И что разжалобило их?

Ён жа прамаўляў іншае:

Заўжды турмой была турма, –
у катаў літасьці няма…

і, адышоўшы ад тэксту, укладаў сваё, каваў сваё (так што XI разьдзел стаў на трыццаць радкоў большым):

Звыкаюць там да сьлёз яны,
іх кволяць звонам кайданы.
Ім гора цяжкае – на зьдзек,
ім там на кпіны чалавек.
У сэрцах іх – адна брыда,
у душах іх – адна жуда,
і ні сумленьня, ні надзей…
Гатовы ў гразь стаптаць людзей,
каб людскасьць вытруціць з усіх,
якая вытруцілася з іх.
І аглядаючы вастрог,
яны сумуюць, што ня змог
ён цэлы сьвет сюды ўвабраць,
бо сьвет гатовы апляваць,
перагварыць яго ў турму,
каб толькі кату аднаму,
на версе седзючы з ключом….

Бразнулі дзьверы.

– Заключённый, на выход!

Падымаўся наверх як сп’янелы. Туманна і неўразумела глядзеў на сьледчага.

«…вот и жена ваша просит утихомириться, признаться… Все признаются. Подпиши – и валяй к жене, сына расти…»

А ў ім загучала сваё: «…от жены… от жены… от жены…»

І сьледчы спыніўся. Зірнуў на гадзіньнік, «Есть просьбы?» – выціснуў.

– Ёсьць. Дайце аловак і паперу…

Сьледчы хмыкнуў, зьдзіўлена скасавурыўся, адсунуў скрыпучую шуфляду, выцягнуў аркушаў з дзесяць добрай белай паперы, паклаў на стол, затым адтуль жа дастаў аловак, разламаў яго і меншую частку кінуў на паперу.

– К душе тюремных сторожей как будто жалость путь нашла, – расьцяжна прамовіў Дубоўка.

Сьледчы зноў хмыкнуў, выклікаў дзяжурнага:

– Увести!

Атрымаўшы паперу і аловак, ён зноў паверыў у пачатае, паверыў у тое, што яно можа зьберагчыся – нават калі ягоную памяць выб'юць кулаком ці ботам.

У той раз ён убачыў больш, чым нават зьберагалася пад радкамі: убачыў і «палярны дзень», і «шаты сьнежныя», якіх не было ні ў Байрана, ні ў Жукоўскага, але якія былі ў яго. Перад ім… І –

…ні сына, бацькі, ні радні,
ні сябра ў горы тым – адзін…

На гэтым сілы пакінулі яго. Ён зноў абрынуўся ў змрочную бездань, прыкрыўшы галавой сьпісаны аркуш.

Адзін…

3.

Дні, тыдні, нават месяцы зьліваліся ў адно, аж пакуль яго з паўсотняй іншых вязьняў адной сакавіцкай ноччу не прывялі да вагону.

Калі вагон – значыць, ня ў лес…

Ах, як п'янілі маладыя подыхі вясны, чагосьці далёкага і недасяжнага – з закратаванай камеры. І гэтая поўня над капялюшыкам срэбнай хмурынкі…

Дзьверы закрыліся – і зноў цемра, зноў задуха.

Па тым, колькі і як ехалі, ён адчуваў, што – зноў Масква. Так яно і было.

Бутырка, перасыльны корпус.

На трэці дзень да яго ў камеру прывялі яшчэ аднаго зэка. Ён прачнуўся, мружыў вочы ад сьвятла вялікай лямпачкі і не даваў веры бачанаму: перад ім, з ім – Бабарэка! Такі ж, як і ён сам, – нyголены, нямыты.

Рэшту ночы было не да сну. Аказалася, Адам таксама адседзеў больш за паўгоду ў Валадарцы. Сьведчаньне таго – спаленыя, туманныя вочы, шэрыя кругі пад імі, выбітыя зубы й разьбіты падбародак, патрушчаныя фалангі пальцаў. Доўгія цёмна-сінія пасы на грудзях – сьляды гумовага шланга… Акурат паверх шнараў – паверх выпаленай зоркі…

Пра мінулае не гаварылі: былі ўпэўненымі, што іх падслухоўваюць. Фразы ці будзённыя, ці алегарычныя, толькі ім даступныя. Але Дубоўка ня вытрымаў:

– Вось, – дастаў з кішэні тры акуратна складзеныя аркушы, шчыльна сьпісаныя простым алоўкам, – Байрана ў Менску пераклаў…

Блізарука жмурачыся, Бабарэка нахіліўся да лямпачкі і стаіўся, чы-таючы. Затым апёк засьлёзенымі вачыма, абняў:

– Трэба і мне захаваць…

Не адкладваючы на ранак, так і прастаяў з паўгадзіны каля падваконьні-ка (балазе тут яны былі не такімі высокімі, як у Валадарцы), торапка перапісваючы Дубоўкавага «Вязьня».

Праз тыдзень Бабарэку этапіравалі, а яшчэ праз тры дні зачыталі пастанову калегіі АДПУ СССР і яму: за ўдзел у літаратурнай групе Саюзу вызваленьня Беларусі і кіраўніцтва ягоным Маскоўскім філіялам асудзіць на пяць гадоў і выслаць у Яранск.

Зноў ноччу іх – на вока больш за сотню – вывелі да турэмнай брамы.

– Внимание, колонна! По пути следования не растягиваться. Не разговаривать и не подавать никаких знаков. Не оглядываться назад и не смотреть по сторонам. Шаг вправо, шаг влево будет считаться попыткой к бегству… Без предупреждения будет применено оружие… Шаго-о-ом ма-арш!

І пайшлі – кружляючы глухімі завулкамі.

Пустая таварная станцыя, зноў поўня над галавой, толькі голая, па акружнасьці пачырванелая, як падпечаны яблык… І сабакі… Упершыню сабакі – у паўметры ад ног ляцкаюць засьлюненыя клыкі…

Подбежкам – да «сталыпінскага» вагону. Гохнулі дзьверы. А здалёк – зноў сабакі, зноў каманды: гоняць чарговую партыю ў суседні вагон…

«Сталыпінскі» вагон – турма на колах: калідор і «купэ»-клеткі. Ад калідору клеткі аддзелены кратамі. У кожным «купэ» – невялікае закратаванае акенца. Лаўкі – з двух бакоў, у тры паверхі. На вагон – восем «купэ», у кожным па шаснаццаць вязьняў: дзесяць зьнізу (па пяць на лаву), чатыры – на другім «паверсе», два – на трэцім. Рэчы – пад лавамі і на праходзе.

Цесна, не павярнуцца. Спаць – па чарзе, лазіць наверх.

Яшчэ раз праверылі, пералічылі – каб роўна па шаснаццаць, выдалі кожнаму па селядцу і кілаграму хлеба – «На двое сутак каб хапіла!».

І рушылі.

Эшалон пасоўваўся павольна. Днём стаяў на нейкіх зарослых «запасьніках», між таварнякамі, – далей ад людскіх вачэй.

Сьпёка, смурод. І пасьля селядца – страшэнна хочацца піць. А на сут-кі – тры кружкі вады. Наліваюць з нейкай даёнкі, так што палова кружкі застаецца на падлозе. І кожны дзень, калі стаялі – стук у сьцены, столь: дзяжурныя канваіры правяраюць, ці не праломленыя дошкі вагонаў…

Калі чарга лезьці наверх спаць дайшла да яго, цягнік стаяў на нейкім адзічэлым перагоне, у лагчыне паблізу асыпанага сонцам пералеску. Насупраць вакна – праз дзьве зіхоткія рэйкі – падобны эшалон, жаночы. Хтось прашаптаў, што з Харкава.

Ён зірнуў праз краты на волю: сонца, пералесак, а ў такім жа закратаваным вакне – маладая постаць: вішнёвая палінялая кофта, шэрая хусьціна, з-пад якой выпалі далікатныя каштанавыя кудзяркі, чорныя вочы пад паляшуцкім узьлётам броваў, сьпелыя вусны…

– На-а-аля!.. – ён з трэскам ірвануў краты, напалохаў суседзяў па «клетцы». Жанчына нават брывом не павяла. – На-а-аля… – ужо прашаптаў ён і асеў.

– Лезь, чалавеча, адпачні. Сон, кажуць, найлепшы лекар, – азваўся яго сусед, на выгляд – самы старэйшы з іх, колішні вясковы настаўнік з-пад Слуцка.

Дубоўка адмоўна хітнуў галавой і, як праваліўшыся ў сябе самога, сядзеў моўчкі, нерухома глядзеў на жанчыну ў шэрхлай рамцы вакна «сталыпін-скага» вагона, – толькі нервова ўздрыгвалі абачынкі на левым воку, толькі ў прыліве млосьці патанала-цяжэла сэрца. У ім – парогі Дняпра, харкаўская Наля. І маладнякоўка-Анастасія, названая ім Наляй. І яго кніжная «Наля». І яго Наля апошняя – пакутная Марыя.

«Дзе яна, як яна з сынам?..»

У Валагодскую турму, дзе была перасыльная зона, іх таксама прывялі ноччу.

Спалі на каменнай падлозе, пад галавой – у каго мех, у каго торба з цёплай вопраткай. А раніца пачалася з агляду.

Самае агіднае – прысяданьне голым пад мацюкі аховы.

Затым – сьпешнае «камплектаваньне» новага сібірскага этапу, які назвалі акадэмічным: сабіралі амаль адну інтэлігенцыю.

Бачыў некалькіх знаёмых па Менску: Цьвікевіча, Дылу, Кіпеля.

Ім Дубоўка і прачытаў складзены на этапе верш – «Песьня беларускіх выгнанцаў»:

Забраны ў няволю з Забранага Краю,
Узяты за краты з спустошаных хат…

Для нас пачалася часіна ліхая,
Мой родны, мой бедны пакрыўджаны брат.

Жыве наш народ як гарох пры дарозе,
Прасьвету ня бачыць у гэтым жыцьці:
Учора на працы, сягоньня ў вастрозе,
А заўтра за працу ў выгнаньне ісьці…
…

Няхай лепш сумуюць прадажныя душы,
Адплаты чакаюць за здраду сваю;
Няхай іх сумленьне, тых юдаў, падушыць,
Загоніць жывымі ў сырую зямлю.

Зьвярыная злосьць не заслоніць нам неба
І нашу зямельку усю не глыне.
Мы знаем – змагацца за волю нам трэба,
Мы знаем – змаганьне наш край не міне!

Ніколі й нідзе Беларусь не загіне,
Ніколі й нідзе Беларусь не памрэ.
Ні ў тундрах, ні ў клятай паўночнай краіне,
Ні ў дзікім прыгоне – маскальскім ярме!*
…

На шаснаццаткі зьняволеных падзялілі яшчэ ў турэмным двары. Этап доўга стаяў, чакаючы, пакуль не схаваецца за трохпавярховай камяніцай натомленае сонца.

Нечакана здалёк, як з пазаўчарашняга, – ціхі голас:

– Эй, масквіч! Вось дык стрэлка, жывы-будзем-не-памром…

Азірнуўся – у суседняй «партыі» ўсьміхаецца шчарбатым ротам даўгалыга. Галава як дыня, шнар на ўсю васпаватую шчаку.

– Не пазнаў? «Пінкертон» памятаеш? На Мікіцкай… Ты мяне тады півам задобрыў…

Даўгалыгі зладзеявата агледзеўся, як шашок, уціснуў галаву – і за два разы даценяваў да яго.

– Трамвай, трамвай… памятаеш? – шапнуў, стоячы побач.

– А! Леў з Віцебшчыны… – і маланкава ўзгадалася колішняя калатнеча ў маскоўскім трамваі, і гэтыя шчыра-зладзеяватыя вочы. – Ты чаго ня ў Сан-Францыску? – успомніў і выказаную ім колісь мару.

– У няволі Леў – сабака... – загадкава сплюнуў колішні знаёмец. – Ты, гэта, не губляйся, жывы-будзем-не-памром, як-ніяк, даўжнік я твой, а даўжкі трэба... – і дагаварыць яму не далі.

Размашысты ўдар прыкладам вінтоўкі зьбіў яго з ног. Дубоўка не пасьпеў падтрымаць – як такі ж удар запаліў сотні пякуча-мільгатлівых іскрынак і ў ягонай галаве. Аднак на нагах устояў, нават павярнуўся да канваіра, нават крок да яго зрабіў...

І тут падбег яшчэ адзін.

Накінуліся ўдвох.

Звалілі на зямлю.

Адзін біў прыкладам, другі нагамі.

...З гадзіну ён праляжаў у бяспамяцтве, і толькі калі калона рушыла да чыгункі, яго насьмеліліся падняць.

Кожны крок аддаваў пякельным болем, у вушах стаяў страшэнны гуд. Кроў склейвала засьмяглыя вусны, згусткамі засохла на колісь белым пінжаку...

...Зьвярыная злосьць не заслоніць нам неба
І нашу зямельку усю не глыне...

Ён намагаўся ісьці роўна, спакойна пазіраючы наперад этапнай калоны.

Якраз там, за блізкай чыгункай, сьпяшыла схавацца ад людскога вока жнівеньскае сонца.

4.

І зноў нетаропка пабеглі па далёкіх рэйках ягоныя дні. Напачатку стараўся лічыць іх, затым блытаў.

Намагаўся больш спаць – і лежачы, і седзячы. Сном лячыў і боль, і адчай.

У Кацельнічах – прывяцкім гарадку – было нечакана прыемна ступіць на зямлю, якая не гайдалася пад нагамі.

З цягніка вывелі ўсіх і – ужо не чакаючы начы, не хаваючыся – арыштантаў павялі калонай на ўсход, дзе – кіламетраў з тры ад Кацельніч – быў яшчэ адзін этапны пункт, на гэты раз – лагерны. З дзясятак новых стадолаў (на сасновых бярвёнах не падсохла яшчэ нават кара), абнесеных высокімі слупамі. У дзясятак радоў – калючы дрот. Такіх агароджаў – дзьве: адна большая ў радыусе. Паміж дротам – сабакі. Чатыры вышкі з вартавымі.

Суткі са стадолаў нікога не выпускалі. Ад баланды з кіслых буракоў пачаў балець страўнік. Голад зьбіў кавалачкам хлеба – горкім, як хінін.

Вечарам усё патанула ў цемрыве: электрычнасьць да лагера яшчэ не давялі. Агароджу асьвятлялі факелы.

Узьняўся вецер. Гуў у застрэшшы. Натыкаўся на факелы – і плойма зьнічак адлятала за «калючку». Некалькі сабак, гледзячы на іх, пачалі працяжна выць…

Зранку 18 чэрвеня канваіры расчынілі дзьверы і пачалі выкрыкваць прозьвішчы. Названыя стомна выходзілі на стаптаны лагерны пляц і зноў станавіліся ў калону. Сярод першых быў і Дубоўка.

На гэты раз – невялікі йржавы параход, ужо бяз клетак, бо і каютаў аніякіх не было. На адкрытай палубе – драўляныя лаўкі.

Старыя берагі Вяткі зелянелі кустоўем, сям-там – як шлагбаумы – ляжалі на вадзе падмытыя хвоі. Але праз некалькі хвілін лес адступіў, і параход з усіх бакоў пачало прадзімаць сіберным ветрам.

– Так і замерзнуць нядоўга, – Дубоўка сядзеў побач з земляком Міколам Мамчыцам. Пакратаў пасінелыя рукі – і палез у мех, дастаў кажух, зімовую шапку, надзеў і ўсьміхнуўся. Пад вокам – вялікае сіняе садно – яшчэ з Волагды…

– Што ты робіш? – Мамчыц зьніякавеў. – Людзі на сьмех узьнімуць… Лета ж…

Пацiху зноў працягнулі гаворку. З Мамчыцам, выкладчыкам гісторыі, Дубоўка некалькі разоў сустракаўся ў Менску. Пазнаёміў іх Бабарэка, які ведаў Мамчыца яшчэ па Слуцку. На этапе ж Дубоўка не пазнаў Мамчыца: схуднелы, вочы ўпалі, нос нечакана завастрыўся. Усё гэта, а таксама раньнія залысіны падстарылі хлопца на добры дзясятак гадоў.

Мамчыцу нельга было не давяраць, і яны ці не ўпершыню за год шэптам згадалі сваё: сяброў, знаёмых, колішнія радасьці, колішняе ўчора, якое з гэтых водаў Вяткі бачылася вельмі далёка. І далёка расьцерушылі арыштанцкія вятры іх грамаду…

І раптам Мамчыц перастаў стрымліваць дрыжыкі, схіліўся над сваім мехам – таксама выцягнуў кажух, рукавіцы.

– Што ты робіш? Людзі на сьмех узьнімуць, – штурхнуў яго плечуком Дубоўка.

– Маўчы, братка. Не да сьмеху – зуб на зуб не трапляе…

Гледзячы на іх, хутка і ўсе паўлазілі ў цёплае, прызапашанае на зіму.

– Во лета… – сагрэўшыся, буркнуў Мамчыц.

– Прывыкай. Наперадзе ў нас – яшчэ і зімы. Вось там паскачам… – Дубоўка спыніў гаворку, азірнуўся вакол, хітнуў галавой, выцягнуў са свайго «багажу» суконную коўдру, купленую жонкай у

Менску перад самым этапам, – працiснуўся памiж лавамi да маладой жанчыны (сядзела ў адным швэдары), перадаў ёй:

– Ахiнiцеся, калi ласка!

Тая ажно напалохалася, нiбы ад сну адарвалася:

– Дзякуй, ага... Шчыры дзякуй!

Параходзiк пачало моцна хiстаць. Над самай галавой – невядома скуль – навiсла шэрая хмара, iшла за iмi – не адстаючы.

Мамчыц доўга ўзiраўся ў яе, а затым загаварыў вершам, нiбы нясьпешна счытваючы радкi з хмаравага пергаменту:

Гаманiлi хмары –
неба спахмурнела.
Гэта мы залiчым, гэта –
мы успомнiм,
калi словы стануць
агнявою дзеяй.
А цяпер –
пакрышэце косьцi,
пакрышэце гэтым,
пакрышэце новым невядомым.
Трэ цярпець –
вецер помсту носiць,
вецер будзiць нетры...

Гэта былi радкi з Дубоўкавых мелодый «Плач навальнiцы». Iх цытавалi шмат – i пры iм, i па-за iм, аднак гэты агучаны сябрам урывак нiбыта працяў яго токам. Запякло сэрца. Зiрнуў – а на вачах Мамчыца сьлёзы... Калючы камяк здушыў горла, i каб самому не заплакаць, Дубоўка працягнуў:

Завязьлi на мукi,
завязьлi на рогат,
завязьлi на зьдзек чыноў вяльможных...

Павязалi рукi,
павязалi ногi,
павязалi цела, – дух зьвязаць ня можна...

З гадзiну маўчалi, разглядвалi берагi Вяткi, да якой усё блiжэй наступаў сiняваты лес, а затым Мамчыц папрасiў:

– Прычытай што-небудзь з новага... Цi ёсьць?

І Дубоўка спакойна, расьцяжна прадэкламаваў яму напісанае ў «клетцы» цягніка, правільней, запомненае там:

Здраднікам

Вы, што звыклі поўзаць ракам
і на задніх танчыць лапках
перад кожным небаракам,
што трымае з маслам «папку»,

вы, прасякнутыя брудам,
ад пяты да самай шыі,
звыклі біць тых, хто пад спудам,
ліць на бліжняга памыі, –

дзе ваш сорам чалавечы,
дзе павага да людзіны?
Як ад вас нам асьцярэгчы
гонар нашае краіны?

Месца ваша ў ніцалозьзі,
ганьба вам наканавана,
бо пры вашай дапамозе
Бацькаўшчына ўкрыжавана…

Зноў доўгае маўчаньне – і новы верш:

…Забыўся ты. Схіліўся на далоні…
Язда… шляхі – і водбліскі пагоні…
Забыўся ты – галубіш сьвет шырокі,
Ня чуеш варты няспынянай крокі…
Забыўся ты… Табе ўсё воля сьніцца…
Мой брат! Ці ж сьвет увесь – вязьніца?

5.

Параход давёз іх да Кукаркі. З прыстані ўсіх – чалавек з дваццаць – павялі ў Яранск. Ахова – чатыры вершнікі: два сьпераду, два – ззаду.

Ішлі «па-летняму», зноў пахаваўшы кажухі. На калону напаў гнюс – хмары вялікіх камароў, ад якіх цяжка было бараніцца: пакуль зграбаеш з левай шчакі, кусаюць правую.

У дворыку Яранскага НКВД іх яшчэ раз пастроілі, зачыталі доўгі сьпіс патрабаваньняў (першы месяц кожны мусіў праз двое сутак «адзначацца»). Затым кожнаму далі паперку (адрас будучай працы) і выпусьцілі за сьцены.

Мамчыца накіравалі ў будаўнічую брыгаду – за дзесяць кіламетраў ад Яранска. Дубоўку ж пакінулі ў самім горадзе – рахункаводам мясцовага райспажыўсаюзу.

Праз паўмесяца на першыя невялікія грошы ён зьняў непадалёк ад канторы пакойчык (дагэтуль спаў у калідоры райспажыўсаюзу– на лаве, якую днём займалі наведвальнікі).

У першы ж дзень паслаў жонцы ў Менск і Маскву (хто ведае, дзе яна) тэлеграмы: «Жывы, здаровы. Працую ў Яранску. Беражы сябе і сына». Затым – некалькі кароткіх лістоў. Кожны дзень хадзіў на пошту, але адказу не было.

Днямі сядзеў хмура за сваім столікам, падводзіў справаздачы па рахунках: збожжа, лён... Пад абед зьявіўся старшыня, спалоханы, мокры, чырвоны. Дубоўка пайшоў да яго падпісваць паперы – а ў тога рукі дрыжаць, папяросу падкурыць ня можа...

Зранку яго выклікалі ў НКВД і ледзь не пакінулі там. Малады капітан трос перад тварам наганам і абяцаў расстраляць за страту пралетарскай пільнасьці. А калі пачуў прычыну – ледзь паверыў.

Хтось напісаў данос, што старшыня райспажыўсаюзу Коцікаў Іван Якаўлевіч не клапоціцца пра... сакрэтнасьць дастаўкі грузаў.

За некалькі дзён у Яранску зьбіраліся прадукты, адкуль іх на фурманках – пад трыста-чатырыста, з усёй акругі – везьлі да чыгуначнай станцыі ў Кацельнічы.

А ў горадзе ўжо месяц няма каламазі, і ў Кацельнічах няма, і ў Кукарцы... Вось і пішчаць у свае чатыры галасы кожная з фурманак – усе сто сорак кіламетраў туды і столькі ж – назад (таксама з грузам: жалеза, шкло, мануфактура).

– А дзе ж я ім той каламазі дастану?! – ледзь ня ўзвыў старшыня. – Мы ж і так спрабавалі, і так... І дзёгцем, і маслам эмтээсаўскім. Анічога не дапамагае. – Ён плюнуў і нарэшце зацягнуўся густым папяросным дымам.

У Дубоўкі нечакана загарэліся вочы:

– А што, калі паспрабаваць па-іншаму?.. Можаце тэрмінова даць тэлеграму ў Маскву?

– Магу...

– Тэкст будзе такі... – Ён падсеў да старшынёвага стала і хуценька склаў тэлеграму: «Масква. Кніга – поштай. Тэрмінова вышліце кнігі (аб) каламазнай вытворчасьці (і аб) вырабе колавай мазі

(ў) індывідуальных гаспадарках. (З) камуністычным прывітаньнем старшыня Яранскага райспажыўсаюзу тав. Коцікаў».

«Тав. Коцікаў» пакруціў тэкст перад вачыма, двойчы прачытаў, паціснуў плячыма – як нейкае глупства ці дурны жарт, але ўсё ж тэлеграму пасьлаць загадаў.

І ўжо на трэція суткі ў Яранск прыйшла пасылка з шасьцю кнігамі! Капітальныя падручнікі з інструкцыямі, як наладзіць працу каламазнай вытворчасьці на прамысловых заводах. Дубоўку зацікавіла толькі адна з іх – «Как самому простейшим способом изготовить колёсную мазь». Ён умомант, здалося, прачытаў яе і адразу ж – да старшыні:

– Іван Якаўлевіч, дайце загад рабіць каламазь, – і пакуль той не пасьпеў агоўтацца, паклаў яму на стол кнігу.

– Якія матэрыялы патрэбны? – старшыня яшчэ выяўляў недавер.

– Па-першае – вада.

– Бяры цэлую Яранку!

– Па-другое, вапна.

– Поўны склад.

– А яшчэ – паўгудрон.

– Пазычым у МТС.

– Усё…

Праз гадзіну першы замес быў гатовы – цэлая жалезная бочка. Нікому не давяраючы, старшыня сам змазаў восі новай каламазьзю, запрог каня і выехаў з дворышча. Вярнуўся радасны, закрычаў здалёк:

– Браточкі, не пішчыць!

Назаўтра вечарам Коцікаў выклікаў Дубоўку да сябе. Паставіў пляшку гарэлкі, добры пачастунак.

– Ну што, Кулібін ты наш, нават ня ведаю, чым цябе і аддзячыць, – старшыня быў у найлепшым настроі. Яго якуцкі маршчыністы твар аказаўся шчодрым на ўсьмешку, якая прыемна маладзіла Коцікава. Маючы гадоў пад пяцьдзесят, ён так і не абзавёўся сям’ёй. Пра яго хадзіла слава вялікага жанчыналюба. Сам аднекуль з-пад Іркуцку, падчас рэвалюцыі камісарыў па ўсёй акрузе. Калі аднаго разу ледзь не сустрэўся са сьмерцю (куля толькі зьлёгку драпнула шчаку – і таму ў яго, каб прыхаваць шнар, сівая бародка), – аціх, адмовіўся ад абласной пасады.

Выпілі па вялікай шклянцы. Хрумкаючы засоленым агурком, Коцікаў яшчэ больш узбадзёрыўся:

– Значыць так, загадаю зараз напаліць лазенку! Дзяўчат на вячэру гукнём…

Дубоўка ўсьміхнуўся:

– Якаўлевіч, мне б сваю знайсьці… ня ведаю нават, дзе яна цяпер з сынам.

– А колькі сыну?

– Два з паловай.

– Пісьмы, тэлеграмы пасылаў?

– Так…

– Ага, – Коцікаў нахмурыў вузкі лоб, прыпаліў папяросіну, па-заліхвацку пусьціў доўгі – да самай столі – струмень дыму. – А адрасы сусе-дзяў… Не, лепш сяброў, знаёмых ёсьць?

– Адрасы ёсьць, сяброў не засталося… Арыштаваны… – Дубоўка сам наліў і выпіў, нат не закусіў. Вялікай даланёй узьняў чупрыну, пранікнёна зірнуў на Коцікава.

Той дапаліў цыгарэту, сам глынуў з паўшклянкі – і высьмеліў:

– Давай адрас, я заўтра дам ад свайго імя…

…І зноў – як чарніла з надломленага пяра – аплывалі ягоныя дні. Прыйшла восень. Перад зімой усё жывое сьпяшыла надарыць наваколье пладамі і хараством. Лес мяняў свой убор – на барвовы, залацісты, і ў суботні дзень ён ня змог выседзець у канторы, – выбраўся на агледзіны, а каб не зблудзіць, трымаўся берага Яранкі.

Сухадольнае рэчышча адваёўвала паляну за палянай, і мяжу сваю выстаўляла – рабінавую. Рабіна аж закіпала ў чырвоных ягадах. А пад ёй сьвяціліся і брусьніцы. Там-сям – грыбы, здаровыя, вялікія…

Вярнуўся перад самым адвячоркам. Здалёк заўважыў каля спажыўсаюзнай канторы фурманку. Каля павозьніка – жанчына з дзіцем. Яго сэрца пахаладзела, вось-вось выскачыць.

– Марыя! – выкрыкнуў, і жанчына азірнулася, прытуліла да сябе малога – і неяк спакойна, запаволена пайшла насустрач…

У панядзелак зраніцы Коцікаў выклікаў Дубоўку і чамусьці строга сказаў:

– Ты, гэта, сваю пісаніну заўтра даробіш. А цяпер ідзі да Лужоўскай, былая купчыха, на Цэнтральнай жыве. Здымеш у яе два пакойчыкі, кухняй агульна карыстацца будзеце. Калі што, скажы я загадаў. – І ўжо ледзь не па-панібрацку: – У цябе ж цяпер – сямейства…

Прыбраўшы два пакоі ў добрым драўляным доме, перад тым, як думаць пра вячэру, жонка з нейкім новым адценьнем у голасе падагульніла:

– Ну што ж, лічы – у санаторыі атайбаваліся. Бо ў Менску зараз – страх. Людзі на вуліцу выйсьці баяцца… З бібліятэк і школаў кнігі вывозяць… Кнігі Купалы, Коласа, Гарэцкага, Ластоўскага, Пушчы… Твае – таксама…

Пра правілы таго «санаторыя» ім нагадалі праз тыдзень. Неяк загадкава зірнуў «упаўнаважаны», калі – як заўсёды, да працы – Дубоўка прыйшоў «адзначацца». Спытаў:

– Пасьля – на службу?

– Так…

А вечарам, калі дастаў з-пад матраца папку і прысеў да лямпы, Дубоўка не знайшоў некалькіх пранумараваных старонак.

– Сёньня выходзіла з дому? – напалохаў ледзяным голасам жонку.

– Так, у краму… А што?

– Ды так… – унурыў галаву, рашуча ўзяў папку, з прыпека – запалкі, бразнуў дзьвярыма. Доўга камячыў і паліў на агародзе сьпісаныя алоўкам аркушы, – ужо сьцямнела, і нейкія сполашныя водсьветы падалі на яго скамянелы твар.

Вярнуўся спакойным.

– Што ты зрабіў? Навошта?.. – не магла зразумець жонка.

– Усё! Я рызыкаваў сабой, а вамі – не магу… Хай «дактары» нашы бяз працы будуць…

6.

Ссыльныя дні з сям'ёй пайшлі спакайней. Жонка знайшла працу ў школе, сына брала з сабой. Вечарамі сядзелі каля печкі, глядзелі ў агонь і марылі, каб хутчэй згарэла гэтая восеньская, а затым – зімняя нуда, каб бліжэй да пэўнасьці.

Ажывіў ужо нечаканы ліст ад Жылкі. Баючыся чужых вачэй, той напісаў агульнае: Дубоўкаву эпісталу галубы да яго данесьлі, рады з гэтага, падводзіць здароўе, кепскія сны наваліліся, мала кніг…

Да Уржума, дзе трымалі Жылку, ад Яранска – з паўтары сотні кіламетраў, аднак пакідаць свае месцы ссыльным забараняецца. Перакінулі некуды далей Мамчыца. Анічога не чуваць пра Бабарэку…

Як толькі растаў сьнег, Дубоўка папрасіў у гаспадыні невялікі надзел пад агарод.

– Навошта, – зьдзівілася Лужоўская і бліснула чорнымі зрэнкамі. – Вы ж можаце ўсё ў мяне купіць.

– Так, але ж хочацца сына нечым на лета заняць, каб у чужыя агароды не заглядваў.

– Добра. Бярыце вось тое месца, дзе стаяў сьвіран.

Гаспадынін бляск вачэй Дубоўка памятаў доўга: пакуль месяц выносіў з «надзела» каменьне, бітае шкло, іржавае жалезьзе, пакуль двойчы перакопваў зьбітую ў ток зямлю. Уставаў а пятай, каб пасьпець да службы. А яшчэ праз месяц разам з сынам і жонкай радаваліся дружным усходам, вясёлай і пахкай зеляніне, якой не шкадавалі вады – ні раніцай, ні вечарам.

І зямля адчула клопат: агуркоў нарасло, як хто насыпаў, і буракі, і гарбузы, і бульба. Нават памідоры дружна чырванелі.

Аднаго ранку, дачакаўшыся, калі Дубоўка пойдзе ў спажыўсаюз, гаспадыня перастрэла Марыю:

– Ведаеце, маю да вас просьбу… Нешта не расьце ў нас пакуль. Да-звольце ў вас пару агуркоў узяць на халаднік, – і нібыта прысаромеўшыся, перавязала хустку.

– На здароўе! Бярыце хоць дзесяць!

Насалілі, назапасілі гародніны на ўсю зіму. Малому Альгерду вельмі падабалася гарбузовая каша, асабліва калі яму нагадвалі, што гэты гарбуз ён сам вырасьціў, ды калі з малаком, калі з цукрам…

І зноў зімовае чаканьне, мяккі агонь у печы, мароз, які ападаў толькі апоўдні.

На Каляды нават паставілі і ўпрыгожылі ялінку. Жонка запрасіла ў госьці настаўніц са сваёй школы – аднак ніхто не прыйшоў.

– Мяне пабаяліся, – спрабаваў жартаваць Дубоўка. – Хто яго ведае, а раптам гэты ссыльны – людаед! Нічога, затое нам больш гасьцінцаў будзе.

Яны пасядзелі за сьвяточным сталом, а потым доўга забаўляліся з Альгердам на цёплай печы. Каб на ёй хапала месца ўсім тром, Дубоўка яшчэ з восені пашырыў яе чарэн палком з пахкіх габляваных дошак.

У лютым навалілася хвароба: спачатку на Альгерда, затым – на жонку.

Вясновае сонца ўбачыла іх схуднелымі, стомленымі. Балазе вясна сьпяшыла рана.

І зноў вясновыя клопаты, якімі забіваліся дні нявольнікаў. Гаспадыня не дазволіла ім сеяць на тым акультурненым надзельчыку.

– Ведаеце, у нас і так зямлі мала, ня родзіць… Хочаце, бярыце той, з-пад разбуранай стадолы, – і заблішчэлі яе чорныя зрэнкі.

І зноў тыдзень выносіў Дубоўка сьмецьце, зноў двойчы перакопваў, зноў багата паліваў – і прадчуваў штось няўмольнае, штось змрочнае. Асабліва пасьля таго, як да Коцікава ўжо другі раз заходзіў упаўнаважаны, задуменна высьвістваў незразумелую песеньку, паскрыпваў новай партупеяй…

Усё праясьніў Коцікаў. Вывеў на вуліцу, ня гледзячы ў вочы, моцна маршчынячы лоб, ціха паведаміў:

– Знаеш, Мікалаевіч, ёсьць рашэньне звольніць цябе, перавесьці ў ін-шае месца…

Дубоўка маўчаў. Тады Коцікаў працягнуў:

– Казаў жа табе: не шчыруй з гэтымі рахункамі… Ды яшчэ ў газету пісаў… Нічога не магу зрабіць…

І тады Дубоўка зразумеў: райцэнтр займаўся прыпіскамі, атрымліваючы «пустыя» грошы. «У газету пісаў…» Пра мінулыя махінацыі ён напісаў фельетон – у «Іркуцкую праўду», пад псеўданімам, зразумела. Прыяз-джалі з вобласьці, правяралі… Значыць, наступіў на мазоль, вось толькі каму канкрэтна з цэлай хеўры?

Пайшоў да «свайго» капітана. Той ажывіўся, рукамі пацёр, моўчкі штось доўга пісаў, затым як між іншым:

– Дык што, грамадзянін ссыльны, бачу, што табе пакараньне мёдам здаецца… Асвойтаўся? Ужо і ў райспажыўсаюзе ўсімі справамі заварочваць пачаў? Ды нічога, не такіх вучылі… – і зноў укінуўся ў пісаніну, чакаючы рэакцыі на сваё.

Аднак і тут Дубоўка маўчаў: за гэтыя тры гады ён зьведаў цану маўчаньню. І капітан адкінуў аловак:

– Значыць так, заўтра перабіраешся на жыхарства ў Міхайлаўскае! Калі і там што-небудзь – знай, Сібір вялікая…

– У якое Міхайлаўскае? – спакойна зьдзівіўся Дубоўка.

– Міхайлаўскае Яранскага раёну.

– Ведаеце, няёмкая аналогія атрымоўваецца: у Міхайлаўскае, праўда, пскоўскае, цар высылаў Пушкіна…

– Ну дык ты ж ня Пушкін! – і капітан, радасны ад сваёй шпількі, басавіта зарагатаў. – Вось папера, не пазьней як праз трое сутак адзначышся ў мясцовага міліцыянера. Калі ж што ня так, аб'яўляем у росшук – і новы тэрмін табе гарантаваны.

Дубоўка наструніўся.

– Што глядзіш, як шашок? Матай, пушкін хрэнаў!

– А ўсё ж добра… – выдыхнуў Дубоўка і павольна накіраваўся да дзьвярэй.

– Што добра? – зьдзіўлена адарваўся ад стала энкавэдзіст.

– Добра, што і ты, капітан, не Кутузаў.

Па калідоры ўсьлед ажно да самага ганку несьліся капітанскія мацюкі…

Даводзілася разьвітвацца з Яранскам, з ягоным агародам. З жонкай дамовіліся: яна з сынам пераедуць пазьней, калі будзе штокольвек вядома з кватэрай.

Зранку, як толькі сабраўся выходзіць, – пасыльны з НКВД: загад перабірацца не ў Міхайлаўскае, а ў Шэшургу, да ўчастковага ж адзначацца ў Міхайлаўскім…

Шэшурга – звычайная глухая вёска з высокімі драўлянымі хатамі і касымі вулкамі. Калі і адрозьнівалася ад іншых, дык тым, што мела няпоўную сярэднюю школу, за якой, пакрываючы аксамітам гонтавы дах, доўгімі вечарамі прыгожа садзілася сонца.

Першы час яны жылі ў хаце ўдаўца-вяскоўца. Назапашвалі на зіму правіянт, на апошнія грошы купілі мукі, бульбы. Хлеб давялося пячы самім: крамнага не было. Гаспадар дазволіў ламаць на агародзе буракова бацьвіньне, з якога варылі боршч, падкісьліўшы яго сыроваткай. Праўда, аднаго разу, калі жонка латашыла буракі, Дубоўка чуў, як жахнулася на тое суседка: «А Божа ж мой, траву ядзяць!..»

Да пачатку восені рамантавалі школу, дзе жонцы далі месца настаўніцы матэматыкі і дзе абяцалі пакойчык яе сям'і. Тую «кватэру» Дубоўка дарабляў сам: паставіў сьценку, падмазаў грубку, зьбіў два драўляныя ложкі, стол…

Пачалася школа. Жонка на працы. І сын з ёй на ўрокі просіцца.

Ён жа – ня ведаў, куды сябе дзець. Стаў ужо чакаць дня, калі трэба ісьці ў Міхайлаўскае да ўчастковага – сем кіламетраў праз лес у адзін бок, сем – назад.

Было надзіва цёпла. Сонца стаяла высока над Міхайлаўскім, люстравалася ў шыбах дагледжаных хат, кунежыла пажаўцелае лісьце.

Насустрач яму па падсохлай дарозе нясе ваду стрункая жанчына – у доўгай спадніцы, вязанай прыталенай кофце. Заліхвацкія сонечныя зайчыкі скачуць у вёдрах, іскрацца ў вачах.

Разьмінуліся, і ўжо сьпіною ён адчуў, што жанчына стала. Яе чарнявы прывабны твар падаўся знаёмым. Азірнуўся – у адказ усьмешка.

– Што, не пазнаў, матросік?!

Хвіля неўразуменьня, пасьля чаго жанчына ставіць вёдры, грацыёзна выпростваецца і дадае:

– А каб не твая суконная коўдра, я б, пэўна, заледзянела на тым параходзіку…

Так-так, іржавы параходзік, сьцюдзёная Вятка. Ён у кажуху і валёнках…

– Дык можа, выратоўца, і ваду дапаможаш данесьці? – голас мяккі, бадзёры.

Дубоўка і не заўважыў, як увайшоў у абгароджаны высокім штыкетам двор, затым у хату.

– Вось як жыцьцё закручана, – весялей зашчабятала жанчына. – Усе мы кругамі, знаць, ходзім. – І пачала зносіць на стол пачастунак: хлеб, агуркі, сала. Зьнікла на секунду за шырмай – і зьявілася ўжо акуратна прычасанай, з загорнутай у газету бутэлькай:

– Мы ж так і не пазнаёміліся. Мяне Натальляй завуць… Натальля Лебедзева, – падсунула да яго талеркі, спрытна наліла ў чаркі пахкай самагонкі. – Давайце за сустрэчу…

Выпіўшы, Натальля загаварыла яшчэ весялей: і пра тое, што з суму ня ве-дае, куды падзецца, і пра гаспадароў, якія зьнікаюць з хаты да самага вечару.

– Ты мне яшчэ там, на цеплаходзе, прыглянуўся, – горача зашаптала пасьля другой чаркі. – А тут гляджу – і вачам ня веру…

Хмель апаноўваў імгненна. Ацяжэлі ногі. Паспакайнела, пацяплела на душы. Хацеў распытаць у Натальлі, адкуль яна і за што сюды трапіла – а тая падміргнула зухавата і, сьмеючыся, прыкрыла яму далоньню рот, адышла і прысела на ложак, разгладзіла сукенку – і пальцам яго да сябе паклікала. І кофту расшпільваць пачала. А пад ёй – ні сарочкі, ні станіка.

– Ну што асалавеў? Дзьверы я зачыніла… – зноў падышла да стала, прысела яму на калені, абняла за шыю, нацялася, як струна. Грудкі цьвёрдыя, па радзімцы на кожнай…

Ад нечаканасьці ў яго загуло ў скронях, юрлівы жар асыпаў цела. А яна ўжо цалавала яго – у шчокі, у шыю.

– Слухай, – далікатна прыпыніў ён, – давай яшчэ па кроплі вып’ем… – і ўжо сам наліў: ёй цэлую, сабе – палову.

– Каб менш быць адным, – яна высока ўзьняла чарку, прытуліла да вуснаў і хутка пачала піць. Аднак, па ўсім відно, рабіць гэтага ня ўмела: адчайна моршчылася, уздрыгвала ўсім целам. Тонкі струменьчык зьбег па яе ўзьнятым падбародку, па маладой шыі – у лагчынку паміж грудкамі. І ніжэй, пад нерасшпілены гузік.

Жанчына нечакана хітнулася, і Дубоўка падхапіў яе на рукі, паклаў на ложак, ахінуў краем вылінялай грубаватай коўдры, каб прыкрыць галізну.

– Прабач, жанаты я… – сказаў упэўнена, а ўжо ад дзьвярэй, адкідваючы зашчапку, дадаў: – Дзякуй вялікі…

…Напрыканцы кастрычніка па дарозе (гразі бездарожжа) з Міхайлаўскага яго дагнаў верхавы на прыгожым шэрым у яблыкі кані. Спыніўся, разгледзеў з галавы да ног – і далей пагізаваў – у Шэшургу, толькі гразь запырскала на конскі зад і ягоны вайсковы брызентавы плашч.

А дома жонка ў дрыготкіх руках паднесла абмазаны сургучом канверт: «Верхавы прывёз...» Тэксту – некалькі падсьлепаватых машынапісных радкоў: «...неадкладна зьявіцца ў Яранск у НКВД з рэчамі...».

Яна зноў моцна захварэла. Балела галава, страшна апухлі вушы. З тыдзень магла толькі сядзець у ложку. Дапамагалі настаўніцы, зрэдку прыносілі Альгерду што-кольвек з ежы, а то і бралі яго на дзень да сябе.

Адзінае адхланьне – сон, з якога яна выходзіла цяжка, стомна, ужо і засынала з боязьзю – а раптам не прачнецца... Урэшце фельчар даў нейкай вадкасьці з бромам, і хвароба адступіла.

Пачала хадзіць на працу ў школу – схуднелая, твар пакрылі чырвоныя плямы, ацяклі ногі. Са страхам глядзела на сына, таксама зморанага, слабога ад недаяданьня.

Ужо закончылася восень, калі ад мужа прыйшоў ліст: я ў Чабаксарах, працую і чакаю цябе з сынам.

Прызнацца, ужо і не спадзявалася... Сьпехам сабралася, балазе пачалі-ся зімнія канікулы. Нанялі двух коней, сані. Добрыя людзі змайстравалі на іх кібітку, каб ня так даймалі вецер і сьнег.

Першы дзень дарогі Альгерд адолеў мужна. Схаваны ў падушкі і коўд-ры, доўга спаў. З ежай быў вялікі клопат: усё замерзла (гэта назаўтра маці здагадаецца класьці што-небудзь да цела – булачку, піражок, бульбіну, і іх можна будзе жаваць).

Начаваць прасіліся ў прыдарожных вёсках. Амаль усюды не было газы, і іхні запасьлівы фурман браў з сабой сваю – купленую яшчэ ў сельпо ў Шэшурзе. На лямпавае сьвятло ў хату зьбіраліся суседзі – доўга гаварылі пра жыцьцё, курылі самасад. А яна сядзела на лаве каля жалезнай печкі, здымала з сына, які зморана спаў, прусакоў і плакала.

Зранку – зноў дарога, зноў засьнежаныя сьцены непралазнага лесу і пякучы мароз.

Праз чацьвёра сутак сям'я зноў была разам – у невялікім пакойчыку на паўночным ускрайку Чабаксараў. Той пакойчык даводзілася даграваць вугольлем, якое выбіралі з печкі гаспадары. Ад

чаду балелі галовы. Жалезную ж «буржуйку» паставіць у пакоі не дазвалялі.

Канец зімы быў вельмі цяжкім. Зарабляў Дубоўка ў Чувашсаюзе, дзе працаваў тэхнічным сакратаром юрыдычнага аддзелу, мала. Грошай ледзь хапала на аплату пакойчыка і такія-сякія прадукты. Уладкавацца на якую-небудзь службу жонцы не ўдавалася.

І пакуль нікога са знаёмых, нікога з сяброў…

Здаралася, і на стол не было чаго ставіць – як у той перадкалядны вечар 1934-га. Дубоўка прыйшоў з працы позна, скінуў аблавушку, павесіў на дзьверы цёрты кажух, прыгладзіў заінелую бараду, а жонка сьцішана гаворыць:

– Чым жа вячэраць будзем? Засталіся толькі тры бульбіны, больш нічога…

– Як нічога, яшчэ ж цыбуліна ёсьць! – пацягнуў яе за фартух сын. Выгляд сур'ёзны, а ў блакітных – бацькавых – вачах – і туга не па ўзросьце вялікая, і ўадначас – радасьць.

– Ого! Беларусы кажуць, што гора тады, калі ні цыбулькі, ні крышыць у што… А ў нас зараз будуць з усяго гэтага не адна, а дзьве стравы! – Дубоўка няёмка ўсьміхнуўся, абняў жонку з сынам, пасадзіў іх на ложак і сам у змроку (лямпа гарэла слаба) пачаў гатаваць вячэру. Зварыў бульбу, адцадзіў, у адвар накрышыў цыбулю – першая страва, кожнаму па бульбіне – другая.

– Яшчэ і трэцяе ёсьць – рот прапаласкаць, – дзелавіта і сур'ёзна падагульніў сын, аблізваючы пальцы, а потым спытаў: – А чаму, тата, мы так жывём? Вунь у нашай суседкі – усё ёсьць…

Гэта было першае пытаньне, адказаць на якое Дубоўка ня змог…

Вясной Чувашсаюз даў ім пакой у доўгім доме на ўскрайку гораду – з печчу, са складам-хлеўчыкам побач. Адна нязручнасьць – па ваду даво-дзілася хадзіць далёка, пад гару, якая з поўдня прыкрывала Чабаксары. Нашмат далей – і праца, аднак настрой ва ўсіх быў прыўзьняты: 20 ліпеня заканчваўся пяцігадовы тэрмін, а да ўсяго – у Чабаксары з Кацельніч перавялі двух беларусаў – Паўла Каравайчыка і Ігната Савіча, і горад, здалося, пабольшаў, павесялеў.

Абодвух Дубоўка ведаў яшчэ па тым, маладым жыцьці. Каравайчык працаваў у «Савецкай Беларусі», пісаў адраджэнцкія вершы. Савіч – таксама журналіст, з «Беларускай вёскі».

Першыя тыдні яны сустракаліся кожны вечар, часьцей у Каравайчыка, які меў большы пакой. Гулялі ў карты, думалі пра будучае. І аніяк не маглі нагаварыцца па-беларуску. Савічу не

ўдавалася знайсьці працу, а тут зусім нечакана з лёгкай рукі Дубоўкі стаў у Чувашсаюзе электрыкам.

Здавалася, чорнае і страшнае адыходзіла ад іх. Усе чакалі лета, і яно, хоць і павольна, нерашуча, сыходзіла з Прыволжскага ўзвышша і залівала сьвятлом Чувашыю, а з ёй – і прытоеныя Чабаксары…

7.

Двухпавярховы будынак Чабаксарскага НКВД, пакой насупраць прыступак зьнізу. Пах фарбы. Ранішняя прахалода. Заспаны твар лейтэнанта над папкай з асабовай справай.

Старлей доўга лянотна перагортвае мяккія старонкі, затым з шуфляды вялікага дубовага стала, нядаўна пафарбаванага, як і падлога, у карычневы колер, дастае яшчэ адну папку – новую. У ёй толькі некалькі старонак.

– Адносна вашага тэрміну, грамадзянін Дубоўка, пакуль яшчэ ня маем аніякіх распараджэньняў, – старлей далікатна зірнуў паверх шкляных кольцаў акуляраў, уздыхнуў, пабарабаніў доўгімі пальцамі па стале, устаў: – А раптам нічога ня чулі пра напад на акруговага касіра?..

– Не. – Такога пытаньня Дубоўка не чакаў. – Чуў, што і ўсе пагаворваюць… Абрабавалі машыну, забралі грошы. – І адразу ж адчуў штось нядобрае.

– Шафёр пазнаў аднаго з беглых, ён ужо з тыдзень у росшуку. А нам вядома, што вы з ім адным этапам да нас дабіраліся. Што-небудзь ведаеце пра Льва Бароўскага? – старлей пільна ўгледзеўся ў вочы, а пасьля паўзы паклаў на стол фотаздымак.

У Дубоўкі мацней затахкала сэрца: перад ім – выява Льва, тога самага, «жывы-будзем-не-памром», стрыжанага, няголенага.

– Ну што? – старлей забраў фотаздымак, зноў сеў за стол, па-заліхвацку закінуўшы нагу на нагу.

– Твар знаёмы… І праўда разам этап адбывалі.

– А тут, у Чабаксарах, ня бачыліся? – старлей скрыпнуў стулам і нагнуўся бліжэй.

– Не…

– Што ж, не – дык не, – старлей штосьці марудна напісаў у пратаколе, падсунуў Дубоўку. – Расьпішыся.

Затым схаваў абедзьве папкі ў сейф, наліў з графіна вады, са смагай выпіў і падагульніў:

– Пакуль можаш ісьці, праз тыдзень будзе вядома, што з табой…

Жонка вечарам спрабавала разьвесяліць: «Ну нічога, пяць гадоў чакалі, перачакаем і тыдзень. Канешне ж, пакуль тыя паперы сюды прыйдуць... Ды не на аднаго ж цябе. Вунь і Савічу ж нічога не паведамілі. І Каравайчыку...» А сама ўжо дамывала сямейны «гардэроб». Хай, казала, у дарогу будзе ўсё чыстае.

На апалосканьне не хапала вады, і Дубоўка з двума вёдрамі накіраваўся да дзьвярэй.

– Можа, хай раніцай? Цёмна ўжо, – занепакоілася жонка.

– Ды не, не зіма ж...

Вада – акультурненая крынічка – была каля самай гары. Небясьпечна было хадзіць па ваду зімой, калі сьцежка пакрывалася лёдам. А цяпер ноч была сьветлай. Зоркі абсыпалі неба і бадзёра трымцелі пад нястомнае чыканьне чувашскіх цыкадаў.

Ён ужо набраў цалюткія вёдры і на хвілю сьцішыўся, каб паслухаць ліпеньскі змрок, шапаценьне крыніцы, якая, стаміўшыся ад доўгага блуканьня, заціхала ў густым лапушыньні, разьлівалася ў невялічкі ўзбалотак, дзе нясьмела пакрэхвалі некалькі жаб, – сьцішыўся, каб задумацца пра вольнае, як за сьпіной, з-за алешніку, пачуў хрыплае:

– Эй, землячок, ты гэта?

Азірнуўся, угледзеўся ў кустоўе. Ад алешыны адарваўся сілуэт, ціха наблізіўся да крыніцы.

– А я цябе ўжо некалькі разоў бачыў... – той жа голас, знаёмы, і твар, і ўся постаць. –А цяпер вось і стрэліся, жывы-будзем...

– А мне казалі, што ты ў бягах...

– Можа быць, – Леў прыпаў да вядра і доўга піў, затым даланёй абцёр вусны, крэкнуў і агаломшыў: – Заўтра іду за Урал, там паспрабую загубіц-ца. Грошай на два жыцьці хопіць... Хочаш са мной?

– Ды дзякуй... У мяне ж тэрмін закончыўся. – Дубоўка ўважліва агле-дзеўся, паківаў галавой: – Ты, Робін-Гуд, хоць ведаеш, што цябе ўся Чувашыя шукае?

– Нам, татарам, да балды! Ты, гэта... Можа б з хлебам расстараўся?

Дубоўка зьлёгку піхнуў яго ў плячук, уздыхнуў:

– Схавайся, сарві-галава! Хлеб і да хлеба прынясу, каля алешыны пакіну. Ну а жывымі будзем – пабачымся...

А праз тыдзень Дубоўка прыйшоў дадому яшчэ да абеду, сеў каля дзьвярэй на падлогу, моцна абхапіў рукамі калені, – твар зьбялелы, вочы нерухомыя, нібы застылі на ходніку.

У хаце адразу ж зразумелі: штось нядобрае. З гадзіну ён як скамянеў, ня чуў жончыных пытаньняў, не варушыўся нават. Затым устаў, прыціснуў да сябе сына, узварушыў яго мяккую, з далікатнай кучаравінкай, чупрынку, пасадзіў на калена.

– Што? – жонка прысела да яго і, здавалася, ужо ўсё зразумела.

– Тэрмін падоўжылі... На два гады, – толькі і змог выціснуць Дубоўка.

У той дзень яго ўпершыню не дачакаліся на працы...

А напрыканцы лета – новая нечаканка: вырашылі рамантаваць іхні дом, і ўсе сем'і мусілі перабрацца ў доўгія хлеўчукі побач. Восень (некалькі гадзін да працы і ўвесь вечар) ён дапамагаў будаўнікам даводзіць да ладу сваю «кватэру», каб не сустрэць зіму ў хлеўчуку. Здымаць новы пакой не хапіла б грошай.

8.

Сонца... Мяккае сонца над галавой. Там і жаўранак, і лёгкая хмарка. І возера блакіту. А наперадзе – агародніцкія хаты. Леваруч усьміхаецца Доўжа, і сьцежка, па якой ідуць ён з жонкай і сынам, вось-вось пачне свой апошні паварот да возера.

Луг чамусь няскошаны, шмат зельля нарасло ў траве, асабліва ў лагчыне, адкуль паказваецца-вырастае трактар з прычэпленым вагонам.

Трактар стары, увесь у іржы і гразі, але металёвыя колы-шасьцяронкі коцяцца спраўна: вось перарэзалі ўжо сьцежку і прысьпешылі насустрач.

Каб не патрапіць пад гэтыя шалёныя колы, яны збочылі і пайшлі да вёскі напрасткі, аднак трактар з вагонам адразу ж зноў крутнуў да іх. Руляваў чалавек, добра знаёмы па газетных фотаздымках: грузінскія ўзьлётныя бровы, доўгі масіўны нос, васпаватыя шчокі...

Сталін – надзіва рухавы – скочыў на зямлю, пастукаў кулаком па дошках вагону, а ў адказ – у сто галасоў крык.

– Ну тихо, тихо... – буркнуў Сталін і пальцам пазваў Дубоўку. – Давай и тэбя покатаю...

І тут як хтосьці нябачны падпіхнуў яго ў страшны вагон. Сіліўся праціснуцца да закратаванага вакна, расьпіхваў сьлізкія голыя целы, аднак іх усё большала і большала. І тады ён выбіў у сьцяне некалькі дошак, высунуў галаву – а мясьціны вакол ужо незнаёмыя, чужыя. Сонца сьпераду садзіцца-заходзіць, акурат нібыта ў трактарную трубу – пачарнелае ад маторнай копаці. І за рулём ужо ня Сталіна постаць, а кагосьці незнаёмага – рослага і дужага. Прамасьленая ватоўка на плячах ледзь сходзіцца, калені над рулём узвышаюцца. І галава

вялікая, з нестарэчай яшчэ лы-сінай. Ад ветру ацалелыя валасы ў німб узьнімаюцца – доўгі каўтун над левым вухам. Ям большае, німб-каўтун на каўнер ападае, і яго кіроўца аграмаднай пяцярнёю зноў на лысіну зачэсвае.

Дубоўка спрабуе далей дошкі рассунуць, хоча крыкнуць, аднак не хапае паветра, вагонная сьцяна варушыцца і заціскае яго.

– Пачакайця, пачакайця... – сіпата ўскрыквае кіроўца і раз-пораз азіраецца: цыганаватыя бровы, чорныя, як смоль, вочы, багатыя вусы пад мякіністым носам, здаровыя, як часночыны, зубы.

І раптам вагон перастае кідаць – колы пакаціліся па асфальце. А наперадзе – шэры будынак менскай турмы-«амерыканкі», толькі чамусь замест круглых вежаў – крамлёўскія, кантавыя, з Чырвонай плошчы. А паміж імі – вялікая жалезная брама, перад якой кіроўца ліха тармазнуў, сьпешка скочыў з трактара, абабіў аб кола гразь з падэшваў вялікіх ботаў і пастукаў кулаком у браму.

Аніхто не адазваўся. Тады ён пачаў стукаць нагой:

– Адкрывайця, маць вашу!..

Стук моцны, нервовы, ажно рэха ідзе.

...– Открывайте!..

Жонка сполашна ўсхапілася першай, адчыняла дзьверы марудзячы – і разьятраны энкавэдзіст ледзь ня зьбіў яе з ног.

У пакой увайшлі трое. Пакуль адзін стаяў каля вакна і дакурваў цыгарэту, таварышы паскідвалі на падлогу матрацы, павыварочвалі шуфляды. Зьнялі з падушкі навалку і ў яе пачалі піхаць кнігі і ўсё, што знайшлі рукапіснага.

Ён, ужо апрануты, сядзеў на табурэце каля сьцяны і стоена пазіраў на жонку і сына.

– На выход! – энкавэдзіст каля вакна плюнуў на акурак і выйшаў першым.

З мяшэчкам сухароў у адной руцэ і скруткам бялізны ў другой Дубоўка пасьпеў нязграбна абняць спалоханага сына, затым сунуў бялізну падпаху і пагладзіў малога па галаве, пацалаваў і прашаптаў на вуха:

– Я ні ў чым не вінаваты, ведай. І беражы мамку...

З жонкай разьвітаўся ўжо на вуліцы. Яго прысьпешвалі – а не хапала сілы пайсьці.

– Калі што, едзь да маіх у Маскву... – набраў у грудзі паветра і рашуча рушыў за энкавэдзістам.

Толькі тады жонка дала волю сьлязам, спачатку ціхім, а калі яго сьпіна разам з канваірскімі па баках схавалася ў перадранішнім змроку, павалілася на зямлю і зарыдала на ўсю сваю жаночую моц...

На другі дзень пасьля арышту мужа яе звольнілі з працы (была школьным бібліятэкарам) і загадалі вызваліць пакой. Яна са спалоханым сынам мусіла зноў перабрацца ў суседні хляўчук.

Заканчваўся жнівень, ночы сталі вельмі халоднымі. Малы захварэў, тэмпературыў і трызьніў у сьне, а яе – жонку «ворага» – аніхто не зга-джаўся ўзяць на кватэру.

У доўгія верасьнёвыя ночы ёй станавілася страшна. Страшна жыць, страшна глядзець на сьвет. Яна завязвала – як магла – на вяроўку дзьверы хлеўчука, садзілася над сынам і ў сьвятле дымнага самаробнага каганчыка расказвала доўгія казкі, – аж пакуль не зьнемагалася і не засынала сама: на земляной падлозе, паклаўшы галаву на сынаў ложак...

Некалькі месяцаў вялося сьледства. І кожны дзень яна хадзіла ў камендатуру НКВД, выстойвала чаргу да пракурора і пытала адно і тое ж: «За што арыштаваны мой муж?» Напачатку пракурор казаў, што яшчэ вядзецца сьледства і што дарма не арыштоўваюць, а калі ў турме – праз вакенца ў тоўстай-тоўстай сьцяне, хтось хрыпаты, чыйго твару не было відаць – ёй паведамілі ўрэшце, што мужа чакаюць дзесяць гадоў лагеру, яна не паверыла і напісала ў Маскву Дубоўкавай маці, папрасіла дазнацца там, за што арыштаваны Уладзя, – але і ў сталіцы нічога пэўнага не паведамілі. «Даведайцеся на месцы...»

А «на месцы» ўжо сьпешна дапісвалася абвінаваўчая пастанова сьпецтройкі пры НКВД Чувашскай АССР, якая выкрывала «антысавецкую дзейнасьць» Савіча і Дубоўкі, Каравайчыка і Мамчыца. У аснову новай справы былі пакладзены сьведчаньні Енгібаяна (якога Дубоўка ні разу ня бачыў) і Натальлі Лебедзевай (якую бачыў двойчы – на параходзе і ў Міхайлаўскім). Старэйшага Паўла Каравайчыка чакаў расстрэл, Савіча, Мамчыца і Дубоўку – новыя тэрміны зьняволеньня...

Яны пабачыліся напрыканцы лістапада 1937-га – у Алатырскім лагеры на мяжы Чувашыі. Невялікі перасыльны лагер, зроблены сьпешна на ўзвышку ў сутоку Алатыры і Суры, у два абхопы быў абнесены частаколам. Пяць вежаў з вартавымі. Вартавыя шнуравалі і паўз сьцены звонку. А за імі – укруга – жанкі, дзясяткі жанчын: то прыпадаючы тварам да частаколу, то калдыбаючы па сьнезе далей, на іншы бок лагеру.

І крыкі: імёны, прозьвішчы...

Дубоўка ўбачыў жонку першым, падазваў першым. Яна ледзь не самлела, убачыўшы яго схуднелы парослы шчэцьцю твар. Перакінула праз частакол зімовае паліто, валёнкі, цёплую коўдру – і ўжо ня мела

сілаў стаяць. Укленчыла перад ім – за некалькі метраў да яго, і глядзела, глядзела...

...аж пакуль не паказаўся вартавы з сабакам, пакуль не пачаў адганяць...

– Мне сказалі, што дзесяць гадоў у лагеры... – надрыўна выкрыкнула яна, узьнімаючыся на ногі.

– Няпраўда, ніякай справы няма! Пасьля выбараў нас павінны выпусьціць... – ад пачутага грудзям не хапала паветра (ім жа не абвесьцілі пастанову!). Вусны штосьць яшчэ працягвалі шаптаць, а сэрца ўжо разумела і верыла, што яшчэ дзесяць гадоў няволі забіраюць яго...

У сярэдзіне сьнежня каля лагерных варотаў ён пачуў ужо знаёмае: «Внимание, колонна! По пути следования не растягиваться... Шаг вправо, шаг влево...» Да Алатырскага чыгуначнага вакзалу калону лагернікаў вялі ўжо днём – і па цэнтральных вулках гораду.

І зноў: турма на колах, восем вагонных «купэ», па шаснаццаць зэкаў у кожным. Толькі дарога – у некалькі разоў даўжэйшая: Цюмень – Омск – Навасібірск – Краснаярск...

І мароз, ад якога ў голым вагоне замярзалі вочы. Застывала душа...

9.

Звон...

Колкі, нацяты звон.

Так пачынаецца ранак: молатам па чыгуннай рэйцы...

Спрасоньня здаецца, што хтосьць б’е па галаве...

Ён расплюшчвае вочы: на нарах і каля іх у змрочнай палатцы бязмоўна варушацца стомныя сьцені, кашляюць, – ці ад дыму з іржавай «буржуйкі», ці з прастуды, стогнуць.

Паспрабаваў узьняцца – стала млосна ад страшнай здагадкі: паралізавала сьпіну...

Выцягнуўся, паварушыўся, і тады паспакайнеў: усяго толькі бушлат прымёрз да дошак. Каб не парваць, расшпіліў і вылузнуўся з яго – у паліто, швэдары, кашулі, усім, што захапіў з сабой.

Ступіў на зямлю, і тады толькі заўважыў, што – без валёнак. Пашукаў пад нарамі – няма. Толькі чыесьці парваныя гамашы...

Насьпех абкруціў ногі нейкімі анучамі, усунуў у гамашы, завязаў, каб не згубіць, дротам – і апошнім выпхнуўся на вуліцу.

Сьвітаньне афарбоўвала далёкія сопкі лёгкай ружавізнай, над тайгою навісала мутнаватае, як брудная вата, неба. А па ўсім лагеры

абуджалася нявольніцкае жыцьцё: хрыпла мацюкаліся наглядчыкі, постаці ў балотнага колеру бушлатах, у рваных ватоўках нязграбна зьбіраліся на вялікім пляцы; белы дым акуратна ўздымаўся над трубой лагернай сталоўкі; абу-джана гаўкалі аўчаркі; вартавыя дакурвалі свае першыя ранішнія папяросы, спрактыкавана хаваючы пад крысо кажухоў рукі (у тоўстых рукавіцах не пакурыш).

Пачыналася ранішняя паверка.

За сьпіной і па-за жыцьцём – два месяцы лагеру. З апошняй чыгуначнай станцыі Завудзінск іх калона пятнаццаць дзён пехам дабіралася па забайкальскай зіме да гэтай стаянкі. Каб не зблудзіць, трымаліся рэчышча Селенгі. Па дарозе грызьлі цьвілыя сухары. Там, дзе даганяў вячэрні змрок, ставілі намёты, тапілі ў катлах сьнег, варылі посную баланду, – ёй і грэліся, абпальваючы рот і страўнік, ёй і жывіліся. І праваньваліся ў змрочны сон – тыя, каго не забраў сон вечны. Мёртвых сьцягвалі на замерзлую рэчку, засыпалі сьнегам – і вярталіся ў калону.

Да іх прыходу ў лагеры ўжо было некалькі брыгадаў, якія ўзьвялі вышкі, паставілі брызентавыя палаткі, абгарадзілі іх калючым дротам і спакваля пачалі ўзводзіць драўляныя баракі.

Іхняя ж брыгада працавала ў тайзе за тры кіламетры ад лагера, кудой павінна была прайсьці чыгунка. Цяпер пракладвалася яе драўляная «падушка», на якую зразалі бліжэйшыя лістоўніцы.

Працавалі аддзяленьнямі па дзесяць чалавек. На кожную «дзясятку» – па два канваіры. Яны звычайна выбіралі большага дахадзягу і прызначалі яго кастравым: без агню не прабылі б і гадзіны.

Піла звонка ўразалася ў задубелае дрэва, злосна грызла яго нутро. Лістоўніца разьвітвалася са сьветам надрыўным крэхтам – і гохкала на пустоту, пакрываючы катаржанаў воблакам іскрыстага сьнегу й інею. Затым двое пільшчыкаў пераходзілі да наступнай ахвяры, а астатнія пачыналі «сьвежаваць» зрэзаную: абсякалі гольле, дзялілі гонкі ствол на тры роўныя (па два метры) бярвёны – і цягліся далей.

У другой палове дня, хвілінаў з дваццаць пагрэўшыся каля вогнішча, яны тралявалі нарэзаныя загатоўкі да месца будучай трасы, дзе іншая брыгада пілавала і абсякала іх, ператвараючы ў шпалы.

Сьпяшалі, каб вырабіць «норму» і атрымаць на вячэры да кіслай баланды свае сямсот грамаў хлеба – аднавіць сілы на дзень наступны і пратрымацца да новага вечару.

У парваных гамашах ён падмарозіў два пальцы. У сталоўцы яны пачалі востра пячы, нібыта хтосьці спрабаваў і іх адпіліць. Яму

пашанцавала: лыжка патрапіла на кавалак рыбіны. Абпечаным языком ён не адчуў смаку, аднак абсмактаў усё да апошняй касьцінкі, а тады ўжо нагнуўся, каб агледзець гарэтныя пальцы – і ў тую ж хвілю ўбачыў свае валёнкі: падшытыя гумай, з рудымі знакамі на халявах – сушачы, прыпаліў на перагрэтай «буржуйцы»…

Ураз забыўся на пальцы. Падхапіўся – і подбегам за ўладальнікам сваіх валёнак.

– Браце, пачакай хвілю! – прытрымаў ён незнаёмца на вуліцы. Той спыніўся і бліснуў шэрымі зрэнкамі. Высокі, каржакаваты, з густымі, як падфарбаванымі сажай, брывамі. Вострыя скулы не магла схаваць курчатая бародка.

– Чо табе? – шэравокі сплюнуў пад ногі, пабачыў Дубоўкавыя драныя гамашы – і зморшчыўся.

– Ведаеш, твае скараходы мне здаюцца цеснымі… Давай мяняцца, а то я не магу прыпомніць, калі гэта табе свае валёнкі пазычыў…

Дубоўка заўважыў, як наструніўся шэравокі, як нярвова ўзьняўся ягоны кадык.

– Я шас цябе самога на часьці памяняю! – злосна вымавіў ён і хацеў ісьці далей, аднак Дубоўка асадзіў яго:

– Не, так ня будзе. Ня пойдзеш ты ў маім!

– Што ж, сам напрошваешся… – Шэравокі спадылба азірнуўся, зноў сплюнуў: – Бачыш барак ненакрыты? Давай туды!

«Калі адзін на адзін – можа, і атрымаецца, – думаў па дарозе Дубоўка. – Адно каб там не было ягоных дружбакоў. Інакш – канец…»

За сьценамі бараку іх мала хто мог убачыць. Шэравокі скінуў бушлат, шапку, і калі Дубоўка пачаў рабіць тое ж – наскочыў першым, зьбіў з ног, схапіўся за шыю і пачаў душыць. Дубоўка прыўзьняў яго каленьмі і што было сілы даў па вушах, расшчапіў ягоныя рукі – і скінуў з сябе.

Колькі хвіляў яны стаялі, пераводзячы дых, і шэравокі зноў кінуўся першым, стукнуў нагой у жывот.

Дубоўка адкінуўся да сьценкі, болю не адчуў: ці ўдар зьмякчыў ягоны валенак, ці закаржанелы бушлат выратаваў. Ад вострага кулака таксама пасьпеў уратавацца: прысеў і адказаў ударам левай зьнізу, у зарослую пашчэнку.

З вачэй спадужніка, здалося, сыпанулі іскры. Ён зьмяк і пачаў завальвацца наперад. І сустрэўся з новым ударам – пад пераносіцу, ад чаго зноў выпрастаўся, неўразумела хыкнуў і, замружваючы зрэнкі, зваліўся на сьпіну.

Дубоўка разбэрсаў гамашы, сьцягнуў з шэравокага свае валёнкі – і ўжо ў іх стомлена пацёгся да сваёй палаткі. Там расказаў пра крадзеж і бойку, папярэдзіў «дзясятку» пра магчымую адплату.

У тую ноч спалі па чарзе, але няпрошаныя ў госьці так і не завіталі.

А наступным вечарам у сталоўцы да Дубоўкі падсеў новы незнаёмец. Сербануў сваёй баланды, бліснуў жалезным зубам, – і наступіў нагой на ягоную:

– Слыш, фраер, энта ты ўчора Скулу заваліў?

Дубоўка выцягнуў нагу (тая, падмарожаная, зноў люта зашчымела) і буркнуў у адказ:

– Нікога я не валяў, а проста сваё забраў.

– Ну ты пар не гані! Знай: у бараках мы закон дзержым… Тут усе адным гаўном мазаны – і вы, контрыкі, і мы, хто па бытавусе. А Скула сам настараўся, за што на пай і нарваўся… – «Жалезны зуб» расшпіліў ватнік і дастаў з-пад яго паўбохана. – Эта табе за нервы.

– Сваё я забраў, а чужога мне ня трэба, – асадзіў нечаканага дабрадзея Дубоўка.

– Не харахорся, закон ёсьць закон. – «Жалезны зуб» адкінуў лыжку, нагбом выпіў жыжку баланды, уважліва агледзеў Дубоўку: – А ты мне спадабаўся. Чуў, што да лагера кніжкі пісаў… А тут майго Скулу падраўняў. – Устаў, сунуў рукі ў кішэні. – Словам, цяпер будзеш жыць спакойна. Калі што, шукай мяне. Спытаеш Зуба. Я тут, на лагеры… У будаў-ніках. – І пайшоў, валюхаючыся з боку ў бок.

У палатцы да яго падселі суседзі па нарах.

– Ну што, што бытавыя казалі? – хвалюючыся, першым пачаў роспыты Ванька Соўчык, трыццаціпяцігадовы хлопец з Жытоміру, колішні выкладчык геаграфіі.

– Ды нічога, – Дубоўка хітравата ўсьміхнуўся. – Дзякавалі за вучобу. І яшчэ нам за бяссонную ноч паўбохана хлеба падарылі. – Ён павольна выклаў яго на паламаную скрыню паміж нарамі, якая служыла сталом. – А цяпер давайце цяпла падкінем – і на бакавую. Сон для нас – найлепшы адпачынак…

Сон, на жаль, бяз сноў. Як ні сіліўся ён хоць у сьне пабачыць сына, жонку, бацькоў, сяброў, свабоду, – ня шчасьціла. Клаўся – і як скрозь зямлю правальваўся, разам з усімі наўкола: і нарамі, і таварышамі па няшчасьці, і гэтай замерзлай зямлёю. І, здавалася, толькі на хвілю забываўся – а з беспачуцьцёвасьці яго зноў выцягваў звон, колкі, нацяты, – таксама нібыта як з падзем'я.

І так – дзень за днём.

Месяц – за месяцам…

10.

Гэты ранак адрозьніваўся ад астатніх. У паветры над лагерам, пад ружавізнай маладога неба, у якім патанала летне-зялёная тайга, вісела штось невядомае, назвы чаму яны пакуль ня ведалі, аднак пачыналі ўжо адчуваць. Зьмяніліся паводзіны канвойных: аціхлі, сьцяліся, нейкая незвычайная мітусьня вакол будынку канцылярыі. Ды і што магла азначаць гэтая небывалая затрымка: ужо з гадзіну пасьля агульнага пастраеньня не пачыналася паверка?

Нарэшце пачалася пераклічка, пасьля чаго начальнік лагера, заклаўшы рукі за сьпіну, надрыўна загаварыў:

–...Учора без абвяшчэньня вайны фашысцкая Германія вераломна напала на нашу савецкую Радзіму... Мы не сумняёмся, што хутка ворагу будзе дадзены сакрушальны адпор. Для гэтага і ўсе мы павінны мабілі-заваць усе сілы, каб зрабіць дастойны ўклад у справу перамогі. Ваша задача – яшчэ больш старанна працаваць на пабудове патрэбнай краіне дарогі...

Навіна, як нечаканы гром над сопкамі, зьбянтэжыла лагернікаў. Першыя дні аніхто ня мог сказаць ім большага, чым на той паверцы начальнік. Затым у іх аднастайнае жыцьцё прыйшлі зьмены. Перафармавалі брыгады, падзялілі на асобныя баракі «бытавікоў» і «контрыкаў».

І перасталі карміць. Людзі елі лісьце, карэньне, траву. І паміралі дзясяткамі, сотнямі. Праз паўмесяца з барака выйшлі на працу толькі Дубоўка і лекар-украінец. І да абеда закопвалі целы астатніх...

Затым у лагеры зноў зьявіліся прадукты. Пачалі нават даходзіць лісты ад родзічаў – акрамя адрасатаў з заходніх абласьцей Саюза. І па гэтым найбольш вушлыя з зэкаў рабілі свае несуцяшальныя высновы: тыя землі – пад немцам...

Аднойчы ён атрымаў вялікі ўскрыты канверт ад жонкі. У ім – звычайны школьны сшытак, некалькі старонак якога займаў ліст. Жывуць пад Масквой у Талдоме – без хваробаў, сумуюць і чакаюць... Жонка працавала ў часовай лесанарыхтоўчай канторы статыстам. Цяпер папрасілася рахункаводам – каб мець бясплатны пакой. Маюць агарод, казу, курэй. Алік-Альгерд вельмі любіць казінае малако, вучыцца і расьце. Паўстаронкі займала і ягонае акуратнае пасланьне...

Гэтыя пісьмёны акрылілі яго, напоўнілі новаю сілай. Ён разоў з дзесяць, пакуль хапала сонечнага сьвятла, перачытваў іх – і адчуваў, як унутры расьціскалася штось журботнае і пякучае, заплюшчваў вочы, забываўся – і зноў чытаў.

А затым разгледзеў і сам сшытак, і зноў зьдзівіўся, зноў гарачынь разьлілася па грудзях. На пажоўклай вокладцы – графічны малюнак пом-ніка Пушкіну ў Маскве, знаёмыя прыступкі да ягонага ўзвышэньня, а побач, справа, надпіс: «100 лет со дня смерти великого поэта А. С. Пушкина». Даты жыцьця і гібелі. А на адвароце вокладкі – два вершы: Пушкінскі «В Сибирь» і «Ответ» Аляксандра Адоеўскага.

Дубоўка перачытваў даўно вядомае – і нібыта бачыў вершаваныя радкі ўпершыню… Сэрца няўрымсна забілася мацней, а ў класічным ажывала і сваё, наболенае, мройнае:

Во глубине сибирских руд
Храните гордое терпенье,
Не пропадет ваш скорбный труд
И душ высокое стремленье…

Оковы тяжкие падут,
Темницы рухнут – и свобода
Вас примет радостно у входа.
И братья меч вам отдадут.

Пушкін і жонка зноў прывязалі яго да жыцьця, Пушкін і жонка здолелі перахітрыць цэнзуру – і даслалі ў забайкальскі ГУЛаг найбольшую крамолу, за якую людзі з сінімі аколышамі на фуражках не пашкадавалі б і сьвінца. Калі б маглі бачыць далей напісанага…

Многія з яго брыгады пачалі пісаць начальству просьбы паслаць іх на фронт. З адказамі доўга маўчалі, а затым на агульным пастраеньні ўсім патлумачылі, што адпраўка на фронт – вялікі для іх гонар, і гонар гэты яны павінны заслужыць. На фронт будуць мабілізавацца тыя, хто зможа вырабіць двайную норму.

І прастакоў хапала. Яны рвалі свае жылы, прыходзілі ў лагер пазьней астатніх (злуючы гэтым канваіраў). Яны пасьпявалі зразаць, «разьбіраць» і стралёўваць да «палатна» па дваццаць аграмадных лістоўніцаў. Такім чынам зарабіў сабе грыжу жытомірац Ванька Соўчыц і быў – разам з некалькімі дзясяткамі такіх, як і сам, сабраных з усёй калоны – «мабілізаваны»: пераведзены ўглыб, пад Чыту, дзе пачаў працаваць на элеватары і на трэці дзень застаўся без рукі.

Выпрацаваў бы з сябрам двайную норму і Дубоўка, і таксама пабачыў бы ня фронт, а яшчэ далейшы Далёкі Усход, калі б не пачало

кволіцца і здаваць сэрца, а на самым пачатку жніўня ня зьбіла б з ног моцная пелагра…

11.

Пах хлоркі, сьвежай смалы і эфіра. Праз лазарэтнае акенца, насьпех прарэзанае ў сьцяне з абкораных лістоўніцаў, мякка ўплывае дзённае сьвятло, і ад яго над галавой чалавека ў белым – як німб.

Доктар мерае тэмпературу, лічыць пульс, штось піша алоўкам на разьлінееным аркушы і бадзёра падагульняе:

– Го, міл-чалавек! Каб мы былі ў Маскве, дзе я яшчэ ў дваццатых меў практыку, вы б ужо танцавалі… Што вы!.. У мяне ўся Мікіцкая лячылася, го-о… Мейерхольд з жонкай, Маякоўскі, Брусаў… А начальства колькі! Што вы!..

І Дубоўку як электрычным токам працяла: усхапіўся наўзлукаткі, уважлі-ва агледзеў доктара. Высокі маршчыністы лоб, кучаравыя валасы, пакрытыя сівізной, заўсёдная ўсьмешка блізарукіх вачэй… Гэты перападзісты голас…

– Навум Фроймавіч, ці вы гэта?

– Я, а ты што, міл чалавек, хіба ў жары быў? – насьцярожыўся доктар.

– Ды не, вы яшчэ той Навум Фроймавіч… – у Дубоўкі не хапіла сілы дагаварыць; лёг, усхвалявана глынуў вады: – Той, з лякарні насупраць булачнай… Там яшчэ трамвай заварочваў… – зноў не хапіла паветра, і трэба было рабіць паўзу… – Я, калі студэнтам быў, двойчы забягаў да вас… Вы нейкія мікстуры Брусаву, Валерыю Якаўлевічу, рабілі. А я ў яго вучыўся…

Маршчыны доктара выраўняліся.

– Ну-ну, ляжы, міл-чалавек… Табе нельга гаварыць. Ты ляжы, а мы ўраз тваю пелагру выганім, го-о… – і падставіў твар да сьвятла, да нягеглага акенца. Вочы яго прымружыліся, зрэнкі зацягнула туманная павалока, з якой на белую шчэць шчакі марудна спаўзла халодная сьлязіна…

Дубоўка затрымаўся на лазарэтным курорце: хоць і паправіўся, Навум Фроймавіч не выпускаў яго – на свае страх і рызыку.

– Паляжы, адкерхайся, го-о… Пасьпееш з козамі на торг… – шаптаў і хітравата мружыў вочы.

А яшчэ праз тыдзень чамусь перастаў усьміхацца. І ў вочы стараўся не глядзець: пакажацца, кіўне галавой – і за дзьверы.

Аднае начы паклікаў да сябе ў доктарскую, дзе на стале, на пакамечанай газеце, ляжалі тоўста парэзаныя лусты хлеба, два селядцы, цыбуліна.

– Сядай, – паказаў Навум Фроймавіч на табурэт. – Я, мiл-чалавек, нават i ня ведаю, як гэта пачаць… Даручэньне ў мяне ёсьць, усё б жыцьцё яго ня ведаць… Але ўсё па парадку, – доктар дастаў з шафы дзьве шклянкi i бутэльку, налiў у шклянкi па самыя канты: – Усё па парадку… Давай мы з табой, – i панiзiў голас; яго худыя пальцы задрыжэлi, i некалькi кропель пралiлiся са шклянкi на стол, – …вып’ем за свабоду.

Уздыхнуў – i доўга, моршчачыся, глытаў мутнаватую вадкасьць. За iм – Дубоўка.

Прыкусiлi. Гаспадар зноў налiў, праўда, сабе ўжо меней. Прымусiў выпiць. А тады сеў i загаварыў гучней:

– Бог дае нам радасьць, ён яе i забiрае… I невядома яшчэ, дзе гэтай нашай радасьцi лепш – тут цi… – i доктар падняў палец угору, – цi там. – Устаў, засунуў дрыготкую руку ў кiшэню халата. – Бяда ў цябе, мiл-чалавек… – i выцягнуў канверт, i паклаў на стол…

«Южлагер. Калона № 4. Лазарэт. Галоўурачу…, – пазнаваў Дубоўка жончын почырк. Нярвова выцягнуў лiст, нахiлiў да газоўкi: – Дарагiя людзi… Я даведалася, што мой муж, Дубоўка Уладзiмiр Мiкалаевiч, цяпер знахо-дзiцца ў вашым лазарэце, – пiсала жонка па-расейску, а рука паўзла ўнiз – радкi былi крывыя, i лiтары – таксама няроўныя… – Нашу сям’ю напаткала страшнае гора: трагiчна загiнуў адзiны сын Алiк. Гуляў з сябрамi на ўзлеску… i падарваўся на мiне. Я прашу паведамiць майму мужу гэтую гаротную вестку, калi ён паправiцца, але яшчэ будзе пад наглядам урача…».

I дата пад лiстом…

Як жыць?

З чым?

З кiм?

I навошта?!.

Гэта самае страшнае ў жыцьцi – страцiць да яго ахвоту. Калi ня хочацца жыцьця, калi нават сiлаў, каб пайсьцi з яго – не стае. Не стае ахвоты, каб адкрыць вочы на новы дзень, не хапае волi, каб дзень той адлучыць ад начы…

Адным, што зьвязвала яго з сёньняшнiм i, магчыма, заўтрашнiм, заставалася жонка, – пакутнiца Марыя. Пайсьцi з жыцьця аднаму – здрадзiць найперш ёй…

Ён пачаў баяцца, што спалены мозг забудзе вобраз сына – i адзiн за адным пiсаў лiсты з просьбай да жонкi выслаць яму Алiкава фота.

Адказу не было, і яму ўжо са страхам думалася, што застаўся і без Марыі…

…толькі праз дзьве зімы да іх зноў пачалі даходзіць газеты, затым – лісты ад родзічаў. Сябры ж сюды не пісалі, сяброў, здавалася, ужо і не было. Чырвоная Армія ішла на Захад, а на Далёкім Усходзе працягвалася будаўніцтва чыгункі – крок за крокам, жыцьцё за жыцьцём.

12.

Зрэзаны асколкамі твар новага начальніка лагера, яго чырвоныя бяссонныя вочы нічога добрага, здавалася, не абяцалі – і тут:

– На вас прыйшлі паперы. Будзем рыхтаваць да вызваленьня. Куды хацелі б мець накіраваньне?

Дубоўка ўважлівей угледзеўся ў начальніка: блізу сарака гадоў – раньняя сівізна, славянскія рысы, пусты левы рукаў зьнізу падціснуты пад папругу; маёрскія пагоны.

– Дык куды накіроўваць?

– Назад, у Маскву…

– О! У Маскву! Ні ў Маскву, ні ў Маскоўскую вобласьць, ні ў сталіцы рэспублік нельга.

Дубоўка хмыкнуў, пахітаў галавой і сказаў абуджана:

– А да сонца можна?

– Да сонца? – не зразумеў маёр.

– Так. Скажам, у Грузію. Хочацца косьці разагрэць. Ды і сэрца, бывае, ледзяшом здаецца…

Маёр доўга перабіраў паперы, двойчы ўставаў да карты, а потым нечакана радасна зьдзівіў:

– Што ж, пашлю вас на курорт, пад самае мора. Раён Зугдзідзі, Мінгрэлія. Грэйце сваю бараду.

– Буду старацца… – Дубоўка торапка забраў ад маёра паперы, зноў хітнуў галавой і спытаў: – Маёр, на якім фронце вас так?

– Беларускім. Пад Віцебскам. Дакладней – пад Лепелем… Горад такі ёсьць.

– Ведаю. Мая радзіма… – наструніўся Дубоўка і, бачачы адкрытасьць начальніка, насьмеліўся на другое пытаньне: – Як там Беларусь?

Маёр вельмі ўважліва зірнуў на нядаўняга зэка. Памаўчаў, нібыта думаючы, што сказаць.

– Вайна праехала, што там… Віцебск у руінах запомніўся. На поўначы Віцебшчыны шмат азёраў, малая магчымасьць франтальнага манёўру. Шмат крыві засталося там…

– Яе па ўсёй зямлі многа. І як яшчэ вазёры тыя не чырвоныя… А іх у нас і сапраўды шмат. Як кампенсацыя за мора. Кажуць, некалі Бог спусьціўся ў той край, і дзе хадзіў – у яго сьлядах узьнікалі вазёры.

– А затым Бог перайшоў за Урал, стаміўся – і сеў адпачыць. – Нечакана працягнуў гаворку маёр, нават штось у ягоных вачах зьмянілася: зьявіліся новыя агеньчыкі-хітрынкі. – А тут апошні дзень працы заканчваецца… Архангел напалохана крычыць яму: «Яшчэ ж вялікі кавалак зямлі – ад гор да мора – пакрыты хаосам!» А Бог спакойна матнуў рукой і сказаў: «Ну і хай будзе хаос!» І стала так Сібір… – маёр сьціх, насьцярожана прыгладзіў валасы (пэўна, разумеў, што сказаў лішняе) і зьмяніў тон: – Усё, грамадзянін, свабодны!

Ён нараджаўся зноў. Правільней – адраджаўся ў новым жыцьці.

У першы дзень свайго сорак восьмага года ён ехаў цягніком з Іркуцку на захад. Па-новаму прывыкаў і да людзей, і да гарадоў, і да самога сябе – «свабоднага».

Увесь вагон займала завадская брыгада з Камсамольску. Карты, даміно, шашкі, сьмех…

На станцыі Аблучча ў вагон зайшоў начальнік цягніка – худатвары вусач з неспакойнымі вачыма, доўгім носам і вайсковай выпраўкай. Уважліва агледзеў пасажыраў, штось спытаў у карцёжнікаў, затым зьвярнуўся да брыгаднага прафорга:

– Даруйце! Прашу вас зайсьці да мяне ў службовы вагон, нумар дзевяць. Ёсьць неадкладная справа.

Тое ж паўтарыў і Дубоўку…

Нечаканы візіт насьцярожыў. «Няўжо так і не ад'еду? Няўжо здымуць з цягніка?..» – апякло трывожнае, але неспакою стараўся не выдаваць. Падсеў да прафорга:

– А што яму трэба? Чаго выклікае?

– Ня ведаю… – той і сам быў зьдзіўлены. – Дагуляю партыю, сходзім і пабачым.

І ўнутры яшчэ больш пахаладзела….

Адшукалі дзявяты вагон, зайшлі. Вусач-начальнік замітусіўся, запрасіў сесьці.

– Ведаеце, таварышы… Праз два дні Усесаюзнае сьвята – Дзень чыгуначніка. – Засыпяшаў скорагаворкай і пачаў наліваць гасьцям чай. – Нам абавязкова трэба выпусьціць цягніковую насьценгазету. А якія з нас мастакі і журналісты! Вось і хачу прасіць вас, каб дапамаглі.

Яны сербанулі густа падсалоджанага чаю, і Дубоўка ўдакладніў:
– А ці добра будзе: газета цягніковая, а мы ж да чыгуначнай службы ня маем дачыненьня…
Начальнік адразу ж парыраваў:
– У гэты момант – усе паўнамоцныя члены калектыву, бо ўсе на адных колах.
– Ну а чаму вы зьвярнуліся менавіта да нас? У цягніку ж поўна людзей? – у Дубоўкі, навучанага пільнасьці, яшчэ не прайшла насьцярожанасьць.
– Ды я ўсе вагоны прайшоў! Хто сьпіць, хто гуляе, хто ня хоча, а хто й бязграматны…
І яны, дапіўшы чай, заселі за працу. Праформ маляваў, Дубоўка перапісваў падрыхтаваны матэрыял, некалькі нататак зрабіў вершам.
Правалэндаліся з паўдня, і калі паклікалі начальніка, той аслупянеў:
– Гэта для нас? Праўда?!
Уважліва перачытаў і ўзрушана падрахаваў:
– Усё! Гэтая газета паедзе ў Маскву!
– А хіба ў Іркуцку ёй месца мала? – зьдзівіўся Дубоўка.
– Ды не… Яе возьмуць на Усесаюзную выстаўку!
На бліжэйшай станцыі начальнік цягніка вывесіў газету на знадворную сьценку вагона. Пасажыры чыталі з імпэтам, усьміхаліся, каментавалі, і начальнік, не ўтрымаўшыся, прапанаваў «рэдактарам»:
– А пераходзьце ў мой вагон! Я даю вам на двух мяккае купэ!..

Праз паўмесяца Дубоўка ўладкаваўся бухгалтарам у чайны саўгас Наразені. А неўзабаве ў Зугдзідзі, раённы цэнтр Мінгрэліі, прыехала і жонка. Яе прызначылі настаўніцай матэматыкі ў суседнія з Наразені Хецэры. Паміж сёламі – вялікі яр, побач – прыгожая горная рэчка Інгуры, чайныя і вінаградныя палі, вечныя горы наўкол і пракаветнае сонца.
Пасьля лагернага голаду, калі за ласунак быў і падкоркавы белы слой сасновых бярвёнаў, надзіва пахкі ванілінам, – вінаград з жыцьцядайным вінам; пасьля рабскай працы на чыгунцы, асабліва ў апошнія два гады, калі лагернікі злучалі дарогу каля Чыты і адразу ж па ёй папаўзьлі вайсковыя саставы да мяжы з Кітаем, дзе, як пагаворвалі, сьпела новая вайна, – спакойная праца з лічбамі, за сталом і ў спакоі; пасьля забайкальскага хола-ду – грузінскае сонца, ад якога напачатку рабілася млосна і дрымотна.
Сонца…
Высокае сонца.

Здавалася, яно было ва ўсім: і ў паветры, і ў часе, і нават у кароткіх жончыных запісках, якія, сьпяшаючыся ў суседняе сяло на працу, яна прыколвала на дзьвярах – каб іх не праміну муж:

«У меня три урока. Если ты подождёшь меня, я бы тебя проводила по солнышку»...

Чакаць у той дзень ён ня мог – і да жончынай цыдулкі, тройчы падкрэсьліўшы «по солнышку», далучыў сваё:

Я уроков получал
Гораздо больше,
Но они не пошли
Мне впрок.
Из-за них я от самой Польши
Угодил на Дальний Восток.
Вот почему я держусь земли,
Вот почему на Солнышки не взлетаю.
Этому самому, Марилька, внемли,
И не тревожь меня, дорогая.
Уладзімер.

Вайна асіраціла гэтыя спакойныя грузінскія землі: на чайных плантацыях працавалі жанкі й дзеці. Дзеці ня толькі Мінгрэліі, але і Паўночнага Каўказу, шмат – з Украіны. Ратаваліся напачатку ад вайны, а цяпер – ад голаду.

Большасьць прыехала на заробкі. Дзеці паўдня працавалі, а затым да вечара вучыліся. Як толькі сілы хапала?

Дзеці...

У Наразені Дубоўкам далі пакой. Па-суседству – сям’я агратэхніка, жонка – таксама настаўніца. У іх – двое дзяцей: хлопчык і дзяўчынка. Праз другую сьценку – сям’я саўгасных рабочых. Прыехалі з Варонежчыны, з сямнаццацігадовым сынам, аднагодкам іхняга Альгерда...

Лепш ня згадваць пра гэта, лепш ня думаць...

Але як – ня згадваць?

Як – ня думаць?!.

Прайшлі мяккія восень і зіма, якія і не заўважыліся – пасьля пякельных сібірскіх. Рыхтаваліся да новага гаспадарчага цыклу. Бухгалтэрыя закрывала гадавыя нарады.

Зранку па даведку прыклэпаў стары Ашвілі. Яго – дзеда Атара – ведалі па ўсёй ваколіцы. Дажываў свой дзевяносты год, з вайны не прыйшоў ягоны сын. З нявесткай гадаваў дзьвюх унучак.

– Мне б нарадную даведку… За нявестку. Сама ня можа прыйсьці, за-хварэла нешта, – нясьмела пачаў ад дзьвярэй, пераступаючы з нагі на нагу. Твар зжаўцелы, маршчыністы – як ссохлы табачны ліст, вочы хворыя, гнойныя.

– Заходзьце, дзед Атар, калі ласка, – Дубоўка загаварыў па-мінгрэльску (за паўгода крыху вывучыў гаворку). – Сядайце. Тут трэба яшчэ пахадзіць… Да брыгадзіра, рахункавода. Адпачніце, а я гэта сам зраблю. – Забраў у зьдзіўленага старога скамечаныя паперы і – з пакою.

Вярнуўся з усімі выпіскамі. Калі разьвітваўся з расчуленым Атарам Ашвілі, да іх далучыўся і галоўны бухгалтар. Стомлены, азызлы, вочы чырвоныя (пэўна, ноч ня бачылі сну), сьпешна перагаварыў з Атарам і, калі той пайшоў, сеў каля вакна і падкурыў пахкую самакрутку.

«Галбух» Грыгол Мамкелі – дабро-чалавек. Пан Рыгор, як, перайначыўшы, называў яго Дубоўка, быў самым занятым у ваколіцы чалавекам. І самым паважаным – быў тамадой. І вясёлыя, і журботныя сталы не маглі адбыцца без яго. На сваёй жа асноўнай працы зьяўляўся зрэдчас – і быў вельмі ўдзячны лёсу, што паслаў яму такога надзейнага таварыша, як гэты барадаты беларус.

– Харошы ты чалавек, дато Уладзімір… Нашы гэтага б старога хадзіць адправілі, а ты – сам… – Грыгол пыхнуў самакруткай, дым засьляпіў вочы, і ён доўга цёр іх. Грыгол меў твар клоуна: мясісты нос тырчэў набок, густыя бровы расьлі роўна і згіналіся толькі над пераносьсем, вялікія вушы, якія маглі варушыцца паасобку… – Я гэтак думаю: ты хутка зусім забу-дзеш, што паэт, а не бухгалтар. Тады ганьба будзе ўсёй Грузіі, якая паэтаў любіць і паважае. Праз дзень мой сусед будзе аддаваць замуж дачку. Я, як застольны тамада, запрашаю на вясельле цябе з жонкай. Як падарунак маладым – пачытай свае вершы…

У спакоі мінула і вясна. Зноў напоўніцу запякло сонца, заўсьміхалася ў вінаградных гронках. У абедзенную сьпёку Дубоўка хадзіў да Інгуры – праз тытунёвыя палі, па горным схіле. Клаўся за вялікім каменем у шпаркую карычнева-зеленаватую плынь, замружваў вочы – і забываўся. Вада набягала на каменную глыбу і абрывалася на яго невялічкім вадаспадам, шыпела і плёхала, і ў гэтым плёскаце яму ўсё часьцей чуліся хвальныя сьпевы неспакойнай у

вецер Мястры, бацькоўскі човен і даўне-далёкі шлях па Мястры ад Старога да Новага Мядзелу.

Як даўно ўсё гэта было…

І як блізка!

Аказалася, яны з Грыголам Мамкелі нарадзіліся ў адзін час – другі (па новым стылі – пятнаццаты) дзень ліпеня. Грыгол вырашыў адзначыць сваё пяцідзесяцігоддзе на беразе мора. Наняў машыну, назапрашаў з усяго сяла сяброў – ледзь тыя паселі ў немалым кузаве (у кабіну да шафёра пасадзілі дырэктара саўгаса Сёмкіна). Не забылі і баранчыка на шашлык, не забылі і віна да яго.

Так праз дваццаць чатыры гады Дубоўка зноў пабачыў Чорнае мора. Табарам расьселіся каля Анакліі, дзе нястомная Інгуры злучалася з марскім бязьмежжам, – надзвычай лагодным і ціхім у той дзень і тую ноч.

Быў смачны пачастунак, былі доўгія вясёлыя сьпевы: і па-мінгрэльску, і па-грузінску. Грыгол упрасіў сябра засьпяваць беларускае. Гледзячы на мужа, Марыя не стрымала сьлёз, а затым нечакана далучылася да сьпеву. Яе каляжанка-настаўніца пачала чытаць верш Цэрэтэлі «Песьня Натэлы», а напрыканцы нават прасьпявала яго радкі:

Хопіць плакаць! Усе струны
Я сьлязамі заліла.
Не магу праз плач сьпяваць я:
«Адэла-дэла-дэлала»!

Затым яна падміргнула Марыі і папрасіла прачытаць што-небудзь сваё Дубоўку. Той заўважна зьніякавеў, уздыхнуў, узьняў келіх – і прапанаваў:

– Давайце лепш я прачытаю верш вашага добрага паэта Аляксандра Чаўчавадзе, прачытаю ў гонар сёньняшняга дарагога юбіляра, – і загаварыў па-грузінску, узьнёсла, разьмерана – пяцірадкоўе, а затым – свой пераклад па-беларуску:

Гады, гады, як сноў дзівосны рой
Вы праляцелі шпаркай чарадой!
А я такі, як быў, а я ўсё той,
Непадуладны поступу часін,
Бо я такі, як быў, бо я ўсё той…

І затым – зноў па-грузінску і па-беларуску яшчэ два трохрадкоўі:

Я дужы духам, хоць зусім адзін, –
Паразгубляў сяброў, душы спакой,
Бо я такі, як быў, бо я ўсё той.

Хоць лёс мне слаў шмат горкасных хвілін,
Надзею нёс, як шчыт трывалы мой,
Бо я такі, як быў, бо я ўсё той…

– І няхай усе нашыя надзеі зьдзяйсьняюцца. За гэта і прапаную выпіць, – падрахаваў Дубоўка па-руску.

Зморaная сябрына і паснула тут – на беразе, каля машыны. І толькі адзінокая постаць да самага ранку нерухома сядзела каля марской мяжы.

У вачах люстравалася ледзь-ледзь жывое вугольле кастра.

Адзінокія зоркі разьбегліся па нябеснай пустэчы.

Падступала хваля да ног – «А я такі…»

Другая, што шаргацела сьледам – «А я ўсё той…»

Яны паступова абжываліся. Купілі дзьвюх коз, пад вакном зноў быў агарод. І нібыта зноў усё пайшло па крузе. Вось толькі працы большала, і ён заседжваўся ў саўгаснай канторы да ночы. А з самага ранку Марыя бегла ў школу.

Прачнуўшыся, убачыў на дзьвярах эпісталу:

«Я порезала большой палец правой руки. Не знаю, как буду доить коз.

Хорошо, если бы ты пришел вовремя, хоть подержать их. Осталось много рассады, а места нет. Я прикопала её».

Ён сьпешка апрануўся, пасьнедаў – і па добрай традыцыі побач з жончыным пакінуў і сваё «пасланьне»:

Говорил я не раз –
осторожно, моя дорогая.
Только скроюсь я с глаз,
ты уж пальчик себе обрезаешь.
Буду прятать ножи,
и точить их не буду я вовсе.
Никакой не поможет нажим
на меня в этом самом вопросе.
А сегодня приду,

и пораньше, насколько возможно.
Будь здоровая, будь
внимательна и осторожна.
Уладзімер.

Вочы яшчэ раз сьлізнулі па напісаным… «Я парэзала… палец»… І яму здалося, што круг хіснуўся, і ніз яго – зноў зьверху, у той дняпроўскай вясьне 1924 году, калі пісалася:

Ты руку сваю забінтавала,
маладая… Як цябе і клікаць?
Маё сэрца рвецца на кавалкі
і сьціскаецца тугой вялікай…

Усё праходзіць, і ўсё вяртаецца: і радасьць, і туга.

13.

Калі Марыя ўбачыла ў хаце разам з мужам дырэктара Сёмкіна і чалавека ў вайсковай форме – зьніякавела і, разгублена пазіраючы на ўсіх па чарзе, прапанавала сесьці.

– Прысядзем потым… Зьбірай мяне ў дарогу, – голас Дубоўкі разьмераны, спакойны.

А на яе найшло аняменьне. Праз сілу паварушыла галавой, абурана зірнула на «вайскоўца» – начальніка райаддзелу МДБ:

– У якую дарогу?.. За што ж цяпер?!.

Той скрывіў вусны, зьняў і пакруціў у руках фуражку:

– Ёсьць распараджэньне з Масквы… На ўсіх, хто быў у лагерах…

Агаломшаная, яна пачала зьбіраць рэчы, клала на стол, затым, забыўшы, несла назад, і ўсе ўтрох мужчыны пачалі дапамагаць.

– Ну, хадзем правядзём, – шапнуў ёй Сёмкін.

Быў люты 1949-га. З ганку сполашна ўспырхнула чародка вераб'ёў, за-кружляла над падворкам – але так і не насьмелілася зноў сесьці.

Яны марудна прайшлі да саўгаснай сталоўкі, дзе стаяла, адблісквароючы чорным лакіраваным бокам, машына.

– Вось бачыце, я прыехаў бяз варты, асабіста, – зьвярнуўся «дзяржбясьпеччык» да Марыі. – Я ведаю, які гэта чалавек…

Каля машыны іх чакала з паўсяла: і саўгасьнікі, і дзеці, і старыя (сярод іх сьпераду – дзед Атар). Жанкі плачуць. Некалькі хрыплых галасоў з натоўпу:

– Чаго гэта яго? Ня пусьцім… Гэта харошы чалавек!

Прадчуваючы нядобрае, з машыны выйшаў шафёр. Ягоны начальнік кашлянуў, сказаў гучна, як скамандаваў:

– Ну-ну, не мітынгуйце, – і на ўсялякі выпадак расшпіліў кабуру.

Аднак ад машыны ніхто не адышоў. Неспакойную паўзу перарваў «галоўбух» Мамкелі:

– Што ж... Дык давайце хоць правядзём нашага сябра пачалавечы. Хадзем у сталоўку!

У сталоўцы ледзь хапіла ўсім месца. Увомірг зьявіліся віно і закуска. У «галаве» стала – незвычайная тройка: арыштант, яго жонка і начаддзелу МДБ. Мамкелі ўпершыню ў жыцці адмовіўся тамадзіць. Тосты прамаўлялі па чарзе: дырэктар саўгаса, праформ, парторг, бухгалтары, настаўнікі, работнікі... Усе словы ўхвальныя, удзячныя.

Начаддзелу спачатку слухаў уважліва, затым пачаў ківаць – у знак згоды – галавой, а калі трэба было зьбірацца, – устаў і, моцна хістаючыся ад выпітага, ледзь змог вымавіць:

– А цяпер... ваша слова... у адказ.

Дубоўка падзякаваў за добрыя словы, пажадаў усім здароўя, росквіту – саўгасу.

– Дасьць Бог, сустрэнемся, – падагульніў цішэй і сабраўся выходзіць, як заўважыў, што начаддзела... сьпіць, склаўшы на стале рукі. Каля яго замітусіліся мужчыны, спрабавалі раскатурхаць, аднак той толькі цмокаў языком і асалавела хітаў галавой.

– Пачакайце, – перапыніў усіх Дубоўка. – Мы ж павінны разам... – і, прыўзьняўшы з лавы цыбатае цела начаддзелу, ускінуў яго на плячо ды панёс да машыны. Затым абняў жонку, якая неўразумела глядзела на ўсё вакол, «Мы хутка ўбачымся», прашаптаў – і сам схаваўся ў машыне. Яна неяк стомна завуркатала, крэкнула – і пачала паволі аддаляцца...

А Марыю яшчэ доўга не адпускалі дадому, суцяшалі, бедавалі.

– Няўжо зноў у Сібір? Там жа такое пекла! – вохкала жонка Мамкелі.

– А ты калі паедзеш да яго? – спытаў дырэктар школы. – Спачатку ён будзе ў Зугдзідзі.

– Як жа ехаць? Урокі ж...

А той ажно абурыўся:

– Што такое: тут урокі? Там жа – чалавек!

– Ты, дарагая, кажы сьмела, што трэба: усім дапаможам! – запэўніў Марыю Мамкелі.

– Канешне дапаможам... А як жа інакш... – адзываліся галасы, многія – незнаёмыя ёй.

Назаўтра яна паехала ў Зугдзідзі, але мужа не засьпела: зраніцы яго адправілі ў Тбілісі. У дзяжурцы Марыі сустрэўся начаддзела, прыязна ўсьміхнуўся, правёў да выхаду.

– Ён ня ў камеры начаваў, а ў асобным пакоі... – сказаў на разьвітаньне. – На жаль, больш я нічога зрабіць для яго ня мог.

Да Тбілісі Дубоўку суправаджалі два канваіры. Перад тым як накіравацца да турмы, зайшлі ў чыгуначную рэстарацыю. Замовілі align="right"рознага, і пра каньяк не забылі.

Праз паўгадзіны адзін з канваіраў – старэйшы па ўзросьце – паклікаў афіцыянта, каб разьлічыцца. Той прынёс рахунак – і спытаў па-грузінску:

– Хто гэта з вамі?

– Паэт з Беларусі. Яго ўжо чацьвёрты раз забіраюць...

– Во як? – прыцмокнуў афіцыянт, скруціў рахунак і піхнуў у кішэню: – Хай адсохне ў мяне рука, калі я цяпер вазьму грошы з гэтага чалавека.

Пакланіўшыся, ён прыхільна зірнуў на Дубоўку – і пачуў ад яго таксама па-грузінску:

– Дабра табе, сонечны сябар.

Адзін з канваіраў пачаў зьбірацца, і старэйшы хмура асадзіў яго:

– Куды ты сьпяшаешся? Куды, я цябе пытаю?..

Калі Марыя зазьбіралася ў Тбілісі, дырэктар школы суцішваў:

– Не хвалюйся, заменім твае ўрокі. Ты толькі ад нас прывітаньне мужу перадавай...

У Тбілісі – пад чатырыста кіламетраў у адзін бок – яна езьдзіла чатыры разы. І чатыры разы ёй шчасьціла з сустрэчамі. Апошні раз яе выклі-калі «афіцыйна» – перад адпраўкай мужа на вечнае (апяклі яе гэтыя словы турэмнага дзяжурнага) пасяленьне...

14.

...Тайга – гэта маці для добрых людзей, –
ліхога ня пусьціць далёка.
У багну яго завядзе, завядзе, –
схавае глыбока-глыбока...

*Уладзімер Дубоўка.*

Эшалон спыніўся ў Канску. Кароткае краснаярскае лета было ў зеніце, у вагонах – духмень, а ад салёнага правіянту люта даймала смага.

Ссыльных вывелі з вагонаў. На прывакзальным пляцы, адгароджаным з аднаго боку – драўляным плотам, з другога – жалезнымі рэйкамі (а па перыметры – канваірамі), усе чакалі «рассартаваньня».

Прасілі вады, але ўсе, хто ішоў паўз плот, нібыта ня чулі тых просьбаў.

– Што за людзі? – абураўся тбілісец Гогі, паўнаваты маладзён з арлінай зьнешнасьцю. – У Грузіі б ужо і віна не пашкадавалі.

– Але грузіны тут не жывуць, – азваўся Дубоўка. Ціха прыўстаў і зірнуў скрозь штыкетнік. – Вось зараз знайду беларуску, і яна нас выручыць.

– А як жа ты яе пазнаеш? – усьміхнуўся Гогі.

– Пазнаю, – запэўніў Дубоўка, затым наўгад выбраў самую бялявую дзяўчынку з авальным тварыкам і ціха, каб не прыцягнуць канваірскай увагі, паклікаў:

– Дзяўчынка, як цябе завуць?

Тая нерашуча падышла да плота, зірнула зьдзіўленымі валошкавымі вачыма і, падумаўшы, адказала:

– Зіна.

– А дзе ты жывеш?

– Вось той дом, побач з вакзалам. – І тыцнула туды пальцам.

– Зіначка, калі ласка, прынясі нам вады. Толькі ня поўнае вядро, каб не было цяжка.

Зіначка не забыла і кружку… Затым схадзіла яшчэ, і яшчэ… Пакуль усе спатольна пілі, Дубоўка распытаў яе пра бацькоў. А яна ў адказ усьміхалася і шчабятала:

– Тата тут працуе. І мама… Яны казалі, што раней мы жылі ў нейкай Оршы.

– Дык, выходзіць, мы з табою землякі, беларусы! – абрадаваўся Дубоўка і падміргнуў зьдзіўленаму Гогі. – Падарунка ў мяне, каб аддзячыць, на жаль, няма. Хіба, можа, гэтакі… – ён дастаў з кішэні вучнёўскі сшытак і алоўкам акуратна напісаў на першай старонцы свой верш «О Беларусь, мая шыпшына», затым нябачна – у пустым вядры – перадаў дзяўчынцы. – Гэта табе, Зіначка. Будзь здаровай і шчасьлівай.

А праз паўгадзіны яна прыйшла з маці.

– Дзе тут мой зямляк? – бадзёра спытала жанчына, такая ж бялявая, як і дачка, толькі вочы шэрыя, стомленыя. І перадала Дубоўку важкую торбу – гасьцінец.

– Дзякуй вам, добрыя людзі... – зьніякавеў той і, уздыхнуўшы, папрасіў: – А можна, я сваёй жонцы напішу ваш адрас? Яна хутка прыедзе сюды... Дык, пакуль адшукае мяне, пабыла б у вас.

– Канешне, пра што размова...

Аднак Дубоўку накіравалі ў суседні Абанскі раён, амаль на сто кіламетраў паўночней. Там, у сяле Усьцьянск, было свабодным месца выкладчыцы нямецкай мовы, і, думаючы пра жонку, ссыльны напрасіўся туды.

Тры дні Марыя жыла ў Канску ў сям'і Зіначкі – чакала, калі з Зугдзідзі прыедзе багаж. А затым знайшла папутную «трохтонку» і з усімі рэчамі (каструлі, керасінка, прас, вопратка, коўдры) накіравалася ва Усьцьянск.

Дарога пыльная, уся ў ямах. А вакол – незвычайная чорная зямля і... сусьлікі, цэлыя сем'і сусьлікаў. Выцягваюць шыйкі і зьдзіўлена праводзяць машыну...

Пачуўшы каля чайной грузінскую мову, Марыя адразу ж здагадалася, што гэтыя два мужчыны ў памятых шапках – мужавы аднаэтапнікі.

– Даражэнькія, ці ня ведаеце вы, дзе жыве ссыльны Дубоўка, беларус... Яго з Тбілісі сюды прывезьлі, – запытала нясьмела.

– Ведаем, – абудзіліся мужчыны. – Толькі ён цяпер у лесе, на нарыхтоўцы. Давайце мы дапаможам перанесьці вашыя рэчы, а тады й пашлём па мужа...

За тыдзень яны больш-менш абжыліся на новым месцы, і Дубоўку зноў паклікалі ў брыгаду – нарыхтоўваць дровы для дзіцячага дому. Бярвёны канём сьцягвалі на лясную паляну, затым пілавалі. Калоць даво-д-зілася Дубоўку – як найбольш дужаму і сталаму з усёй брыгады (у якую сабралі школьнікаў-падшыванцаў і зусім нядошлых старых).

Перад абедам, калі ўсе сабраліся каля вогнішча, яму заманулася схадзіць да крыніцы – з паўкіламетра ад паляны, бліжэй да дарогі. Лес там быў стары, пагудасты, дарога, здавалася, ледзь праціскалася скрозь тоўстыя яліны.

І тут нечакана зусім побач – крык. Дзявочы крык:

– Ратуйце! – і праз сполашны стогн: – Пусьці мяне, пу-усьці! Не чапай...

Дубоўка адхінуў яловую лапу – і вачам не паверыў: азызлая сьпіна брыгадзіра, пад ім, нібыта тонучы ў імху – дзяўчына. Гнеўны алтайскі твар яе – зморшчаны... Стукаціць кулачкамі па

брыгадзірскім жываце, пішчыць, а гвалтаўнік, пасопваючы, ужо заломвае яе рукі…

Нічога не гаворачы, Дубоўка падняў брыгадзіра і адкінуў да яліны. Увомірг ускокнула і з крыкам зьнікла ў лесе дзяўчына (і адкуль сюды патрапіла?).

Агоўтаўся брыгадзір:

– Ты яшчэ ўспомніш пра гэта… – злосна аддыхваецца і сплёўвае пад ногі. З носа цячэ кроў – напамін ад дзявочых кулачкоў. – Яшчэ пашкадуеш!

– Я, смаркач сабачы, ужо дваццаць гадоў успамінаю, – уздыхнуў у адказ Дубоўка. – І не такіх сцыкуноў, як ты!

А праз дзень яго выклікалі ў аддзел МДБ. Налыса стрыжаны капітан перагартаў ягоную справу і прасіпеў:

– Што ж гэта вы, грамадзянін Дубоўка, рукапрыкладствам займаецеся? Ды яшчэ пры гэтым на Савецкую ўладу нагаворваеце? Як там?.. – і зазірнуў у паперы: – Дваццаць гадоў яна ў вас адабрала? Не разумееце аніяк нашай навукі. – Памаўчаў, пашкроб патыліцу – і вынес пры-суд: – Зьбірай свае манаткі й …іздуй у Почэт, каб пра цябе тут ня чулі.

…Яшчэ сто кіламетраў на поўнач, у тайгу. Па глыбокіх калдобінах, ажно машына церла карданам зямлю, ледзь-ледзь даехалі да Байкана. Далей сунуцца шафёр адмовіўся.

Тры дні прасядзелі на клунках, пакуль ня выручыў калгасьнік: прыехаў з Почэту па авёс. Аўса не раздабыў, але спадарожнікаў забраў. Рэчы па-грузілі на падводу, а самі пайшлі за канём – доўгіх трыццаць пяць кіламетраў тайгой.

Чым далей – тым больш даймаў гнюс. Усё ў перамешку: камар, машкара, макрэц… Не прысесьці, не спыніцца. Бачачы пакуты Марыі, калгасьнік даў ёй сваю сетку. І ёй ажно дыхаць стала лягчэй.

На паўдарозе конь упудзіўся, падвода наскочыла на патырчаку і перавярнулася.

Што рабіць? Разьбіраць увязаныя клункі, а затым – зноў укладваць?

І Дубоўка матнуў рукой, падлез пад воз і перавярнуў яго назад. Толькі натужна крэкнуў…

Рушылі далей. І праз тры гадзіны ўсё зьмянілася: тайга адступіла, дарога памякчэла, а сьпераду бліснула Біруса. Яе дальні бераг быў высокім, стромістым. Як зялёны брыль на ім – густыя сосны.

15.

Сваю хаціну ён праектаваў вокнамі да вады – на прасторны разлог, дзе злучаліся дзьве таёжныя рэчкі Тара і Чайгашэт ды ўліваліся ў большую – Бірусу. Калісьці ўсю тую мясцовасьць займала тайга, аднак з ростам пасёлішча яна адступала, толькі сям-там заставаліся вылежыны ды пні.

З жытлом у Почаце была цэлая бяда: людзей прыязджала шмат, і прытулку ўсім не хапала. Напачатку ён жыў у склепе, куды згрувасьцілі прывезеныя рэчы. Жонка прытулілася ў каляжанкі, школьнага завуча.

Усю восень ён пілаваў бярвёны, узводзіў зруб. Зімой, калі выпадала вольная хвіліна, на санях падвозіў да будучага жытла – напрамкі, па засьнежанай і мёрзлай рэчцы – астатнія матэрыялы: дошкі на дах і падлогу, бэлькі, кроквы, руберойд.

Адрывала і даймала работа на службе. Ісьці на лесапавал не ставала здароўя: пачала балець абмарожаная ў лагеры нага. Вось і вырашыў – па жончынай парадзе – уладкавацца ў лягчэйшае, у сталярку. Купілі інструмент, і ён пачаў вучыцца новай справе. Пачынала нават падабацца – рабіць ваконныя рамы, дзьверы. Работа з дрэвам адцягвала ад змрочнага, нават супакойвала.

Пакуль толькі мог рыхтаваць загатоўкі. Даводзіць да ладу іх не атрымлівалася. А той, хто ўмеў, не сьпяшаўся паказаць: вушлыя сталяры адварочваліся і хавалі сьпіной свае вырабы…

Але ён ня гневаўся: прыкусваў язык і крахцеў далей.

Усё зьмянілася, калі да іх прыехаў кваліфікаваны сталяр, уралец Сяргей Муратаў. Кучаравыя валасы, гусарскія бакенбарды, драўляная люлька ў белых, як сьнег, зубах.

Зранку ўсёй кампаніяй узяліся за працу – ажно пар ішоў пад столь тартакоўскай стадолы. А Муратаў спакойна расьсеўся, пахукаў на рукі – і пачаў вастрыць свае жалезкі.

Пашкрэбаў Дубоўка сваю стамеску кіпцем – і таксама палез па напільнік.

– Во гэта, браток, правільна, – заўважыў яго Муратаў. – Яны хутка рукі панабіваюць… Ды і якасьць адпаведная зробленаму. А мы іх хутка дагонім.

І праўда – работа пайшла мякчэй.

А падчас абеду Муратаў падсеў да Дубоўкі і далікатна пачаў:

– З цябе, бачу, столяр пакуль яшчэ неважнецкі. Аднак не бядуй. Вучыць цябе не магу – трэба норму гнаць, зарабляць. У мяне дачка ў інстытуце, грошы, разумееш, патрэбны… Дык ты сам за мной прыглядайся, пытай. Граматны ж, навучышся…

Навесну Муратаў падарыў яму прыгожыя дзьверы, разам з рамай.

– Вязі на сваё селішча, клямку сам уставіш.

І Дубоўка яшчэ больш прысьпешваў: выпільваў аканіцы (нават вакенца на гарышчы ўпрыгожыў), капаў гліну, тынкаваў сьцены, пераносіў на плячах па кладцы цэглу і складваў печ.

Марыя прыбягала на будоўлю толькі пасьля школы. Ды і чым магла дапамагчы? Прыносіла няхітры абед, а муж нечакана мог разбурчэцца:

– Калі тут абедаць? Ты толькі час у мяне адбіраеш!

І яна маўчала. Ды й што на тое адкажаш... А як пацяплела, пачала ўзьнімаць цаліну каля хаты – пад агарод.

Зноў сонца ўстала за старой тайгой. Сьлізганула па пярэстых хвалях сопак – і адарвалася ад небакраю.

У такі час ён прачынаўся. Распальваў печ, каб сагрэць выстуджаную за ноч хату. Яна стаяла на ўзвышку, даступна прадзімалася вятрамі, ад чаго не дападаў да панадворка гнюс і ад чаго, асабліва восеньню і зімой, было халадней.

Затым ішоў да рэчкі па ваду. Сьцішваўся, гледзячы на няўтомную плынь, і чакаў, пакуль ранішняе сонца не ўсьміхнецца ў яе лускавіньні. Вада віравала, на павароце кідалася на бераг – супакойвалася і бегла далей.

І ў тым няспынным бегу яму чулася такое:

Рака Біруса, а яна ж і Ана –
дзьве назвы для рэчак, а рэчка адна!

Над берагам скалы – адна на аднэй,
адна за адну прыгажэй і вышэй.

І вежы ўзьняліся да неба, да хмар,
на іх павырэзваў акрасы разьбяр...

Легенды і казкі – тварэньне людзей –
на хвалях сваіх аднясе ў Енісей.

А ён, неаглядны, складзе з іх адну –
пра тое, як людзі шукалі вясну...

Але цяпер – восень.

Кароткая сібірская восень прыгожая. Пачынаецца яна яшчэ ў жніўні, з яго першым марозам. Перад сьнягамі тайга сьпяшае паказаць усё сваё хараство, усе свае пракаветныя барвы-колеры: цёмна-зялёнае, залацістае, чырвонае.

Лясныя сьцяжыны перасыпаны брусьніцамі й журавінамі.

А вось купка рабіньніку – нібы папіць да рэчкі падскочыла...

Там, дзе заканчвалася строма, ён заўважыў сухую лістоўніцу, вялікую, – якая б з паўмесяца грэла хату.

Сьпешна пасьнедаў і, паколькі ў гатар ісьці ня трэба было (Почэт, як і ўся краіна, сьвяткаваў лістападаўскае сьвята рэвалюцыі, яе трыццаць пятую гадавіну), – сабраўся па лістоўніцу. «Лішняй перад зімой ня будзе...»

Лодку яны зрабілі ўдвох з Муратавым. Лёгкую, надзейную. (Сябар адпрацаваў два гады і вярнуўся на Урал.) Праз дзесяць хвілінаў – ужо на другім беразе.

Спрактыкавана зваліў лістоўніцу, абчасаў сухое непадатлівае гольле, скаціў бервяно на калодах да берагу, прывязаў да лодкі, спусьціў у ваду.

Весьлаваў з імпэтам. Раз за разам вяроўка напіналася, выструньвалася з-пад хваляў, а за ёй – як сьпіна аграмаднай рыбіны – пакорна сунулася абкораная лістоўніца.

І толькі на сярэдзіне дарогі ён зразумеў, што пакора тая – падманная... На самай плыні бервяно нечакана разьвярнулася і пачало даганяць лодку.

Дубоўка актыўней запрацаваў вёсламі, але рукі ўжо наліваліся цяжкасьцю, зьбівалася дыханьне – а бервяно не паддавалася. Яшчэ некалькі адчайна-безвыніковых хвілінаў – і лістоўніца пачала перамагаць. Пацягнула за сабой і лодку, і весьляра. І ўсё хутчэй. Па юрлівай плыні – да павароту, пад пясчаную строму, на камні й драўляныя патырчакі...

І ўсё хутчэй...

Заставалася адно: перарэзаць вяроўку і «адпусьціць» бервяно. Каб зьбіць хуткасьць, яшчэ шырэй расставіў вёслы.

Да сутыкненьня з берагам – метраў з дзесяць, і ён завесьлаваў на ўсю моц. Фантаны зеленаватых пырскаў шуганулі з-пад лодкі, вяроўка зноў напялася й выскачыла з вады.

Бервяно тыцнулася ў першы камень, сьлізганула вышэй – і застыла. Збоку ад яго дзюбнула бераг лодка – і толькі тады Дубоўка аціх і ўзьняў вёслы.

Сілаў, каб выцягнуць лодку, ужо не засталося. Ён зваліўся на пясок і доўга глядзеў, як стомна разьвітвалася з тайгою паружавелае сонца...

Толькі на зьмярканьні пехам дабраўся дамоў. А раніцай зноў вярнуўся да лодкі, прывязаў бервяно да борту і ўсё ж прыцягнуў яго дамоў – супраць плыні.

Будаўніцтва хаты забрала ўсе грашовыя запасы, давялося ўлезьці ў даўгі. А таму ён вымушаны быў напрыканцы лістапада запісацца і на тралёўку. Раніцай ссоўваў з сопак цяжкае бярвеньне і канём на невялікіх санях вывозіў-сьцягваў іх да тартака. Пасьля абеду працаваў у сталярцы.

Вытрымаў так да новага году. Пачала нямець і апухаць скалечаная нага, і ў тайгу ён перастаў езьдзіць. Стараўся на больш застацца ў майстэрні. А тут – новая прыгода: зьляцеў дыск пілы-цыркуляркі і садраў пазногаць з вялікага правага пальца ды ўсю фалангу.

Хірург хацела зусім адняць палец, але ён запратэставаў:

– Што вы! Бяз пальца я не жылец. Гэта як праклядцьце нейкае... Бацька сабе правыя пальцы адрэзаў, дык некалькі гадоў пісаць левай вучыўся. І дзед адсёк...

Выручыла сястра-медычка, дужая, у самой рукі – як ня ў кожнага мужчыны: сьцягнула рэшткі ацалелага мяса вакол аголенай косткі, а хірург хуценька прыхапіла іх іголкай.

Хоць і замарозка ўзялася, але ад болю Дубоўка ледзь не самлеў, ажно чырвоныя кругі ўвачч замітусіліся. «Старэю...», – падумалася. Агоўтаўся, калі медсястра выпісвала бюлетэнь. Паклала зеленаватую паперчыну яму ў кішэнь і зухавата ўсьміхнулася:

– Праз тыдзень – на перавязку.

Палец не загойваўся, пачаў гнаіцца, і да медычак давялося ісьці раней тэрміну. Хірурга не было, а медсястра нібыта й не пачула яго – энергічна кіўнула на газету, што закрывала ўвесь яе стол, «Вы яшчэ, мабыць, ня ведаеце...», – прашаптала загадкава, няўпэўнена.

На паўстаронкі – да болю знаёмы партрэт у чорнай рамцы, і спачуваньні, спачуваньні...

...Па дарозе дамоў ён зайшоў у прадмаг – даў круга ў лішніх пяць кіламетраў – і купіў пляшку гарэлкі.

Імпэтна, зьдзівіўшы жонку, выставіў бутэльку на стол. Зірнуў нейкімі іншымі, абуджана-памаладзелымі вачыма, урачыста сказаў:

– Нясі чаркі і закусь!

– А што гэта за сьвята сёньня? – не зразумела яго жонка.

– Сьвята. Павер, самае сапраўднае сьвята! Скапыціўся наш вялікі й дарагі…

– Хто?!

– Сталін…

16.

І ягонае жыцьцё пачало новы адлік: месяц, паўгоду, год пасьля таго… Паспакайнела, пасыцела, аднак у душы – большая трывога, чаканьне, неспакой. Разварушыўся, развулканіўся ўнутраны кратэр, узьняў замарожаную дзесяцігоддзямі крыўду, гнеў, злосьць.

Пачаў чытаць газеты – і адзначыў, як памякчэў іх тон у прадчуваньні грамадскіх зьменаў, і пачала разгарацца ў ім надзея, што ўсё вернецца, што не за гарамі і дзень ісьціны, дзень судны. Бо неба – высокае, яно ж усё бачыла. І запомніла…

А тут і ягоны наглядчык у пагонах – чалавек малады, новы – абнечаканіў:

– Вы напішыце ў пракуратуру, у Маскву, папрасіце перагледзець справу.

І ён напісаў, толькі ня просьбу, а заяву – у пракуратуру СССР. Адначасова заманілася напісаць камусьці ў Менск – знаёмаму з яшчэ тога жыцьця, нібыта наноў яго намацаць, прывязацца да яго.

А каму напісаць? І хто там ёсьць з сяброў? Бабарэкі й Жылкі, ведаў, ужо няма на гэтым сьвеце. Там жа і старэйшыя: Купала, Гарэцкі, Ластоўскі. Пушча – цягне высылку.

Сястра з Масквы дасылала беларускія газеты. У адной з іх – склад прэзідыуму Саюза савецкіх пісьменьнікаў БССР. Адшукаў у стосе папер, перачытаў: Крапіва, Броўка, Глебка, Куляшоў, Кавалёў, Лужанін, Лыынькоў, Колас, Гурскі, Танк, Шамякін. Засталіся таварышы, колішнія, па «Узвышшы». Але…

Нечакана вельмі яскрава ўспомніўся Коласаў пакой, бачаны ім трыццаць гадоў таму, і гаспадар – у зялёнай безрукаўцы, шырокіх штанах, са скрыпкай. Вакно раскрытае ў сад, і ў сад льецца тужлівая мелодыя…

І ён напісаў Коласу – коратка, узважана. Праз месяц, калі заканчваўся сакавік 1955-га, атрымаў адказ:

«Дарагі Уладзімір Мікалаевіч!

Копію Вашай заявы на адрас Пракуратуры СССР я атрымаў. Разам з гэтым пісьмом да Вас я пасылаю ад сябе як ад дэпутата Вярхоўнага савета СССР у пракуратуру просьбу, каб паскорылі разгляд Вашай зая-вы. Як паставяцца там да мае просьбы, ня ведаю. Толькі ведаю адно, што ўсе людзі, беспадстаўна рэпрэсіраваныя,

вернуцца на свае сядзібы ці аселішчы, і з іх будзе зьнята судзімасьць, і яны будуць адноўлены ў сваіх правах. Усё пытаньне зводзіцца к часу: засуджаных і высланых, як Вам вядома, многа…»

Аднак пытаньне зводзілася ня толькі «к часу». Яшчэ год таму, калі ў пісьменьніцкі саюз прыйшоў ліст ад Панамарэнкі, у якім паведамлялася пра магчымасьць вярнуць з высылкі двух пісьменьнікаў, змрочны Крапіва ўсіх астудзіў:

– Як сядзелі, хай так і сядзяць…

Але пра тое Дубоўка яшчэ ня ведаў. Ня мог ведаць. Сэрца прагнула суцяшэньня, пераменаў. Ён хацеў пабачыць Беларусь, Менск, аднак дазволу на выезд не атрымліваў. І даводзілася чакаць – упарта, цярпліва. І пісаць: у Вярхоўны суд БССР, у Вярхоўны суд Чувашскай АССР.

Першая радасьць і перамога прыйшлі з Чабаксараў. Ён глядзеў на даведку, тлустую пячатку пад ёй – і адчуваў, як ажываў нават нямы парэзаны палец, прыціскаючы доўгачаканае:

«РСФСР. Верховный суд Чувашской АССР.

Отдел Суд. кол. <…>

Настоящим извещаем, что постановлением Президиума Верховного суда Чувашской АССР от 23 мая 1956 года постановление спецтройки при НКВД Чувашской АССР от 16 ноября 1937 года в отношении гр. Дубовко Владимира Николаевича, рождения 1900 года <…>, отменено и дело производством прекращено за недоказанностью предъявленного обвинения».

– Зьбірай, Марыля, у дарогу, – сказаў шэрхлым – як не сваім – голасам. А ў вачах, хоць і стрымліваўся, бліснулі сьлёзы…

І зноў была сібірская дарога, якая ўпершыню ўспрымалася з радасьцю: семдзесят кіламетраў да Абану – таёжнай гразёю, чацьвёра сутак на папутным леспрамгасным гусенічніку, далей шашой да Канска, адкуль ужо ішла ў божы сьвет чыгунка…

У Канску вырашыў адшукаць сям'ю Зіначкі. Купіў ёй падарунак і спытаў у аднаго з чыгуначнікаў:

– Не падкажаце, дзе жыве сям'я машыніста Каткоўскага? У іх яшчэ дачка ёсьць, Зіначка…

– Вы ім радня? – зьдзівіўся рабочы.

– Не, проста знаёмы.

– Ведаеце, няма Зіначкі. Ужо гадоў два як няма… Патанула ў рэчцы, у піянерскім лагеры…

Хадзіў вакол яе хаты, ня маючы моцы сабрацца з думкамі. Потым доўга плакалі з Зінчынай маці над невялічкай магілкай.

Ён – па-мужчынску ціха, яна – наўзрыд…

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

…Калі б мой друг ня згас
і за жыцьцё пазнаў бы ліха меней,
ня горш бы ён тварыў за многіх з вас,
ня горшы быў бы ў вашым пакаленьні…

*Уладзімер Дубоўка.*

1.

Менск – праз тры дзясяткі гадоў.

Вакзал. Гарадскія вароты… Усё новае, незнаёмае. Здаў у камеру захоў-ваньня свой хатуль з ватоўкай.

Вакол сонца, цяплынь, над асфальтам ластаўкі гарэзяць… Людзей поў-на, і ён – сярод іх…

Сонца залівала і пакойчык суда, грэла тоўстыя, салатавага колеру, сьцены, патыліцу прыязнага акулярыка – памочніка суддзі.

Акулярык уважліва перагартаў некалькі папак, знайшоў патрэбнае, нават, здалося, абрадаваўся:

– Ёсьць. Вы ёсьць у сьпісах рэабілітаваных… – Акуратна ўпісаў на асобную паперыну прозьвішча наведніка, нумар справы, расьпісаўся. – Ідзіце з гэтым у сакратарыят, там вам зробяць даведку.

Будынак суда пакідаў як ап’янелы. Думкі блыталіся, радасьць нечакана зьмянялася абурэньнем: «Дваццаць сем гадоў пакут, абразаў, гвалту, болю, маўчаньня… І пасьля – так проста: вы ёсьць у сьпісах… А тысячы, мільёны, хто застаўся там?! Навечна. Хто ім адкажа?..»

Цяпер – у Саюз пісьменьнікаў, як раіў Колас. Тут недалёка, на Энгельса…

Старшыня – Броўка – быў на месцы. Спакойна ўсьміхнуўся, нібыта ўжо чакаў, выйшаў з-за стала, першым працягнуў руку.

– А барада… А барада якая! – прыязна прыцмокнуў і запрасіў сесьці.

– Ды насядзеўся я ўжо, братка – ад трыццатага і да сёньня, – хацеў пажартаваць Дубоўка, але ўбачыў, як скамянеў Броўка: бадзёры, загарэлы твар, акуратна падстрыжаныя і ўкладзеныя на

прабор валасы, толькі дзьве неспакойныя маршчыны, вертыкальныя, над носам, паміж брывамі. Добры пінжак, гальштук пад колер кашулі.

А ён – зморany ўшчэнт дарогай. Твар парэпаны, у невылечных плямах ад таёжнага гнюсу, сьсівелы, вочы ўпалі пад высокія бровы, і дачасныя маршчыны, многа маршчынаў – як сьляды жыцьцёвых бадзяньняў, як памятныя лёсавыя насечкі.

«Усё ж добра, што жонка ўгаварыла мяне прыадзецца. Нават казу не пашкадавала, прадала, каб мне касьцюм сякі-такі сшыць...», – падумаў Дубоўка мімаходзь і пачаў з іншага:

– Дык што ў нас на Парнасе новага?

– Аднаўляемся, адбудоўваемся пацііху. Друкуемся, – і паказаў некалькі кніг, што ляжалі на стале. Памаўчаў, пакуль Дубоўка разглядаў іх, а затым падрахаваў: – Трэба і табе да нас паступаць... Глядзіш, і з кватэрай дапамаглі б, і грашыма. Ды і друкавацца пачаў бы.

Усё гэта для Дубоўкі прыходзіла як з іншага сьвету. У грудзях нечакана запякло, у горле перасохла. Кашлянуў – і як не сваім голасам:

– А гэта магчыма?

– Ну канешне. Вось нядаўна Звонак аднавіўся. Трэба тры рэкамендацыі, бо ты ж не ўступаў, тады, у трыццаць чацьвёртым... І даведкі аб рэабілітацыі. Па кожнай справе. – Броўка ніякавата крутнуўся на крэсьле. – Сам разумееш, такі парадак...

– Так-так, – Дубоўка нярвова прыраўняў бараду. – Мне б яшчэ з хлопцамі пабачыцца...

– З кім?

– А хто яшчэ мяне памятаць можа... З жывых... Па «Узвышшы» колішнім. Крапіва, Лужанін, Глебка...

– Гэта мы ўраз! – абудзіўся Броўка. – Адно Глебка цяпер у ад'езьдзе, на сэсіі ААН, у Нью-Йорку. – Прысунуў тэлефон, хутка набраў нумар. Прапішчэлі тры доўгія гудкі, і за імі прахрыпела гучнае «Алё». – Дабры-дзень, Кандраце! – Броўка ўсьміхнуўся. – У мяне госьць, госьць здалёку і з вялікай барадой. Хоча пабачыцца з табою...

– А што за госьць?

– Дубоўка.

– О, прыехаў... – і нечакана доўгая паўза. А затым менш бадзёрае: – Ты ведаеш, аніяк цяпер не магу. Нарада ў Акадэміі. Разумееш... Ды і юбілейныя клопаты даймаюць...

Броўка паціснуў плячыма, пабарабаніў па стале пальцамі, затым – як у апраўданьне – сказаў:

– Так, Кандрату ж праз колькі дзён шэсьцьдзесят стукне. Яму народнага зьбіраюцца даць…

А затым набраў новы нумар. Зноў гудкі і «Алё» – ужо Лужанінскае.

– Прывітаньне, Амбросьевіч. – І слова ў слова тое ж: пра далёкага госьця і яго вялікую бараду.

– Ён перад табой? – у пытаньні насьцярога.

– Так.

– Калі ласка, перадай маё вітаньне. А пра сустрэчу… Папрасі на іншы раз. Цяпер аніяк не выпадае…

Броўка паклаў слухаўку і разьвёў рукамі.

– Можа, сходзім у сталоўку, перакусім, па кроплі возьмем? – прапанаваў, каб прыхаваць ніякаватасьць.

– Ды не, дзякуй, – усьміхнуўся Дубоўка. – Прайдуся па горадзе, а там зноў на вакзал, у дарогу.

– А з грашыма як? – Броўка ўстаў, каб правесьці госьця.

– Ёсьць, ёсьць грошы, не турбуйся. – Паціснуў старшынёву руку – і запытаўся ўжо ад прачыненых дзьвярэй: – А Крапіва дзе цяпер працуе?

– У Акадэміі навук, дырэктар Інстытута мовазнаўства.

– Ага-ага, – Дубоўка хітнуў галавой і разьвітаўся яшчэ раз.

Да вакзала вяртаўся праспектам – сонна, нясьпешна. Надзіва проста купіў білет да Краснаярску, з перасадкамі, – і ажно спалохаўся: «Гэта ж зноў – тысячы кіламетраў…»

Перакусіў у вакзальнай сталоўцы і сядзеў на перонная лаве. Чакаючы цягнік, скурыў пачак «Беламору» (да тытуню прывучыўся яшчэ ў Мінгрэліі). І з кожнай новай папяросай на лоб успаўзала новая маршчыніна, а на вачах глыбела продумна-журботная смуга…

Вярнуўся разьбітым, зьняможаным. Суткі спаў, забыўшы пра ўсё на сьвеце. Прытрызьніў сябе маладым – у Маскве, студэнтам Брусава. Разам з ім вучацца Бабарэка, Пушча, Жылка. Вялікая бібліятэка, безьліч кніг. І ўсе – у крывава-пунсовых вокладках.

Калі прачнуўся і сеў піць гарбату, прыгадалася брусаўскае: «Острым серпом, безболезненно режущим, Сжаты в душе и восторг и печаль…»

Жонка была на працы. Узяў адзін з яе сшыткаў, пачаў пісаць сваё:

Колькі сярпом тым бязьлітасна зжата
нашых дзянёчкаў, гадочкаў і вёсен,
покуль прыйшла, не спытаўшыся, восень…

Задумаўся, перагарнуў старонку – і тэлеграмна напісаў Пушчу:

«Братка, Язэп, я быў у Менску ў Вярхоўным судзе, дзе атрымаў паперку аб рэабілітацыі. Я там бачыў і тваё прозьвішча. Так што зьбірайся дахаты.

Я прадаю ўсю сваю маёмасьць: хату і ўсю гаспадарку, і едзем у Маскву. Буду праязджаць праз Мурам, калі здолееш, то спаткай мяне, пагаворым хоць некалькі хвілінаў…».

2.

Вырвацца з наседжанага і зробленага сваімі рукамі гнязда – няпроста. Купцоў на гаспадарку знайшлі хутка: Почат рос, абзавёўся электрастанцыяй, клубам, новымі сем’ямі. З сабой пакідалі толькі самае неабходнае.

– Вось каб наш садок забраць, – ужо некалькі разоў загаворваў Дубоўка і зноў абыходзіў, разьвітваючыся, свае саджанцы.

– А з гэтым што рабіць будзем? – паказвала жонка на цэлую скрыню рубанкаў, фуганкаў, стамесак.

– Іх я не магу пакінуць! – гаспадар быў катэгарычным. – Забяром…

Зноў паўмесяца дарогі, шмат перасадак. У Мурам прыехалі з вялікім спазьненьнем, ноччу. Калі Дубоўка выйшаў на пусты перон – вачам не паверыў: дачакаўся-такі яго Пушча!

Толькі абняліся – а цягнік адыходзіць.

– Ну нічога, цяпер прасьцей пабачыцца будзе. Дзякуй, што сустрэў, – Дубоўка дагаворваў ужо з вагону.

У Маскве, пакуль зьнялі жытло, жылі ў невялічкай сестрыной кватэры. На другі ж дзень паехалі на станцыю Вярбілкі, на магілку Альгерда. Магілка прыбраная (прыглядала сястра), побач – клёнік у сілу ўбіраецца.

– Лепш бы я за яго тройчы з жыцьця пайшоў, – толькі й змог вымавіць Дубоўка за ўсю тую паездку…

Другога сьнежня ён быў у Менску. Узяў і натарыяльна заверыў новыя даведкі з Вярхоўнага суда, паводле якіх адмяняліся (за недаказанасьцю абвінавачваньняў) і пастановы ад 1931-га і 1935 гадоў, і ўжо з імі пайшоў у Саюз пісьменьнікаў.

З Броўкам не пабачыўся, затое была новая сустрэча з Алесем Якімовічам, колішнім знаёмцам – па яшчэ дваццатых. Дубоўка некаторы час узначальваў рэдакцыю дзіцячага часопісу «Піянер Беларусі», а Якімовіч быў яго супрацоўнікам.

І вось – шчыра ўзрадаваўся, абняў, пасадзіў за свой стол (Якімовіч працаваў у саюзным апараце).

– А мы ўжо занепакоіліся, дзе гэта ты дзеўся, – крактануў і паклаў перад Дубоўкам аркуш паперы. – Пішы аўтабіяграфію, а тут… – дастаў з шуфляды друкарскі разлінееены бланк, – узгадай сваё апублікаванае. – І падсунуў асадку.

Дубоўка размашыста ўпісаў асноўнае з адвучанага-адпрацаванага, а калі дайшоў да 1930-га, спыніўся. Зірнуў на Алеся, нібы жадаючы штосьь спытаць, абмакнуў пяро – і з абзаца: «У 1930 г. выбыў з Масквы на Усход СССР (даведкі № 1, 2, 3). На цяперашні час працую рабочым, хварэю (інвалід II групы)». Ніжэй – дату і подпіс.

– Тут яшчэ, кажуць, тры рэкамендацыі патрэбны, – адзначыў, як між іншым.

– Так. Табе, разумею, нязручна. Я сам дагаваруся. Адну сам напішу, – адказаў Алесь. – А дзьве… Глебку і Лужаніна папрашу. Толькі пакінь адрас, каб выклікаць на прыём.

А потым Якімовіч вызваўся праводзіць на вуліцу.

– Я рады, што ўсё з табой на свой круг паварочваецца. – расшчырыўся ён па дарозе ў гасьцініцу. – Цяпер галоўнае табе – агледзецца і пачаць зноў пісаць. І не зважаць на розныя старынкі…

– Гэта ты пра што? – не зразумеў Дубоўка.

– Ды так… Яшчэ ня ўсе тут старое павыкідвалі з галоў… Вось, скажам, Крапіва. Нядаўна кнігу выдаў, а там, у каментарыях, яшчэ берыеўскія характарыстыкі на цябе, Пушчу ды іншых. Мы яму: «Можа зьняць гэта? Яны ж рэабілітаваныя». А ён: «Гэта яшчэ паглядзім!»

– Канешне паглядзім! – упэўнена ўсьміхнуўся Дубоўка, чым заўважна зьдзівіў суразмоўцу.

Якімовіч стрымаў слова: напісаў рэкамендацыю, папрасіў іншых, а на Новы год, віншуючы Дубоўкаў, паведаміў, што паседжаньне прэзідыума праўленьня Саюза пісьменьнікаў адбудзецца ў сакавіку. Ажно ў сакавіку…

А іншыя «рэкамендатары» цягнулі да апошняга.

«Ул. Дубоўка выступіў у беларускай літаратуры ў пачатку 20-х гадоў. Ужо першыя яго вершы звярнулі на сябе ўвагу сваёй арыгінальнасцю і сапраўднай мастацкасцю. Неўзабаве, калі з друку выйшлі кнігі паэта «Строма», «Трысцё», «Там, дзе кіпарысы», «Credo», «Наля», паэмы «Браніслава», «Кругі» і рад іншых, творчасць Ул. Дубоўкі набыла ўсеагульнае прызнанне. Больш таго, многія паэты 20-х гадоў пачыналі сваю работу пад безумоўным уплывам паэзіі Ул. Дубоўкі…»

Гэта з рэкамендацыі Глебкі, датаванай 11 сакавіка 1958 году. Глебкі, якога ў тых, 20-х, апекаваў ва «Узвышшы» Дубоўка, якога, маладзейшага на пяць гадоў, вучыў. І, калі ня мог пабачыцца, дасылаў лісты, – як гэты, з Масквы, пасьля выхаду ў 27-м Глебкавай кніжкі «Шыпшына»:

«...З усіх іншых зборнікаў "Шыпшына" вылучаецца цэльнасьцю і апрацаванасьцю. Гэта плюс. Мінусамі можна было б лічыць некаторыя ўплывы, у тым ліку і мой. Пра іншыя хібы пагаворым у Менску. А зараз не магу не падзяліцца з табой сваімі пажаданьнямі адносна далейшай тваёй працы. Апрача вывучэньня тэарэтычнай літаратуры <...> старайся больш чытаць...».

Але гэта было ў тым жыцьці, нават па-за-тым, а ў гэтым яму пісаў рэкамендацыю на права быць прафесійным пісьменьнікам не ягоны вучань, а савецкі акадэмік:

«Вершы і паэмы Ўл. Дубоўкі насычаны глыбокім пачуццём, арыгінальныя і дасканалыя па сваёй форме. Яны былі прысвечаны станаўленню і ўмацаванню савецкай рэчаіснасці, у іх паказвалася барацьба працоўных Заходняй Беларусі супраць белапанскай акупацыі<...>, адлюстроўвалася жыццё ў старыя дарэвалюцыйныя часы...».

Аднак улашчаны акадэмік ня мог забыць і напісаны ім, яшчэ не акадэмікам, артыкул «Нацдэмаўшчына, замаскаваная марксісцкай фразай», апублікаваны тады, калі Дубоўка чакаў прысуду ў турме на Валадарскага: «Творчасьць Уладзімера Дубоўкі, ад першага зборніку "Строма" і да апошняга так званага "комбайну" "Штурмуйце будучыні аванпосты", зьяўляе сабою адзіны і просты шлях ад нацыяналістычных момантаў да закончанага контррэвалюцыйнага беларускага нацыянал-дэмократызму», ня мог забыць, а таму і зрабіў (на ўсялякі выпадак) у рэкамендацыі агаворку:

«Праўда, у некаторых творах, асабліва паасобных лірычных вершах паэта(,) часамі адчуваўся нейкі невыразны налёт смутку, а некаторыя творы канца 20-х гадоў мелі і сур'ёзныя ідэйныя недахопы. Аднак пры ўсіх гэтых ідэйных хістаннях асноўная творчая лінія была накіравана на жыццесцвярджэнне савецкай рэчаіснасці...»

«Ну, гэта ўжо штосьці, гэта ўжо не прыклейваньне мне, як калісьці, Кайзера, Пілсудскага ды Балаховіча... – думалася Дубоўку, чытаючы рукапісную рэкамендацыю колішняга сябра. – Толькі ж да чаго ты, Пятро, сам дакаціўся з гэтай савецкай рэчаіснасьцю... Перагартаў я тваe апошнія зборнікі, і як ты з гэтым жыцьмеш? Там жа праз старонку – песьня Сталіну, праз старонку – гімн яму...»

Лужанін напісаў рэкамендацыю – па-расейску – 12 сакавіка – у дзень паседжаньня прэзідыума. І Дубоўка прачытаць наступнае ня мог:

«Дубовка Владимир Николаевич – автор многих известных книг и поэм, зрелый мастер стиха, знаток народного языка, отличный переводчик Пушкина, Байрона... Стихи Дубовки свидетельствуют о большом поэтическом даровании, он тонкий лирик и мастер эпических форм. Поэт успешно разрабатывает разнообразные темы, произведения его отличаются яркостью поэтической мысли, полновесными средствами изображения, цельностью и завершенностью построения... Все это дает полное основание рекомендовать товарища Дубовку В. Н. в члены Союза Советских писателей».

Зрэшты, тое ж сказаў Лужанін і на прэзідыуме, а Дубоўку, як ні адганяў з памяці, уваччу паўстала тая старая рэзалюцыя, якой трос перад ім на допыце сьледчы, тая сьвежая, пахкая друкарняй, «Зьвязда»:

«Патрабуем жорсткай кары агентам міжнароднай буржуазіі ў Савецкай Беларусі... Беларускі нацыянал-дэмакратызм... пранік і ў літаратурнае згуртаваньне “Узвышша”. У асобе яго былых лідэраў – Бабарэкі, Пушчы і Дубоўкі... ён стараўся пашырыць свой уплыў на ўсё згуртаваньне... Мы вітаем дбайнага вартаўніка рэвалюцыі – АДПУ, які выкрыў контррэвалюцыйную нацдэмаўскую арганізацыю...»

«Вось бачыш, – крыва ўсьміхаўся сьледчы, – гэта гавораць твае сябры, усё «Узвышша», а ты бычышся... Мы ж павінны рэагаваць на такое...»

А пад той юдаўскай «рэзалюцыяй» першы подпіс – Лужаніна, і сярод прысутных тут, на прэзідыуме, – Крапівы і Глебкі. Усіх, хто вырас з «Узвышша» і абышоў лагер...

Дубоўка ціха гладзіў сваю маісееўскую бараду, спакойна пазіраў на прысутных і думаў па-біблейску: калі б’юць па адной шчацэ, падстаўляй другую.

Прэзідыум закончыўся хутка. Аднагалосна пастанавілі прыняць Дубоўку ў члены Саюза пісьменьнікаў БССР і выдаць яму матэрыяльную дапамогу ў памеры шэсьць тысячаў рублёў – «у сувязі з рэабілітацыяй» (у сьпісе рэабілітаваных беларускіх пісьменьнікаў, зацьверджаным у ЦК, яго прозьвішча на той час стаяла апошнім – трыццаць сёмым).

...А летам агульны зьезд Саюза пісьменьнікаў абраў яго ў праўленьне.

Здавалася б – пачынай усё спачатку: пішы, узвышайся. А дзе ўзяць на тое ранейшы імпэт, ранейшыя сілы?

Ды і сябе – ранейшага…

3.

І так, ён вярнуўся на Беларусь. Вярнуўся пісьменьнікам. Праз дваццаць восем гадоў. Пісьменьнікам бяз… кніг. Бо ўсе яго кнігі за гэты час ці зьнішчылі, ці перадалі ў сьпецсхоў. Куды патрапілі і колішнія часопісныя публікацыі.

Таму трэба зьбіраць кнігу. Да лета ажывіў напісанае ў 20-я – што па захаваным, што па памяці. Назьбіралася і сьвежага. Напісанае ў высылцы, каб ня муляла вока цэнзарам, падпісаў 1958 годам… Перадрукаваў і па-слаў у Менск у выдавецтва.

Не было задаволенасьці. Адчуваў, што ня той голас, ня тыя мелодыі ў яго цяперашняга. Не дрыжаць, не трымцяць струны.

Пачаў чытаць іншых, розных, запоем. І апякло Шэксьпірава, яго 66 санет – у перакладзе Барыса Пастарнака:

Измучась всем, я умереть хочу,
Тоска смотреть, как мается бедняк,
И как шутя живется богачу,
И доверять, и попадать впросак…

Паехаў у бібліятэку, замовіў арыгінал. Перачытаў па-ангельску. І па дарозе назад прыйшло сваё, ад Шэксьпіра ўзятае і ў сабе адпакутаванае:

Зьнябыўся я. Памерці б нават рад,
Каб не глядзець на ўсю няпраўду ў сьвеце,
Дзе кпіць з людзей і зьдзекуецца кат,
Дзе ў рызманы адзеты праўды дзеці…

А летам прыйшоў адказ з выдавецтва: прыязджайце пагаварыць наконт кнігі.

Адразу ж і набыў білет у Менск. Якраз і супадала добра: клікаў у ванд-роўку па Палесьсі паэт Васіль Вітка, – як галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка» арганізаваў і машыну.

У выдавецтве ж імпэт ягоны патух. Рэдактарам кнігі паставілі Алеся Кучара – крытыка-аглабельшчыка з кагорты Бэндэ. Хоць і далікатна, але пачалося: гэта адкласьці, гэта зьнімем, тут

праясьніць... Не ўваходзіла ў выбранае многае з найбольш дарагога, любімага. А многае трэба было з'іначваць.

– Вы дапрацуйце, спакойна дапрацуйце, дабаўце сюды пра сьветлае, сёньняшняе, – ненавязьліва шаптаў рэдактар. – Мы ж не прысьпешваем, галоўнае – вынік.

– Ды мне ўжо і патрэбна сьпяшацца, даганяць учарашняе трэба. – Дубоўка напусьціў на лоб хмурасьці.

– А яшчэ прадмова патрэбна. Будзе добра, калі Глебка напіша. Ён жа ведае...

– Хай напіша, толькі лепш вы з ім – ад выдавецтва – дамоўцеся.

– Добра...

Ад сказанага да зробленага – не адзін крок. Да канца году ўжо і набор зрабілі, і карэктуру далі, а прадмовы не было.

Давялося зноў пасьля Калядаў ехаць – улагоджваць справу.

Ды няма ліха без дабра! Толькі сеў у купэ, – адчыняюцца дзьверы, заходзіць пара – ён і яна, ужо немаладыя, ціхія. Прывіталіся, скінулі паліто, прыселі. Твар у твар. Мужчына насупраць. Вучоная залысіна, валасы зачэсаны набок, густыя бялявыя бровы, вочы як з мінулага глядзяць...

– Гаўрыла, ці ты?! – Дубоўка ажно прыўстаў ад сподзіву, плечуком выцяўся аб адкідную палічку.

А мужчына зьніякавеў, усьміхаецца, хоць і вачам сваім веры даць ня можа.

Вось так і сустрэліся, праз трыццаць гадоў, колішнія сябры-таварышы – Дубоўка і Гаўрыла Гарэцкі (з жонкай Ларысай).

– Божа мой!.. Гэта ж колькі я вас ня бачыў?! – працягваў, усьміхаючыся, Дубоўка. – Дзе вы, што вы, як вы? А прыгожыя, амаль маладыя!

– Ну, ты ўжо не загаворвайся... Хутка абодвум па шостым дзясятку стукне. І палова гэтага тэрміну, як і цябе, дзе толькі ня кідала! – Гаўрыла зірнуў на дзьверы купэ, шчыльней прычыніў іх – і загаварыў цішэй: – З трыццатага, пасьля арышту – Салаўкі, Беламорканал, наёмны геолаг, капаў шурфы... Далей – Туломская ГЭС, Кама... У трыццаць восьмым узялі па-новаму. Салікамск, Урал... А ў сорак шостым абараніў доктарскую, хоць судзімасьць тры гады таму як зьнялі...

– А як хлопцы твае?

– О-о... Дзе яны толькі з Ларысай не былі! Сыны ў мяне малайцы, шукаюць сябе. А ты ж як?

Дубоўка ўздыхнуў:

– Ды амаль як і ты... Што тут расказваць... Нікога, выпадкам, з нашых ня бачыў?

– З Ганнай Бабарэкавай перапісваюся. Яшчэ з вайны. Яна ў Кіраве тады жыла, разам з Лёляй, Максімавай жонкай. І вось – ні Адама Бабарэкі, ні Максіма Гарэцкага... І ты – як скрозь зямлю... Вясной сорак трэцяга, калі я апынуўся ў Маскве, заходзіў да тваіх бацькоў, але нікога з іх не сустрэў. Пісаў, але й адказу не было. А тут як хто нас знарок зьвёў!..

На радасьці яны схадзілі ў вагон-рэстаран па каньяк і прагаварылі да самага ранку. І нібыта з тымі – маладымі – гадамі сустрэліся.

І нібыта самі памаладзелі...

У траўні «Выбранае» падпісалі ў друк, а ў верасьні ён ужо трымаў у руках кнігу – у сіняй каленкоравай вокладцы. У гасьцініцы – ноччу – перачытаў усю. Было і адчэпнае, было і жывое. Хоць бы гэтая нізка – «Чакае ля берага човен мяне». З дарагім прысьвячэньнем «Маёй Марылі».

Куды ні паглянь – над красою краса,
да восені хіліцца лета.
І кветы ў расе, і на кветах раса,
і ў сэрцы паэтавым кветы...

Ды і хоць бы дзеля прадмовы варта было выдавацца, дзеля падобнага: «З адлегласьці часу відаць, што крытыкі, у тым ліку і я сам, у сваіх ацэнках паэзіі Ул. Дубоўкі часта перабольшвалі адмоўныя яе моманты...».

Ох ужо гэтая адлегласьць часу!
І ўсялякая адлегласьць...

У адзін са сваіх наездаў у Менск Дубоўка завітаў у рэдакцыю часопі-су «Полымя». Выслухаў навіны, а на пытаньне «Што ў Вас новага?» не адказаў – а дастаў з кішэні кнігу «Поэзия Советской Белоруссии» і прапанаваў азнаёміцца «палымянцам». Кніга – манаграфія Залескай – была нядаўна выдадзеная пад грыфам «Інстытут сусьветнай літаратуры Акадэміі навук СССР». Закладка – на месцы, дзе «аналізавалася» паэзія Дубоўкі, беларускага буржуазнага нацыяналіста, асуджанага за... Словам, усе высновы з пастаноў 30-х гадоў. Нібыта й не зьмянялася нічога, нібыта й рэабілітацыі не было...

– Уладзімер Мікалаевіч, якраз заўтра на секцыі крытыкі ў Саюзе пісьменьнікаў будзе абмеркаваньне гэтай кнігі. – Загарэўся малады су--працоўнік «Полымя» і асьпірант Інстытута літаратуры Анатоль Клышка – адкрыты прыязны твар, шчырая ўсьмешка; паправіў акуляры на далікатным носе і дадаў: – Гэта доктарская дысертацыя Залескай… Я на секцыі заўтра выступацьму. Запрашаю і вас – прыходзьце!

На секцыю крытыкі ў Саюз пісьменьнікаў сабраўся амаль увесь літаратуразнаўчы «бамонд»: палова Інстытута літаратуры, акадэмікі, дактары. Выступілі Перкін, Пшыркоў. Водгукі цалкам станоўчыя. Усе схіляліся да ўхвальнага заключэньня і перадабарончай рэкамендацыі…

Нечакана ўсхопліваецца «палымянец» Клышка:

– Праца Залескай ня можа ўспрымацца пасьпяховым і завершаным дасьледаваньнем. У ёй шмат прымітыўнага! Да прыкладу, у «Баладзе пра ваўка» Аркадзя Куляшова паэтычны вобраз трактуецца рэалістычна! А вазьміце ейныя абвінавачваньні некаторых паэтаў… Уладзімера Дубоўкі, у прыватнасьці… Гэта ж высновы яшчэ сталінскіх гадоў!

У пакоі – мёртвая цішыня. «Акадэмікі» паўгіналі галовы і штось разглядаюць у сваіх запісах…

І тут узьнімаецца Дубоўка. Агледзеў усіх уважліва, уздыхнуў – і мовіў спакойна:

– Таварышы! Можа, тут наш малады сябар занадта абвастрыў праблему… Гэта ўласьціва ўсім маладым. Кніга ж вартая добрых водгукаў. Яна папулярызуе нашу літаратуру на абсягах усяго Савецкага Саюза…

Пасьля такіх словаў праца секцыі зноў ажыла…

Пагаршалася здароўе. Балела сьпіна, надакучаў страўнік. Дубоўка пачаў хутка стамляцца. Знаёмыя параілі аформіць дакументы на персанальную пенсію.

«Што ж, працаваў ня мала. Чаму ж не?»

У цэнтральнай паліклініцы Літфонду СССР выпісалі медзаключэньне: «…наблюдается… с 1960 года по настоящее время по поводу кардиосклероза с хронической коронарной недостаточностью, общего атеросклероза, церебросклероза». Да яе паклаў даведку з ЖЭКу, сабраў з тузін даведак з выдавецтваў – аб ганарарах… Атрымаў выпіску з пратаколу пасяджэньня прэзідыуму праўленьня СП БССР за подпісам намесьніка старшыні Івана Шамякіна: «1) …устанавіць творчы стаж пісьменьніка У. Дубоўкі з 1923 году. 2)

Хадайнічаць перад Саветам міністраў БССР аб устанаўленьні пісьменьніку Дубоўку У. М. персанальнай пенсіі».

У сярэдзіне жніўня 1962 году сабралася адпаведная саўмінаўская камі-сія, якая вынесла сваю пастанову: «Хадайніцтва аб устанаўленьні персанальнай пенсіі рэспубліканскага значэньня тав. Дубоўку У.М. адхіліць».

«Адхіліць дык адхіліць. Шкада толькі патрачанага часу…»

А на стале яго ціхай кватэркі-«паўтарачкі» ў Цьвярскім-Ямскім завулку – недапісаныя казкі, накіды аўтабіяграфічнага нарысу. Ды і Шэксьпіравы санеты – узьнёслае і прачулае спадужніцтва з класікам…

Перад самым Новым годам – радасьць. За «Палескую рапсодыю» яго ўганаравалі літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы. Дыплом урачыста атрымаў ад старшыні Саўміну Кісялёва.

СПэшнае начальства адразу ж загаварыла пра магчымасьць выданьня двухтомніка.

І пачаў жыць двухтомнікам, зноў адшукваць і аднаўляць колішняе, парадкаваць цяперашняе.

4.

Для яго, звыклага чакаць доўгімі – галоднымі і халоднымі – гадамі, новыя месяцы праходзілі незаўважна. Да двухтомніка зрабіў прадмову Вітка, ён жа і патэлефанаваў тады ў менскую гасьцініцу:

– Мне здаецца, Мікалаевіч, ты засядзеўся ў сталіцах… Тут адзін мой зямляк, настаўнік, запрашае нас да сябе ў школу, на Случчыну. Можа, пракоцімся?

– А чаму ж не?

Настаўнік аказаўся добрым маладзёнам, багатым на ўсьмешку, з шчырым адкрытым позіркам. Ды і прозьвішча меў адмысловае – Дайліда.

Яны паволі выязджалі з гораду на чырвоным «Масквічы», за рулём – малады сябар.

– Гэта ж трэба: такое прозьвішча адхапіць… – нечакана загаварыў, нібы правяраючы, Дубоўка. – А вы ведаеце, даражэнькі, адкуль і з чаго яно пайшло?

– Канешне, – шафёр трымаўся ўпэўнена. – Ад дойліда. Дойлід – па-руску зодчий.

– Так! – ажывіўся Дубоўка. – І слова, і прафесія харошыя! У 20-х гадах я слова «дойлід» у друку пачаў ужываць адным з першых. Дык што вы думаеце? За гэта на мяне наскочылі некаторыя крытыканы… Маўляў, старую сьмярдзючыну я папулярызую. І што дзіўна: найбольш злосна накінуўся тады Алесь Дудар, паэт і крытык, які меў

прозьвішча… Дайлідовіч! Такое ж, як ваша, толькі з «овіч». – Дубоўка кіўнуў галавой і працягнуў: – Я ўпэўнены, што і Віктар Дайліда піша…

– Так-так, – адазваўся з задняга сядзеньня Вітка. Толькі ён на прозу націскае. – Слухай, – і патрос Дубоўку за плячук. – А ці ня сумна табе ў Маскве? Перабіраўся б на радзіму. Весялей было б!

– Так то яно так… – Дубоўка задуменна пакамячыў у кулаку бараду. – Толькі ж там спакайней ад некаторых маіх колішніх таварышаў, з якімі аніяк не магу дзяліць адно паветра. Ды і да магілкі сына бліжэй…

Сустрэча ў школе была запамінальнай. Спадабаліся вучні – актыўныя, кемлівыя, усе добра гаварылі па-беларуску.

Назад выбраліся пад вечар. «Масквіч» пачаў капрызіць.

– Не хвалюйцеся, – супакойваў кіроўцу Дубоўка. Не вялікае бяды, калі і станем. Колькі тут да таго Слуцку! Ногі ж ёсьць. Як каму, а мне не прывыкаць: я на сваіх дзьвюх паўтайгі абхадзіў…

Ледзь-ледзь дасунуліся да слуцкага аўтавакзалу. Госьці ўзялі таксі, разьвіталіся.

– А што гэта за бацюшка, з барадой? – ціха спытаў таксіст у Дайліды.

А той прыязна ўсьміхнуўся і ўдакладніў:

– Так, бацюшка… Літаратурны бацюшка…

5.

Пошта прынесла – нібыта з мінулага – ліст ад Анастасіі Паўлаўны Маркавай, па мужы даўно ўжо – Хмары.

Колішняя Наля жыла ў Ленінградзе, дзе ў 1967-м выйшаў у перакла-дзе на рускую томік яго вершаў і паэмаў.

І патрапіў ёй на вочы той томік.

І вось адшукала адрас. А да пісьма далучыла верш.

«Осенняя мелодия звучит в душе моей…»

Аднак песьняй Дубоўкава душа ўжо не магла адазвацца: стрымана падзякаваў за ўвагу – і выслаў з аўтографам выданьне сваіх перакладаў Шэкспіра…

Спраўна прыходзілі беларускія газеты і часопісы, лісты з Беларусі. Сярод іх – і віншаваньні з выхадам двухтомніка.

Разгарнуў аднойчы «ЛіМ» – а там артыкул «Імя яго не забыта», артыкул пра Жылку, падпісаны… ягоным прозьвішчам, ягоным ініцыялам. У фальшыўцы сьцьвярджалася, што ў высылцы Дубоўка знаходзіўся ў Яранску – дваццаць кіламетраў ад Жылкі. «Якіх дваццаць?! – брала злосьць Дубоўку. – Нават напрамкі Яранск ад

Уржуму, дзе трымалі Уладзю і адкуль ён ужо не вярнуўся, каля ста дваццаці кіламетраў, а па дарозе пад дзьвесьце будзе!» А напрыканцы зьдзекліваe: Жылка быў вызвалены з-пад нагляду НКВД і яму ва Уржуме жылося добра...

Напісаў у «ЛіМ» абвяржэньне, хоць і разумеў, што дарэмна, бо – усьведамляў напоўніцу – нагляд колішняга НКВД заставаўся яшчэ жывучым.

Бо ўбіраліся ў сілу Брэжнеў і тыя, хто вакол яго.

І тыя, хто пад ім – таксама. Як і былі, так і засталіся: у геніях, у трыумфатарах.

Крапіва, да прыкладу... Толькі ў 1971 годзе – ордэн Кастрычніцкай рэвалюцыі (указ Прэзідыуму Вярхоўнага Савета СССР), Дзяржаўная прэмія СССР «за комплекс работ па беларускай лінгвагеаграфіі» (пастанова ЦК КПСС і Савета міністраў СССР за подпісамі Брэжнева і Касыгіна). А яшчэ праз тры гады – Дзяржаўная прэмія БССР ад Машэрава...

Барані бог: у яго не было ні зайздрасьці, ні злосьці. «Усё праходзіць, усё мінае, – думалася яму бяссоннымі старэчымі начамі. – Аднак жа чаму так проста сходзяць і хлусьня, і здрада, і подласьць, і грэх?!»

І маладым ён не мірыўся з гэтым, і цяпер – не зьмяніўся. Раніцай аддрукаваў на машынцы незвычайны ліст – да Крапівы, паклаў у канверт і надпісаў: «Пасьлаць пасьля маёй сьмерці». Рукапіс жа схаваў у шуфляду:

Падобны з твару да машчэй,
А па душы даўно нябожчык,
Ты жыў яшчэ, стары кашчэй,
Усё мінаеш хату з дошчак.

Жывеш і сохнеш – мільянер!
Адхватчык прэміяў і лаўраў,
Абы накалупаўся верш,
Адразу ладзіш гром літаўраў.
<...>
А шмат каго папрыбіраў,
Каб на шляху не заміналі,
І выйшаў суха з мокрых спраў
Ды выстукаў яшчэ медалі.

Ты страціў бы і зрок і слых,

Калі б судзіць цябе зьявіцца
Маглі Сымон Баранавых,
Макар Шалай, Сымон Куніцкі.

Іх без віны і без пары
Бяда зьмяла ў апошні вырай.
Ці не дарма твае сябры
Былі з табой занадта шчыра?
<…>
Ты думаеш, згубіўся знак,
Забыты словы, сьцёрты крокі,
І час мінуў, і сьведак брак? –
А я, а Бог, а сьвет шырокі?

Знацьця ў людзей не адбярэш,
Як ты ні ўпраўны на расправы,
Ды захлынешся ўрэшце рэшт
Сваёю славаю крывавай.

Правін ня зьмесьціш на гарбе,
На шыю зьві сабе вяроўку.
Без прывітаньня да цябе,
З труны
Уладзімір Дубоўка.

P. S.

Чаму з труны? Апаскі менш.
Хачу крыху пажыць сягоньня,
А то бяз часу ў жвір сапхнеш,
Як гэты верш цябе дагоніць.
Калі ж адвееш ты, як дым,
Мой запавет наконт вяроўкі, –
Сьвет зьдзейсьніць сам, сьвет мае чым…
Клянуся барадой Дубоўкі.

Як сустрэча са сьветлым – новы ліст ад Гаўрылы Гарэцкага, сябраў адказ – хуткі і расчулены:

«Засмуціла нас вестка, што і Марыя Пятроўна, і Ты пакрысе хварэеце, а часам – нават і цяжка нядужаеце.

А словы Твае “Адным словам – надышла зіма майго веку” сьціснулі сэрца…

Зімы ў паэтаў не бывае – дух у іх, і асабліва Твой, не старэе. Ты ўсё яшчэ малады Волат, Асілак, і слова Твайго, і песень Тваіх чакае Бацькаўшчына.

Неяк у Маскве ў 1944 годзе выпадкова сустрэўся я на станцыі метро "Бібліятэка Леніна" з Максімам Танкам. Гаманілі пра аднаўленьне Беларусі. Гаманілі пра беларускую паэзію і яе будучыню праз 50–100 гадоў.

"Хто застанецца незабыўным з беларускіх паэтаў?" І Максім Танк сказаў: "Купала, Колас, Багдановіч, Дубоўка".

Дык ці ж маеш Ты права думаць пра сваю зіму? Ты павінен сказаць яшчэ сваё вялікае слова... Братачка, дарагі, пішы вершы, ніхто лепш не напіша. Усе чакаюць, будучыня чакае, моладзь чакае, каб павучыцца ў Вялікага Майстра, у Старэйшага, самага таленавітага...»

А ў адказ Майстар толькі мудра ўсьміхнуўся. Бо ведаў, што ў адну рэчку другі раз ужо ня ўвойдзе. І такі цяжар на душы адчуваў – аніякаму волату не пад сілу. І за маладымі ўжо – не пасьпее.

Ды і якая паэзія – на восьмым дзясятку?! Тут хоць бы ўжо прозай пасьпець дагаварыць...

6.

Ноччу ня спалася. Хварэла жонка, а лекі скончыліся.

Падскочыў мароз, аж гуло шкло ў вакне.

І трэба ж: вясна, сакавік, а тут – мароз.

Трывожна чакаў раніцы – адкрыцьця аптэкі.

Калі адыходзіў, Марыя прачнулася:

– Можа, не хадзі? І без таблетак жыць буду... Холад, яшчэ сам захварэеш.

А ён адно матнуў рукой – і палец да вуснаў: сьпі, маўляў, не хвалюйся.

На вуліцы ўжо і ліхтары патушылі, і дворнік пачаў на ходніку дзяўбаць рыдлёўкай лёд.

Прывіталіся, і Дубоўка падумаў, што ўжо даўнавата ня быў на Беларускім вакзале, куды раней, – асабліва летам, калі чыгункай прыязджала ў Маскву шмат беларусаў, з гароднінай, з насеньнем, з пазнавальнай гаворкай, – любіў езьдзіць са сваіх Чаромушак часта.

Пайшоў напрасткі, паўз дзіцячую пляцоўку, каб хутчэй управіцца і вярнуцца дамоў.

Прачнуліся, пачуў, вароны на даху суседняй хрушчоўкі.

І ў ветры ўжо штосьць адліжнае, вясновае... І бадзёрасьць незвычайная...

Ён нават не пасьпеў напачатку зразумець – адкуль гэты пякучы боль па ўсёй назе. Пасьлізнуўся, выцяўся аб пакрытыя ільдом і сьнегам прыступкі. І трэба ж – ня ўстаць. Пальцы варушацца, а як толькі на калена спрабуе ўзьняцца – токам па ўсім целе, ажно да жывата, ажно ў вачах іскрыцца, і пацямнела ўсё…

Яго першым заўважыў дворнік. Ён і выклікаў «хуткую».

Бальніца, шмат сьвятла і сонных хірургаў. Некалькі ўколаў для пад-трымкі – і медычная канстатацыя: пералом бярцовай косьці, патрэбен наркоз – і тэрміновая аперацыя.

Што ж: трэба – дык трэба.

Вось толькі нешта сэрца пачынала марудзіць, зьбівацца. Яго спрацаванае і надарванае двума інфарктамі сэрца…

Наркоз доўга ня мог яго скарыць. Мроілася штось прыгожа-каляровае, далёкае. Чуліся галасы. У вачах плылі кніжныя старонкі, радкі. Нават усьміхнуўся: як штось вязанае – за нітку, так вось цяпер па радках разьбіраўся ў галаве друкаваны тэкст…

А затым ён заснуў – мякка, соладка. Бачыў сябе малым – вечарам у бацькоўскай хаце.

…На вуліцы пасьвістваў марозны вецер, а ён сьцішыўся ў запечку, каля коміна, наклаў на чарэн, каб не было мулка, старых апранахаў і цікаваў зьверху за тым, што робіць бацька… А ў вакне, за агародамі, там, дзе намятала найболей сьнегу, такая горка!

І не было ні зямлянкі, ні маскоўскай кватэры, ні лагерных сьценаў, ні сібірскіх пабудоваў…

Ён – толькі на горцы. На іскрыстым белым узвышэньні. Узьлятае – і становіцца лёгкім, як аблачынка над хатай. Пэўна, расьцерушыла-раздала ўвесь сьнежны запас – і таму такая сьветлая… таму такая лёгкая…

Таму такая…

Таму…

2001, 2003